

*Міхал Шымялевіч, 1937 г.*



*Рэдакцыйны калектыў "Лідскай Зямлі", 1937 г. Менавіта гэты здымак быў надрукаваны ў 4-м нумары часопіса. Злева - направа: Аляксандр Снежка, Антон Гржымайла - Прыбытка, Міхал Шымялевіч і рэдактар часопіса Уладзіслаў Абрамовіч*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

**№ 1 ( 93) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2021 г.**

## У НУМАРЫ:



**На першай старонцы вокладкі:** Дом польскі ў Лідзе. *Здымак С. Судніка. 2021 г.*

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// nslowa.by**

**Наклад 200 асобнікаў**
**8 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2878.**
**Часопіс падпісаны да друку 31.03.2021 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.09.2021 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 3,11 руб.**
**індывід. 6 мес. - 6,22 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218 – 1792









**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# Дзень роднай мовы і 14-я Агульнацыянальная дыктоўка на Лідчыне

Напярэдадні Дня роднай мовы каля 50 супрацоўнікаў Гарадзенскага аблвыканкама сабраліся разам, каб напісаць беларускамоўную дыктоўку.

Мерапрыемства, якое настойліва рухаецца Лідчынай, стала ўжо традыцыйным для ўсёй Гарадзеншчыны. Кожны год яго ўдзельнікі з задавальненнем бяруць чысты аркуш паперы і ручку, каб звярнуцца да мілагучнага беларускага слова. Многія прызналіся, што напачатку крыху хваляваліся, але, нягледзячы на гэта, атрымалі добры настрой і шмат пазітыўных эмоцый.

- Беларуская мова - родная мова маёй бабулі і матулі, тое, што заўсёды застанецца ў сэрцы, - падзяліўся намеснік старшыні аблвыканкама Віктар Пранюк. - Хачу сказаць усім нам, што мова - адзіная частка нашай культуры, якая аб'ядноўвае ўсіх жыхароў краіны. Таму, калі 2021 год мы аб'явілі Годам народнага адзінства, то павінны менавіта мову зрабіць тым падмуркам, на якім гэтае адзінства будзе будавацца.

Сёння ўдзельнікі прыгожай беларускамоўнай акцыі ўспомнілі, што значыць уважліва слухаць настаўніка, успрымаць тэкст на слых, самастойна правяраць памылкі і атрымоўваць адзнакі. У аўдыторыі, трэба сказаць, аказалася шмат выдатнікаў.

- Дыктоўка заўсёды праходзіць у вельмі прыемнай атмасферы: мы запрашаем настаўніка вышэйшай катэгорыі, падбіраем тэксты, якія было б зручна напісаць любому ўдзельніку і якія расказваюць нам пра нашу Радзіму, - расказаў начальнік галоўнага ўпраўлення адукацыі аблвыканкама Руслан Абрамчык. - Важна таксама, каб не толькі ў гэтыя дні, а на працягу ўсяго года мы ўспаміналі тых людзей, якія стваралі літаратурную беларускую мову. Ва ўстановах адукацыі і культуры мы будзем ушаноўваць імёны нашых пісьменнікаў - стогадовых юбіляраў Івана Шамякіна і Івана Мележа, а таксама Кандрата Крапіву, святкуючы яго 125-годдзе. Гэтаму будзе прысвечана шмат цікавых мерапрыемстваў, конкурсаў.







Чытала дыктоўку настаўніца беларускай мовы гімназіі № 10 Гародні Ірына Мялешка. Яна прапанавала тэкст беларускага пісьменніка Янкі Сіпакова "Наш родны край".

- Абраны тэкст вельмі прыгожы, блізкі і мілы майму сэрцу, - рассказала настаўніца, - і, я думаю, усе, хто сёння пісаў гэтую дыктоўку, таксама адчулі прыгажосць слова нашага пісьменніка. Тэкст быў нескладаны, насычаны, канешне, знакамі прыпынку, але тыя, хто ўважліва слухаў, памылак не дапусцілі. Наша зямля, наша мова - тое адзінае, чым мы павінны даражыць, тое, што нас аб'ядноўвае і робіць сапраўднай нацыяй.

Дарэчы, напісаць дыктоўку сёлета планавалася не толькі ў Гарадзенскім аблвыканкаме. Такое ж мерапрыемства прайшло ў абласным інстытуце развіцця адукацыі і абласной навуковай бібліятэцы імя Карскага. У раёнах вобласці акцыю правялі грамадскія аб'яднанні.

На самой Лідчыне 14-ю Агульнанацыянальную дыктоўку сёлета распачалі лідскія курсы "Мова нанова". Дыктоўка пачалася 17 лютага ў 18.30 у лідскай кавярні "Тутака".



Тэкст па "Глыбокай плыні" Івана Шамякіна чытала кіраўнік курсаў, сябар Лідскай гарадской рады ТБМ Марыя Іосіфаўна Ганчар.

Напісалі проста выдатна. Не больш трох памылак.

Дыктоўка была аздоблена міні-канцэртам намесніка старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, барда Сержука Чарняка. У дыктоўцы браў удзел намеснік старшыні ТБМ імя Ф. Скарыны, старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік.



Урачыста распачала дыктоўку Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы. Дыктоўкі была прысвечана 80-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны, а таксама Году народнага адзінства ў Беларусі. Кожны, хто прыняў удзел у дыктоўцы, хацеў паказаць, што любіць, шануе і ведае родную мову.

Для напісання дыктоўкі быў узяты ўрывак з рамана Івана Шамякіна "Глыбокая плынь" (сёлета адзначаецца 100-годдзе з дня нараджэння Івана Шамякіна). Названы раман на тэму Вялікай Айчыннай вайны, партызанскай барацьбы прынёс пісьменніку народную славу. Дыктавала тэкст бібліятэкар Надзея Камароўская.



- Удзельнікі дыктоўкі вельмі добра напісалі яе, - адзначае пасля прагляду



напісанага Надзея Міхайлаўна. - Памылак мала, а ў некаторых і зусім няма. Памылкі ў асноўным пунктуацыйныя (ёсць у тэксце некалькі складаных сказаў). Многім можна паставіць васьмёрку ці дзявятку. Радуе, што вельмі добра напісалі і прысутныя школьнікі - ім, школьнікам, пераймаць ад старэйшых пакаленняў эстафету захавання роднай мовы.

Удзельнічалі ў напісанні дыктоўкі і прадстаўнікі БРСМ, у тым ліку першы сакратар і галоўны спецыяліст Лідскай раённай арганізацыі ГА "БРСМ" Вольга Міхаловіч і Вольга Козіч. Дарэчы, у той жа дзень ва ўсёй Гарадзенскай вобласці стартаваў праект "Адзіны дыктант на прыз БРСМ". Напісанне адзінай дыктоўкі на працягу некалькіх дзён праходзіла ва ўсіх першасных



арганізацыях БРСМ вобласці, у тым ліку і Лідчыны.

Пасля напісання дыктоўкі ў бібліятэцы ўсе яе ўдзельнікі атрымалі ад моладзевай арганізацыі памятныя падарункі - сшыткі. Работнікі бібліятэкі пасля мерапрыемства арганізавалі для прысутных адкрыты прагляд кніг Івана Шамякіна "Пісьменніцкае слова на далоні".



Святкаванне Міжнароднага дня роднай мовы стала вельмі важным святам для супрацоўнікаў, чытачоў, наведвальнікаў усіх бібліятэк раёна і звычайных аматараў беларускай мовы. Усе арганізаваныя мерапрыемствы былі накіраваны на папулярызацыю і захаванне роднай мовы.

Шанаванне роднай мовы распачалі ў філіяле "Дзітвянская сельская бібліятэка" 17 лютага, калі гасцей запрасілі на гадзіну беларускай мовы "Гучы, родная мова!". Вучні 7 класа ДУА "Дзітвянская сярэдняя школа" з задавальненнем слухалі вершы беларускіх аўтараў, урыўкі з празаічных твораў, бо беларуская мова - гэта



родная мова, сакавітая, меладычная і пяшчотная. Кемлівыя знаўцы роднай мовы мелі магчымасць прыняць удзел у інтэлектуальна-пазнавальным моўным турніры. Гульня праходзіла ў вострай і напружанай барацьбе. Святочнасць мерапрыемству надалі музычныя нумары таленавітых вучняў мясцовай школы.

Традыцыйным становіцца ўдзел філіялаў у Агульнанацыянальнай дыктоўцы, сёлета акцыю падтрымалі Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы, філіял "Лідская гарадская бібліятэка № 3", філіял "Лідская гарадская бібліятэка № 6 імя В. Таўлая", філіял "Мінойтаўская сельская бібліятэка" і філіял "Дварышчанская сельская бібліятэка".

У філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 6 імя В. Таўлая" была праведзена літаратурная гасцёўня




"Жыві, мая родная мова!", на якой прысутным таксама прапанавалі напісанне дыктоўкі, з якой справіліся ўсе на выдатна. Падчас мерапрыемства гучалі вершы і песні на роднай мове, дадаткам стаў агляд кніг "З любоўю да роднага слова".

Тым жа днём у музейным пакоі "Спадчына" філіяла "Дварышчанская сельская бібліятэка" сабраліся аматары беларускай мовы - вучні ДУА "Дварышчанскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад - сярэдняя




школа", каб разам са сваёй настаўніцай Шостак Ірынай Леанідаўнай напісаць дыктоўку па творы Івана Шамякіна "Глыбокая плынь".

"З роднай моваю на "ты"" - пад такой назвай прайшла гульня-спаборніцтва для гасцей філіяла "Мінойтаўская сельская бібліятэка". Для прысутных бібліятэкар правяла некалькі конкурсаў на веданне роднай мовы, гісторыі роднага краю, традыцый беларускага народа. А пасля ўсе разам прынялі ўдзел у напісанні Агульнанацыянальнай дыктоўкі.




Для сяброў лідскіх арганізацый ГА "Таварыства беларускай мовы" 14-я Агульнанацыянальная дыктоўка традыцыйна прайшла ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 3".

Акрамя таго мерапрыемствы да Дня роднай мовы прайшлі тут і для дзяцей з СШ № 13 г. Ліды.





Сапраўдная любоў да сваёй краіны неймаверная без любові да сваёй мовы. Кожны чалавек з дзяцінства пачынае гаварыць, думаць, разважаць на роднай яму мове. У філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 4" прайшла паэтычная гадзіна "Гімн роднай мове", прымеркаваная да святочнага дня. У гэты дзень прайшлі гучныя чытанні вершаў беларускіх пісьменнікаў: П. Панчанкі, У. Дубоўкі, М. Танка, К. Цвіркі і інш. з навучэнцамі ДУА "Лідская дзіцячая музычная школа мастацтваў".




Філіял "Гудская сельская біліятэка" ветліва сустрэў гасцей на гадзіне роднай мовы "Каласы роднай мовы". Вучні 6-9 класаў мясцовай школы завіталі на мерапрыемства і апынуліся на сапраўдным спаборніцтве знаўцаў і аматараў беларускай мовы.




Юных чытачоў чакалі ў філіяле "Лідская гарадская дзіцячая бібліятэка" на мерапрыемстве "Свет беларускіх кніг!", дзе яны змаглі пазнаёміцца з пісьменнікамі, якія пісалі на беларускай мове, выкарыстоўвалі яе ў сваім жыцці, ганарыліся і паважалі беларускае слова. Каб лепш валодаць, умець размаў-ляць і разумець беларускую мову, для дзяцей былі праведзены віктарына "Беларускія перакладчыкі" і гульня "Мовазнаўцы". Хлопчыкі і дзяўчынкі паразважалі, для чаго чалавеку і дзяржаве трэба мець уласную мову, а таксама называлі іхнія самыя любімыя беларускія словы. Для дзецей быў арганізаваны адкрыты прагляд літаратуры "Роднае слова ў кнігах".




Не пакінуў без увагі святочны дзень і філіял "Інтэграваная бібліятэка аграрарадка Бердаўка", дзе быў праведзены вечар "Роднай мовы жывыя вытокі", прысвечаны Міжнароднаму дню роднай мовы. Удзельнікі мерапрыемства змаглі пазнаёміцца з гісторыяй узнікнення беларускай мовы, яе фармаваннем і асаблівасцях, пазнаёмілі з вуснай народнай творчасцю і з творамі пісьменнікаў-юбіляраў 2021 года.

Цікавыя імпрэзы прайшлі ў Мажэйкаўскай і Тарноўскай сельскіх бібліятэках.







І гэта толькі частка яскравых і найцікавейшых мерапрыемстваў, якія прайшлі ва ўтульных залах бібліятэк Лідчыны. Спадзяемся, што мерапрыемствы, прысвечаныя роднай мове, нікога не пакінулі абыякавымі, і бібліятэкары змаглі данесці да ўсіх тое асноўнае, што трэба ведаць і любіць - "зямлі бацькоўскай слова". Праведзеныя мерапрыемствы дазволілі перажыць моцныя пачуцці радасці і гонару за сваю Радзіму, пераканацца, што родная мова - бясцэнны скарб, якім усе павінны ганарыцца і які павінны шанаваць.

Святкаванне Дня роднай мовы стала добрай традыцыяй у Лідскім каледжы ГрДУ імя Янкі Купалы. У гэтым годзе выкладчыкамі і навучэнцамі ўстановы быў падрыхтаваны шэраг цікавых мерапрыемстваў.

Дзень роднай мовы пачаўся традыцыйна - самай масавай і папулярнай акцыяй "Гавары са мной пабеларуску". З самай раніцы ў фае каледжа прыхільнікі беларускай мовы сустракалі выкладчыкаў і навучэнцаў прыветлівымі словамі і запрашэннем на працягу дня гаварыць на роднай мове, уручалі кожнаму невялікія буклеты. У педагагічным корпусе каледжа навучэнцы пазнаёміліся з відэапрэзентацыяй, падрыхтаванай дзяўчатамі 1курса групы 84 да. На працягу дня ў бібліятэцы працавала выстава кніг да 100-годдзя з дня нараджэння І. Шамякіна і І. Мележа, а таксама былі прадстаўлены лепшыя конкурсныя малюнкі па матывах баек К. Крапівы, прысвечаныя 125-гадоваму юбілею байкапісца. Навучэнцамі 3 курса групы 98 па была падрыхтавана віктарына. Лепшыя знаўцы беларускай мовы і літаратуры былі ўзнагароджаны прызамі. Багата ўражанняў пакінула экскурсія навучэнцаў у Цэнтр рамёстваў і традыцыйнай культуры, дзе яны змаглі дакрануцца да





скарбаў народнай творчасці і стаць удзельнікам майстра-класа па ткацтве. А вось бадай самай масавай і папулярнай па традыцыі стала ўсеагульная дыктоўка, якую пісалі 210 навучэнцаў каледжа 1- 4 курсаў усіх спецыяльнасцей.

Дзень роднай мовы праходзіць у каледжы ўжо не першы год і нязменна ахоплівае нямала цікаўных і неабыякавых да роднага слова навучэнцаў і выкладчыкаў. Далучэнне да роднага слова, літаратуры, культуры гарантавана стварае святочны настрой і пакідае шмат прыемных уражанняў, а самае галоўнае - папулярызуе наша роднае слова.

Лідскі дзяржаўны музычны каледж не абмежаваўся адным днём і адзначыў Тыдзень роднай мовы.

Пачынаючы з 16-га і заканчваючы 23 лютага, кожны дзень у музычным каледжы быў напоўнены рознымі тэматычнымі мерапрыемствамі і гучаннем роднай мовы. Навучэнцы змаглі праявіць сябе ў розных конкурсах: ад чытання вершаў да падрыхтоўкі малюнкаў і



ілюстрацый да твораў беларускіх пісьменнікаў. Таксама не абышлося без праверкі сваіх ведаў падчас дыктоўкі тэкстаў на беларускай мове.

Галоўны акцэнт тыдня быў зроблены на музычных скарбах нашай роднай мовы. Навучэнцы разам з настаўнікамі правялі некалькі канцэртаў з творамі беларускіх аўтараў, а таксама арганізавалі літаратурнамузычную гасцёўню "Музыка нас звязала".

Тыдзень беларускай мовы закончыўся сустрэчай з лідскай паэтэсай Людмілай Краснадубскай і незвычайным конкурсам буктрэйлераў.

**"Размаўляй на мове, а не пра мову".** Гэты заклік узяты са стэнда да Тыдня роднай мовы СШ № 15 г. Ліды. І яго пара рабіць дэвізам усяго руху за мову, і яго робяць такім ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі Лідскага раёна.



Сёлета, нягледзячы на складаную эпідэмічную і сацыяльную сітуацыю, лідскія школьнікі засталіся галоўнай ударнай сілай Агульнанацыянальнай дыктоўкі. У дыктоўцы ўдзельнічалі ўсе 34 школы раёна. На жаль, сёлета не ўдалося атрымаць дакладныя звесткі па кожнай школе, але агульную лічбу ўпраўленне адукацыі агучыла - 7485 вучняў. Такім чынам Лідчына застаецца фарпостам Агульнанацыянальных дыктовак у Беларусі, і так ужо многія гады.

Акрамя дыктовак цэлы тыдзень ішлі самыя розныя мерапрыемствы на карысць роднай мовы. Дапамагалі школам у папулярызацыі роднай мовы 50 садкоў і тры прафесійныя ліцэі.

І гэты тыдзень ёсць просты і сціплы адказ тым, хто крычыць, што ўсё прапала, а сам нічога не робіць. На здымку ў класе СШ №15 дыктоўку пішуць 10 чалавек. І не цяжка прыкінуць, колькі павінна было прайсці такіх дыктовак, каб атрымаць 7485 удзельнікаў.

**Не засталіся ўбаку і ўстановы культуры.**

Два дні ішлі мерапрыемствы ў Лідскім палацы культуры з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы.



19 лютага работнікі Палаца культуры горада Ліды пачалі працоўны дзень з акцыі "Вітаемся па беларуску" і гульнявой праграмы "Гульня слоў".

Гэта стала арыгінальнай праверкай на веданне мовы! Пасля прывітання і пажадання добрага ранку, удзельнікам прапаноўвалася прыдумаць новае слова на апошнюю літару, амаль як у гульні "Гарады". З задавальненнем работнікі падтрымлівалі эстафету і



будавалі ланцужок з беларускіх слоў.

Сапраўдным сюрпрызам стала смачная і духмяная бабка з бульбы са смятанай ад кіраўніка народнага тэатра гульні "100 сяброў" Ірыны Кузняцовай - ёй частаваліся ўсе гульцы.

Дапоўніла і ўпрыгожыла мерапрыемства выстава-інсталяцыя аўтарскіх лялек "Лялька, як мова беларускага народа" ад аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры дзяржаўнай установы "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці".

У 18.00 са словаў:

*Мова продкаў нашых і нашчадкаў -*
*Шэпт дубровы і пчаліны звон, -*
*Нам цябе ласкава і ашчадна*
*Спазнаваць ажно да скону дзён, -*

пачаўся канцэрт да Дня роднай мовы.

Ужо многія гады ідуць тут канцэрты ў гонар роднай мовы. Кожны год нешта трохі замінае, але кожны год гэтыя канцэрты адбываюцца і праходзяць на высокім мастацкім узроўні.

Распачала канцэрт вядоўца Тамара Зенюкевіч, якая некалі паспрыяла, каб у Лідзе прайшла Агульнанацыянальная дыктоўка ў першы раз.



Пачаўся канцэрт песняй "Спадчына" ў выкананні саліста гурта "Медуніца" Аляксея Міранюка. І пайшлі нумар за нумарам: ансамбль скрыпачоў "Славяначка" з салісткай Вольгай Пчыцкай, харэаграфічны калектыў









"Чаравічкі", хор ветэранаў "Майскія зоры".

Выступілі паэтэса Ганна Рэлікоўская, салістка калектыва рэтра-песні "Мерыдыян" Валянціна Гайдурава, спявачка і паэтэса Людміла Краснадубская, кіраўнік народнага гурта "Прэмія" Віктар Лебядзевіч.

Пад цёплыя воплескі была прынятая гледачамі п'еса "Курачка і каласок" тэатра "Батлейка" Лідскага цэнтра культуры і народнай творчасці.

Завяршыў канцэрт Славамір Шклёнік, саліст калектыва рэтрапесні "Мерыдыян" песняй "Мой родны кут".



І ўсе 75 хвілін на адным дыханні. І ўсё пабеларуску.

І трэба ж так падгадаць што менавіта сёння Палац культуры г. Ліды ўзнагароджаны Ганаровай граматай Міністэрства культуры за шматгадовую творчую дзейнасць па папулярызацыі нацыянальнай культуры.

У суботу 20 лютага ў рамках абласнога інфармацыйна-творчага праекта "Шосты школьны дзень" творчыя калектывы Палаца культуры горада Ліды



прапанавалі шэраг мерапрыемстваў да Дня роднай мовы.

Спачатку і дзецям і дарослым прапанавалася прыняць удзел у інфармацыйна-гульнявой праграме "Пагуляем ў роднае слова" і майстар-класе "З добрымі думкамі" па вырабе лялек-абярэгаў. З задавальненнем наведвальнікі ўспаміналі беларускія словы і шылі маленькия паркалёвыя лялечкі.

Потым на спектакль "Як казкі пераблыталіся" запрасіў узорны тэатр "Какос".

Вясёлая і дынамічная пастаноўка на беларускай мове па матывах народных казак не пакінула абыякавымі і дзяцей, і дарослых. А фотасесія з галоўнымі героямі акзалася сапраўдным сюрпрызам для ўсіх.

- Вельмі цікава і смешна! Касцюмы і дэкарацыі неверагодныя. Будзем і далей прыходзіць да вас у госці, - пракаменціравала спектакль адна з мам.

Пасля спектакля хлопчыкаў і дзяўчынак запрасіла танцавальна-забаўляльная праграма "Babydance"!

Музычна-тэматычная праграма **"Жыве ў вяках беларускае слова"** ў 15.00 у малой зале Палаца культуры стала працягам шэрагу мерапрыемстваў да Дня роднай мовы.

*У мовы нашай мноства слоў*
*Крамяных, росных, васільковых*
*Ад мурагоў і ад лясоў,*
*Ад светлых высяў жаўруковых.*
*Журыцца ўмеюць і звінець,*
*Спяваць у шумным карагодзе.*
*Іх трэба сэрцам разумець*
*І выслухоўваць у народзе.*



Удзельнікі музычна-эстраднага калектыва "Талісман", эстраднай студыі "Акцэнт", харэаграфічнага калектыва "Чаравічкі", эстраднай студыі "Ліда-мюзікл" і народнага аматарскага аб'яднання "МузАльянс" прадставілі свае лепшыя творчыя нумары.

Шчырыя воплескі сталі лепшай узнагародай для артыстаў.

У Лідскім раённым цэнтры культуры і народнай творчасці ўзгадалі, што ў 2021 годзе спаўняецца 22 гады з моманту заснавання Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый Міжнароднага дня роднай мовы і 31 год з дня прыняцця ў Беларусі "Закона аб мовах".

З гэтай нагоды ў мэтах папулярызацыі і падтрымкі беларускай мовы ў перыяд з 19 па 21 лютага 2021 года ва ўсіх філіялах (14 устаноў культуры) ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" прайшлі Агульнанацыянальныя дыктоўкі, прымеркаваныя да гэтага дня, па тэкстах, прысвечаных Году народнага адзінства і 80-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны!











Адзначаць Міжнародны дзень роднай мовы стала традыцыяй у супрацоўнікаў Дома Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея. Ужо не першы раз тут збіраюцца мясцовыя пісьменнікі і прыхільнікі беларускага мастацкага слова. Тут, у сценах дома-музея, пастаянна гучыць родная мова, бо, як вядома, тут жыў заходнебеларускі паэт Валянцін Таўлай, які ў гады вучобы ў Слоніме настойваў на тым, што яго мова - беларуская, а нацыянальнасць - беларус, за што быў выключаны з вучэльні. Гэта гістарычны факт.



З мэтай папулярызацыі і падтрымкі беларускай мовы і вырашана праводзіць Агульнанацыянальныя дыктоўкі. На гэты раз яны прысвечаны Году народнага адзінства і 80-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

З прапанаваных тэкстаў быў узяты ўрывак з рамана Івана Шамякіна "Глыбокая плынь". Тэкст чытаў навуковы супрацоўнік Дома Таўлая Алесь Хітрун. Адным словам, дыктоўка ўдалася. І месца было падзелена паміж галоўным рэдактарам часопіса "Лідскі летапісец" і газеты "Наша слова" Станіславам Суднікам і лідскім паэтам, сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімірам Васько, ІІ месца атрымала актыўная лідзянка, удзе-



льніца ў шматлікіх беларускамоўных мерапрыемствах горада і раёна Марыя Ганчар, ІІІ месца было прысуджана актыўным лідскім паэтэсам Станіславе Белагаловай і Але Юшко. Пераможцы І і ІІ месцаў атрымалі ў падарунак па адным асобніку літаратурна-мастацкага зборніка “Ад лідскіх муроў” № 9 і кожны з удзельнікаў мог набыць чарговыя нумары часопіса “Лідскі летапісец”.

Усяго ў Лідскім раёне ўдзел у 14-й Агульнанацыянальнай дыктоўцы ўзялі больш за 8500 чалавек.

***Ганна Радзюк, Аляксандр Мацулевіч, Вікторыя Шундрык, Станіслаў Суднік, Марыя Чарняк.***

# КРОНІКА ЛІДЫ



5 студзеня кіраванне гандлю і паслуг Лідскага райвыканкама ўзначаліў Алег Крывец. Да гэтага Алег Ігаравіч працаваў намеснікам начальніка раённага кіравання гандлю і паслуг.



13 студзеня на ААТ "Лідахарчканцэнтраты" запушчаны ўчастак "Геркулес". Пасля тэхнічнай мадэрнізацыі тут установлена новая лінія па вытворчасці зерневых камякоў, у тым ліку камякоў, якія не патрабуюць варкі.



13 студзеня ў Гародні адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне лаўрэатаў абласной прэміі імя Аляксандра Дубко "За творчыя дасягненні ў вобласці культуры і мастацтва". У ліку лаўрэатаў названы і прадстаўнікі Лідскага раёна - дырэктар Лідскага гістарычна-мастацкага музея Вольга Піліпчук і мастацкі кіраўнік Палаца культуры г. Ліды Іна Альшэўская.




У лютым напярэдадні Дня роднай мовы ў Лідзе выйшаў першы ў гісторыі Дзятлаўшчыны літаратурны альманах "Ятранка". Альманах выйшаў пры падтрымцы УІ “Выдавецкі дом ТБМ”.

25 лютага ў Лідзе ўрачыста адкрыты кабінет камп'ютарнай тамаграфіі. У цырымоніі прынялі ўдзел старшыня Гарадзенскага аблвыканкама Уладзімір Каранік, старшыня Лідскага райвыканкама Сяргей Ложачнік, намеснік Міністра аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Барыс Андрасюк, старшыня раённага Савета дэпутатаў Інэса Белуш, галоўны ўрач Лідскай ЦРБ Вадзім Трубчык, калектыў бальніцы.






6 сакавіка, адбыўся юбілейны, 10 з'езд грамадскага аб'яднання Саюза палякаў на Беларусі. На з'ездзе быў абраны новы кіраўнік нацыянальнага аб'яднання. Ім стаў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь VII склікання Аляксандр Сангін.

Аляксандр Сангін нарадзіўся 12 кастрычніка 1969 года ў вёсцы Тарнова Лідскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка па спецыяльнасці "Гісторыя", Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па спецыяльнасці "Дзяржаўнае кіраванне сацыяльнай сферай". Абіраўся дэпутатам Гарадзенскага абласнога Савета дэпутатаў 27-га склікання. З'яўляецца чальцом Пастаяннай камісіі па заканадаўстве Палаты прадстаўнікоў.

У сакавіку выйшла чарговая кніга аднаго з найстарэйшых пісьменнікаў Лідчыны Уладзіміра Васько "На peравалах часу".






У канцы сакавіка абвешчаны пераможцы рэспубліканскага конкурсу "Жанчына года-2020". Пераможцам ў намінацыі "Актыўная грамадзянская пазіцыя" стала Таццяна Петух, дырэктар Лідскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

# Інфармацыя пра вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця Лідскага раёна за 2020 год

### 1. Рэальны сектар эканомікі

#### 1.1. Прамысловы комплекс

На долю раёна прыпадае 10,9 % прамысловай вытворчасці вобласці. Аснову прамысловага комплексу ствараюць 27 прадпрыемстваў, сярэдняспісавая колькасць працаўнікоў на якіх складае 12,3 тыс. чалавек.

Прамысловымі арганізацыямі раёна за 2020 год выраблена прадукцыі ў фактычных адпускных цэнах, уключаючы кошт давальніцкай сыравіны, на суму 1196,3 млн. рублёў, тэмп росту - 109,1 %.

Індэкс прамысловай вытворчасці па наборы тавараў-прадстаўнікоў у базісных цэнах 2018 года за 2020 год - 105,3 %.

У аб'ёмах вытворчасці Лідскага раёна найбольшую ўдзельную вагу займае вытворчасць прадуктаў харчавання, напояў, хімічных прадуктаў, вылічальнай, электроннай і аптычнай апаратуры.

У апрацоўчай прамысловасці ў 2020 годзе індэкс прамысловай вытворчасці склаў 105,5 %. Вышэй узроўню 2019 года індэкс забяспечаны ў вытворчасці: прадуктаў харчавання, напояў і тытунёвых вырабаў - 104,5 %, вылічальнай, электроннай і аптычнай апаратуры - 150,9 %, гумовых і пластмасавых вырабаў, іншых неметалічных мінеральных прадуктаў - 102,3 %, машын і абсталявання, не ўключаных у іншыя групоўкі, -122,8%, транспартных сродкаў і абсталявання - 166,8 %, іншых гатовых вырабаў -106,6%.

У горназдабыўной прамысловасці ў 2020 годзе індэкс прамысловай вытворчасці склаў 106,7 %.

У водазабеспячэнні; зборы, апрацоўцы і выдаленні адыходаў, дзейнасці па ліквідацыі забруджванняў - 101,8 %.

У раёне за 2020 год павялічыўся выпуск найважнейшых відаў прамысловай прадукцыі (таварны выпуск): радыятараў цэнтральнага ацяплення; прыбораў на вадкіх крышталях, лазераў, іншых аптычных прыбораў і апаратуры, не ўключаных у іншыя групоўкі; частак і прыладдзя біноклеў, манокляў і аптычных тэлескопаў іншых; паслуг па ліцці чыгуну; пасудзін для піцця шкляных са свінцовага крышталю ручной апрацоўкі; бутляў, бутэлек, флаконаў і аналагічных вырабаў з пластмасаў; мяса сельскагаспадарчай птушкі; мукі кармавой, мяса-коснай; малака апрацаванага, вадкага; малака сухога тлустасцю не больш за 1,5 %; мукі дробнага памолу пшанічнай ці пшанічна-жытняй; вырабаў макаронных і аналагічных вырабаў мучных; вады мінеральнай і газаванай непадсалоджанай і неараматызаванай; піва; напояў безалкагольных іншых.

Аб'ём адгружанай прамысловай прадукцыі за 2020 год склаў 1175,1 млн. рублёў, з яго аб'ём адгружанай інавацыйнай прадукцыі - 106,7 млн. рублёў ці 9,1 %.

Найбольшую ўдзельную вагу адгружанай інавацыйнай прадукцыі забяспечылі: ААТ "Лідскі ліцейна-механічны завод", ААТ "Лідаграпраммаш", ААТ "Кіравальная кампанія холдынгу "Лідсельмаш", ЗАТ "Белтэкс Оптык", ААТ "Завод "Оптык", філіял Лідскі хлебазавод ААТ "Гроднахлебпрам", ААТ "Лідскі завод электравырабаў", ААТ "Лакафарба".

На 1 студзеня 2021 г. у 51 арганізацыі раёна ўкарэнена сістэма менеджменту якасці на адпаведнасць міжнародным стандартам ІСА серыі 9001-2015, з іх у 23 прамысловых арганізацыях.

#### 1.2. Сельская гаспадарка

На долю раёна прыпадае 4,3 % вытворчасці валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі вобласці.

За 2020 год вытворчасць валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі ў супастаўных цэнах склала 122,2 млн. рублёў, тэмп росту - 114,2 %, у тым ліку: тэмп росту па прадукцыі раслінаводства - 115,6%, жывёлагадоўлі - 113,2%. Усе арганізацыі павялічылі аб'ёмы вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі.

Удзельная вага прадукцыі раслінаводства ў агульным аб'ёме валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі склаў 45,0 %, прадукцыі жывёлагадоўлі - 55,0 %. У тым ліку: вытворчасць збожжа - 12,8%, алеянасення рапсу - 5,3 %, кармоў - 9,4 %, малака - 31,9 %, ялавічыны - 7,3 %, свініны - 10,6 %, мяса птушкі - 3,8 %.

#### 1.3. Будаўніцтва

Аб'ём будаўніча-мантажных работ за 2020 год склаў 112905 тыс. рублёў.

На будаўніцтва жылля за 2020 год накіравана 53384 тыс. рублёў ці 47,3 % ад фактычнага аб'ёму будаўніча-мантажных работ.

Будаўнічы комплекс раёна выканаў падрадных работ на суму 125255 тыс. рублёў, што склала 100,4% да 2019 года ў супастаўных цэнах.

За 2020 год уведзена ў эксплуатацыю 359 кватэр агульнай плошчай 37,69 тыс. кв. метраў, у тым ліку: 245 кватэр у шматкватэрных жылых дамах агульнай плошчай 16,006 тыс. кв. метраў, 114 кватэр плошчай 21,684 тыс. кв. метраў індывідуальнай жылой забудовы.

#### 1.4. Гандаль

Доля Лідскага раёна ў агульным аб'ёме рознічнага тавараабароту Гарадзенскай вобласці складае

13,1 %.

Аб'ём рознічнага тавараразвароту гандлю праз усе каналы рэалізацыі ў цэлым па раёне за 2020 год у фактычных цэнах склаў 693,8 млн. рублёў.

У структуры тавараразвароту арганізацый гандлю раёна пераважаюць харчовыя тавары (55,4 %).

Гандлёвымі арганізацыямі за 2020 год праведзена 12 кірмашоў, 110 выстаў-продажаў, 1369 распродажаў тавараў па зніжаных цэнах, 50 няцэнавых прома-акцый. Дадаткова атрыманы тавараразварот на суму 4,5 млн. рублёў.

Спажывецкі попыт больш, чым на 90% задавальняецца за кошт тавараў беларускіх вытворцаў па мясе і мясных прадуктах, масле сметанковым, яйках, гарэлцы, вінах пладовых, маторным паліве, цэменце, піламатэрыялах, плітцы керамічнай.

**1.5. Транспартная дзейнасць**

Пасажыраабарот за 2020 год склаўся на ўзроўні 100,7 млн. пасажыракіламетраў. Пасажырскім транспартам супольнага карыстання раёна перавезена 15,7 млн. пасажыраў.

Грузаабарот за 2020 год склаў 389,6 млн. тонакіламетраў. Грузавым аўтатранспартам раёна перавезена 1,4 млн. тон грузаў.

**2. Знешнеэканамічная дзейнасць**

**2.1. Экспарт тавараў**

Знешнегандлёвы абарот тавараў арганізацый раёна за 2020 год склаў 548,8 млн. даляраў ЗША.

Аб'ём экспарту - 406,8 млн. даляраў ЗША. Аб'ём імпарту - 142,0 млн. даляраў ЗША.

Сальда знешняга гандлю таварамі склалася дадатнае ў памеры 264,8 млн. даляраў ЗША.

Удзельная вага экспарту арганізацый раёна ў экспартных аб'ёмах вобласці - 16,5 %.

Арганізацыі ажыццяўлялі гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва з 79-ю дзяржавамі свету, пры гэтым тавары экспартаваліся ў 65 краін.

Буйнымі гандлёвымі партнёрамі з'яўляюцца Расійская Федэрацыя, Літва, Украіна, Польшча і Казахстан. Прадпрыемствы супрацоўнічаюць з 65-ю рэгіёнамі Расійскай Федэрацыі.

З мэтай наладжвання супрацоўніцтва Лідскі раён з пачатку 2020 года наведалі дэлегацыі Украіны, Літвы, Германіі, Польшчы, амбасадар Малдовы, прадстаўнік пасольства Японіі, падпісана дамова пра супрацоўніцтва з г. Ліваны (Латвія).

**2.2. Экспарт паслуг**

Па выніках працы за 2020 год знешнегандлёвы аварот паслуг арганізацый Лідскага раёна склаў 24770,0 тыс. даляраў ЗША.

Аб'ём экспарту паслуг у цэлым па раёне - 17258,8 тыс. даляраў ЗША. Імпарт паслуг - 7511,2 тыс. даляраў ЗША. Атрымана дадатнае знешнегандлёвае сальда ў памеры 9747,6 тыс. даляраў ЗША.

Удзельная вага экспарту паслуг арганізацый раёна ў экспарце паслуг вобласці складае 6,1 %.

Сярод паслуг найболей значнымі з'яўляюцца транспартныя паслугі.

**3. Інвестыцыйная і інавацыйная дзейнасць**

**3.1. Інвестыцыі ў асноўны капітал**

Па выніках 2020 года арганізацыямі раёна скарыстана 211,8 млн. рублёў інвестыцый у асноўны капітал.

Па арганізацыях, падпарадкаваных рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, аб'ём інвестыцый склаў 52,7 млн. рублёў.

Арганізацыямі, падпарадкаванымі мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, скарыстана 89,3 млн. рублёў.

Арганізацыямі, якія не маюць ведамаснай падпарадкаванасці, - 69,8 млн. рублёў.

Тэхналагічная структура інвестыцый:

- аб'ём інвестыцый на выкананне будаўніча-мантажных работ склаў 112,9 млн. рублёў;
- выдаткі на набыццё машын, абсталявання, транспартных сродкаў - 75,3 млн. рублёў;
- іншыя работы і выдаткі - 23,6 млн. рублёў.

**3.2. Замежныя інвестыцыі**

Па выніках 2020 года аб'ём паступлення прамых замежных інвестыцый на чыстай аснове (без уліку запазычанасці за тавары, работы, паслугі) - 10875,8 тыс. даляраў ЗША.

**4. Рынак працы і палітыка занятасці**

**4.1. Працаўладкаванне грамадзян на зноў створаныя працоўныя месцы**

За 2020 год колькасць працаўладкаваных грамадзян на зноў створаныя працоўныя месцы - 419 чалавек.

**4.2. Рынак працы і палітыка занятасці**

Сітуацыя ў сферы занятасці і беспрацоўі ў цэлым па раёне застаецца кіраванай.

У кіраванне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Лідскага райвыканкама па садзейнічанне ў працаўладкаванні за 2020 год звярнуліся 2612 чалавек, з іх 1492 (57,1 %) зарэгістраваных беспрацоўных.

На 1 студзеня 2021 г. лік беспрацоўных, якія стаяць на ўліку, склаў 122 чалавекі, узровень беспрацоўя - 0,2% да колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва.

Лік вакансій, заяўленых наймальнікамі ў службу занятасці, на канец снежня 2020 года склаў 683 вольныя працоўныя месцы.

У сярэднім на адну заяўленую вакансію на 1 сту-

дзеня 2021 г. прыпадае 0,2 беспрацоўных.

З пачатку года з улікам наяўных вакансій працаўладкавана 2035 чалавек, у тым ліку 1192 беспрацоўных. Удзельная вага працаўладкаваных грамадзян, якія звярнуліся ў службу занятасці, - 69,4 %.

Удзельная вага працаўладкаваных беспрацоўных, якія маюць дадатковыя гарантыі занятасці, - 59,1 %.

Накіравана на прафесійнае навучанне "пад замову" наймальніка 69,6 %.

У мэтах дадатковай матэрыяльнай падтрымкі беспрацоўных і іншых незанятых грамадзян арганізоўваліся аплачваныя грамадскія работы, у якіх прынялі ўдзел 320 чалавек.

Для набыцця досведу практычнай працы на працоўныя месцы працаўладкавана 15 беспрацоўных.

За 2020 год аказана фінансавая падтрымка ў выглядзе субсідый 25-ці беспрацоўным для арганізацыі прадпрымальніцкай дзейнасці.

**4.3. Прыбыткі і сацыяльная абарона насельніцтва**

Сярэднямесячная заработная плата аднаго працаўніка Лідскага раёна за студзень-снежань 2020 г. склала 987,1 рублёў (тэмп росту - 113,8 %), за снежань - 1183,7 рублёў (тэмп росту - 120,4 %).

Тэмп росту рэальнай заработнай платы за студзень-снежань 2020 г. - 107,9%.

**5. Энергазахаванне**

Паказчык па энергазахаванні з улікам эканоміі паліўна-энергетычных рэсурсаў за кошт укаранення энергаэфектыўных мерапрыемстваў за 2020 год склаў (-) 3,1 %.

Аб'ём эканоміі - 5059,5 тоны ўмоўнага паліва.

**6. Фінансавы стан арганізацый**

За 2020 год сума выручкі ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг у цэлым па раёне склала 1963,2 млн. рублёў, тэмп росту да 2019 года - 106,1 %.

Прыбытак ад рэалізацыі прадукцыі склаў 153,3 млн. рублёў, тэмп росту да 2019 года - 160,4 %. Чысты прыбытак - 27,8 млн. рублёў.

Узровень рэнтабельнасці рэалізаванай прадукцыі па раёне - (+)9,6 %, рэнтабельнасці продажаў - (+)7,8%.

**7. Развіццё сацыяльнай сферы**

**Адукацыя**

Ахоп дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў дашкольнай адукацыяй складае 97,7 %.

У 2019/2020 навучальным годзе павялічыліся паказчыкі якасці ведаў навучэнцаў: адсотак навучэнцаў, паспяваючых на 5-10 балаў, склаў 78,31 %, сярэдні бал навучэнца - 7,53.

Колькасць навучэнцаў, якія атрымалі атэстаты пра агульную сярэднюю адукацыю адмысловага ўзору з узнагароджаннем залатым (срэбным) медалём, павялічылася з 68 у 2019 годзе да 81 у 2020 годзе.

Па выніках цэнтралізаванага тэставання атрымана 6 стобальных сертыфікатаў.

На абласной алімпіядзе па навучальных прадметах навучэнцамі Лідскага раёна заваявана 83 дыпломы, на рэспубліканскай - 9.

У конкурсных мерапрыемствах абласнога, рэспубліканскага і міжнароднага ўзроўняў навучэнцамі заваявана 317 прызавых месцаў.

**Ахова здароўя**

У амбулаторна-паліклінічныя ўстановы зроблена 1603,7 тыс. наведванняў, хуткай дапамогай абслужана 41,3 тыс. выклікаў, у аддзяленнях дзённага знаходжання пралечана 2,9 тыс. чалавек, у стацыянарах на хаце - 1,9 тыс. чалавек, у кругласутачных стацыянарах - 24,5 тыс. чалавек.

Усе дзяржаўныя сацыяльныя стандарты ў вобласці аховы здароўя выкананы ў поўным аб'ёме.

Закуплена медыцынскае абсталяванне: апараты штучнай вентыляцыі лёгкіх (10 штук); танометры ўнутрывокавага ціску (35 штук); аўтамат афарбоўкі мазкоў крыві Аўта ОМК-01 (1 штука); ПЭВМ "MAXIMA" (2 штукі); апарат для інгаляцыйнай анестэзіі з ШВЛ (1 штука); аналізатар імунафлуарэсцэнтны (1 штука); аналізатар AU 80 біяхімічны з прыладдзем (1 штука); сістэма відэаназірання (1 штука); ПЭВМ BVK з прынтарам (94 штукі); камплекты інструментаў для ўсталёўкі цвікоў для сцегнавой косткі (2 штукі) і іншае.

**Культура**

Клубнымі ўстановамі культуры праведзена 4573 мерапрыемствы.

За 2020 год колькасць чытачоў бібліятэчнай сістэмы раёна склала 26872 чалавекі.

ДУ "Лідскі гістарычна-мастацкі музей" праведзена 838 экскурсій і заняткаў, арганізавана 30 выстаў.

Колькасць наведвальнікаў ДУ "Лідскі гістарычна-мастацкі музей" і Лідскага замка за 2020 год склала 39897 чалавек.

**Спорт**

У сферы масавай фізічнай культуры і спорту працягнута праца па прапагандзе здаровага ладу жыцця.

За 2020 год праведзена 42 спартова-масавыя мерапрыемствы, у якіх прынялі ўдзел 2,4 тыс. чалавек. Выканалі нарматывы: майстра спорту - 4 чалавекі, кандыдата ў майстра спорту - 20 чалавек, 1 разраду - 54 чалавекі, прысвоена трэнерскіх катэгорый - 20 чалавек. У спіскавым складзе зборнай Рэспублікі Беларусь знаходзіцца 44 чалавекі. Сталі пераможцамі і прызёрамі міжнародных спаборніцтваў 3 чалавекі, рэспубліканскіх - 48 чалавек, абласных - 309 чалавек.

Зарэгістраваны 43 суб'екты аграэкатурызму.

***Леанід Лаўрэш***

# Новае пра лепшага лідскага гісторыка XX ст. Міхала Шымялевіча

Вывучэнне біяграфіі Міхала Шымялевіча пачыналася з цалкам "пустога месца" - пра яго жыццё практычна нічога не было вядома. Гэта і прадэманстраваў першы артыкул пра лідскага гісторыка, надрукаваны ў "Лідскім летапісцы" ў 2008 г. У прынцыпе, акрамя спісу надрукаваных ў 1930-х гг. артыкулаў, больш падаць не было чаго[1]. У тым жа артыкуле быў перадрукаваны здымак рэдакцыйнага калектыву легендарнага часопіса "Лідская Зямля" (Ziemia Lidzka). Перадрукоўка здымка была зроблена з дастаткова няякаснай ксеракопіі старонкі часопіса № 4 за 1937 г. У 1937 г. здымак быў надрукаваны да першай гадавіны выхаду часопіса. Дастаткова працяглы час распрацоўкай біяграфіі Міхала Шымялевіча займаўся аўтар гэтага артыкула[2]. У выніку, пасля вялікай перакладчыцкай і рэдакцыйнай працы Станіслава Судніка і аўтара гэтага артыкула, у 2019 г. кніжная серыя "Лідскі кнігазбор" была распачата томам работ лідскага гісторыка[3].



***Міхал Шымялевіч, 1937 г.***



***Рэдакцыйны калектыў "Лідскай Зямлі", 1937 г. Менавіта гэты здымак быў надрукаваны ў 4-м нумары часопіса. Злева - направа: Аляксандр Снежка, Антон Гржымайла -Прыбытка, Міхал Шымялевіч і рэдактар часопіса Уладзіслаў Абрамовіч***



***Жонка Міхала Хелена Шымялевіч з Таўгінаў, 1880 г. н.***

Хачу ў гэтым артыкуле дадаць зусім новую інфармацыю пра лідскага гісторыка, якая з'явілася ў мяне нядаўна:

- Акрамя архіваў маёнткаў Ішчална і Вялікае Мажэйкава, пра што я пісаў раней, да 1914 г. Шымялевіч купіў найкаштоўнейшы архіў маёнтка Папернproblem, які недзе да 1830-га г. належаў уладальнікам Паперні і Касцянёва Кастравіцкім[4].

- Вясной 1919 г., калі ў Ліду чарговы раз ўвайшлі польскі войскі і адбыўся закалот паміж войскамі і яўрэйскім насельніцтвам горада[5], "адвакат Шымялевіч, які быў сябрам яўрэяў і асабістым сябрам равіна, ўратаваў іх, схаваўшы ў сваім доме"[6].

Вялікую працу ў справе вывучэння біяграфіі Міхала Шымялевіча зрабіў сябар маёй сям'і (і сваяк маёй жонкі), нястомны даследчык генеалогіі роду Сегеняў, жыхар Варшавы Януш Сегень. Сегені - гэта старажытная лідская шляхта. Дзед Януша - Ян Сегень (1875-1973)



**Малодшая дачка Ганна з мужам Адамам Махніцам, вяселле адбылося 13 лютага 1939 г. Газеты "Кур'ер Віленскі" і "Лідская зямля" надрукавалі паведамленні пра шлюб малодшай дачкі Шымялевіча:**

*"13 лютага а 16-й гадзіне ў Фарным касцёле адбыўся шлюб панны Анны Шымялевіч (дачка знанага лідскага гісторыка) з панам паручнікам Адамам Махніцам", "у шлюбе ўзялі ўдзел ксёндз-капелан мясцовага гарнізона, група афіцэраў на чале з камандзірамі палкоў, знаёмыя і сябры маладых".*



*Брат Міхала - Павел Шымялевіч у Порт-Саідзе, 1944 г.*

жыў у Лідзе на Зарэччы і пакінуў цікавыя ўспаміны пра наш горад[7]. Бацька, выпускнік Львоўскай палітэхнікі, інжынер Ян Сегень (1911-1994), таксама напісаў цікавыя ўспаміны[8].

Дзед Януша - Ян Сегень - аднакласнік, сусед і ўсе жыццё сябар Міхала Шымялевіча (дадам, што іх трэцім аднакласнікам і пажыццёвым сябрам быў дзед маёй жонкі Юзаф Хруль). Януш Сегень знайшоў ва Уроцлаўскай бібліятэцы імя Асалінскіх дэпанаваныя рукапісы Міхала Шымялевіча, перадаў лісты Шымялевіча да свайго дзеда і ўспаміны яго бацькі пра лідскага гісторыка. Усё гэта было надрукавана ў томе "Збор твораў" нашага гісторыка.

Але да гэтага часу мы нават не мелі фотаздымка Міхала Шымялевіча. Па ксеракопіі фотаздымка з "Лідскай зямлі", мастак Вадзім Вераб'ёў намаляваў партрэты ўсяго рэдакцыйнага калектыва, у тым ліку і Шымялевіча, гэты малюнак быў надрукаваны ў "Зборы твораў" Міхала Шымялевіча.

І вось нядаўна, Януш Сегень знайшоў праўнучку гісторыка. Дачка ўнука Міхала - Земавіта Шымялевіча, Крысціна Лабэйка-Быра жыве ва Уроцлаве. Па просьбе Януша Сегеня, яна даслала цікавыя фотаздымкі з сямейнага альбома. Гэтыя найкаштоўнейшыя здымкі мы і друкуем у "Лідскім летапісцы".

Дадам, што старэйшай дачка Міхала Шымялевіча Марыя Вось рана стала ўдавой, дзяцей не мела і з канца 1940-х гг. жыла з





***Здымкі Лідскага замка з альбома Шымялевічаў. Прыкладна пад такім ракурсам бачны замак з падворка лідскага дома Міхала Шымялевіча***



***Аўтар артыкула з Янушам Сегенем. Варшава, 2016 г.***

бацькам і маці ў Сопаце. Малодшая дачка - Ганна, з мужам польскім афіцэрам Адамам Махніцам ваявала ў арміі Андэрса і пасля Другой сусветнай вайны жыла ў Англіі. Дзяцей Махніцы не мелі. Сярэдняя дачка Зоф'я з мужам, з былым лідскім старастам Генрыкам Багаткоўскім і сынам Земавітам жылі ва Уроцлаве.

**Заўвагі і каментары:**

[1] Суднік Станіслаў. Міхал Шымялевіч. 130 гадоў з дня нараджэння // Лідскі летапісец. 2008. № 2(42). С. 20-21.

[2] Гл: Лаўрэш Леанід. Сябар ТБШ Міхал Шымялевіч // Наша слова. № 38 (1137), 18 верасня 2013.; Лаўрэш Леанід. Пра Міхала Шымялевіча: Крэскі да біяграфіі найлепшага гісторыка горада Ліды // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 6. Мінск, 2015. С. 133-165.; Лаўрэш Леанід. Міхал Шымялевіч. Крэскі да біяграфіі найлепшага гісторыка горада Ліды / / Лідскі летапісец. 2016. № 1 (73). С. 45-58.; Лаўрэш Леанід. Гісторык у высылцы: да біяграфіі Міхала Шымялевіча // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 8. Мінск. 2018. С. 136-139.

[3] Шымялевіч Міхал. Збор твораў / укл. Л. Лаўрэш. - Гродна: ТАА "ЮрСаПрынт", 2019. - 326 с.

[4] Stern Anatol. Dom Apollinaire'a: rzecz o polskosci i rodzinie poety. Krakow, 1973. S. 232.

[5] Гл: Лаўрэш Л. Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. Гродна, 2017. С. 108-109.

[6] Sefer Lida. Former residents of Lida in Israel and the Committee of Lida Jews in USA. Tel-Aviv. 1970. P. 41-42.

[7] Сегень Ян. Успаміны пра Ліду канца XIX стагоддзя // Лідскі летапісец. 2001. № 12. С. 17.; Jan Sehen. Wspomnienie o Lidzie z konca XIX wieku // Ziemia Lidzka. 2003. nr 6(58).

[8] Jan Sehen. Lida (1938-1939). 5-ty Pulk Lotniczy, szkola rzemieslnicza (http://pawet.net/memoirs/1938c/Lida_(1938-1939)._ 5-ty_Pulk_Lotniczy,_szkola_ rzemieslnicza. html); Jan Sehen. Wspomnienia z Lagru (http://pawet.net/memoirs/1938cc/Wspomnienia_ z_Lagru.html).

*Леанід Лаўрэш*

# Ваверка і род Клаўсуцяў на Лідчыне

Мой артыкул у значнай ступені будзе грунтавацца на ўзорнай і надзвычай цікавай працы гісторыка Яна Глінкі пра род Клаўсуцяў[1], дзе мог, я дапоўніў гэты артыкул матэрыяламі па тэме, якія знайшоў сам.

Заснавальнік роду Клаўсуцяў жыў у першай палове XIV ст. і нарадзіўся, пэўна каля 1300 г. Хутка тры яго ўнукі, у тым ліку і Галігін, у 1401 г. удзельнічалі ў заключэнні Віленска-Радамскай уніі. Інфармацыі пра заснавальніка гэтага роду няма. Але этымалогія прозвішча, верагодна пакавае, што гэты род паходзіць з-пад Біржан. Вядома, што Аляксандр Бяржанскі-Клаўсуць герба Лебедзь у 1697 г. ад Жмудзі падпісаў элекцыю караля Аўгуста II. Біржаны да 1636 г. былі маёмасцю Шамётаў - адной з галін роду Клаўсуцяў.

Імя Клаўсуць вельмі рэдкае бо, як піша Глінка, у надрукаваных на момант напісання яго артыкула кнігах Метрыкі ВКЛ, гэтае імя сустракаецца толькі адзін раз[2], у канцы першай паловы XV ст., пра наданых сялян "Кловсютю семьица" [3]. Дадам, што ўсе раннія асабістыя імёны прадстаўнікоў роду Клаўсуцяў маюць жмудскае паходжанне.

Верагодна заснаванне населенага пункта Ваверка звязана з наданнем тут зямлі першаму з Клаўсуцяў, але і пасля гэтага род не страціў сувязь са Жмуддзю, адкуль паходзіў. Нашчадкі сыноў Клаўсуця яшчэ два стагоддзі валодалі мясцовасцю Капліца каля Шамятышак на памежжы Жмудзі і Аўкштойты, а таксама Крамяніцай[4] і Струбніцай[5] на Ваўкавышчыне. Аднак яшчэ і ў другой палове XV ст. сярод усёй маёмасці сям'і Ваверка займала галоўнае месца, пра што кажа пабудова касцёла сумеснымі намаганнямі рода.

Супаставіўшы ходу пакаленняў у сям'і, Ян Глінка прыйшоў да высновы, што, магчыма, менавіта заснавальнік роду Клаўсуць атрымаў мясцовасць вакол Ваверкі, і праз нейкі час у гэтай частцы Лідчыны вырасла вялікая колькасць маёнткаў, якімі потым валодалі яго нашчадкі. Гэтыя маёнткі займалі вялікую частку тэрыторыі Лідчыны - ад Нёмана на поўдні ажно да Эйшышак, Юндзілішак і Надзеі на поўначы[6].

З сыноў Клаўсуця, якіх мы ведаем, старэйшага звалі Табут, гэта бачна з патроніма ягонага сына Рачкі, які вядомы нам паміж 1440 і 1450 гг. як фундатар касцёла ў Ваверцы. Тады ж, у 1440-50 гг. вялікі князь ВКЛ Казімір надаў іншаму сыну Клаўсуця - Ятаўту - зямлю ў Дубіцкай воласці якая мела назву След Табутаў: *"Дубичской волости. Ятовту следъ Тябутовъ а два чоловека"* [7]. З назвы бачна, што гэты двор першасна быў маёмасцю Табута, ён ляжаў на паўночным захадзе арэала рассялення рода на Лідчыне (Ятаўты, 5,5 км на ўсход ад Радуні). Двор Ятаўты атрымаў назву ад Ятаўта, аднаго з малодшых братоў Табута[8].

Другі сын Клаўсуця насіў імя Галівойн. Яго сын Галігін (ці Голген Галівойнавіч) сярод іншых літоўскіх паноў у 1432 г. пацвердзіў літоўска-крыжацкую дамову. Галівойн ёсць прабацькам-заснавальнікам старэйшай галіны роду, ён меў сыноў Урдыча (Urdycza), Галігіна і Відуміна.

У акце Віленскай уніі 1401 г. бачым, што Галігін (Goligin) з братамі: *"Wrdyczh[9] cum fratribus, Golygind, Wyndimyn"* [10]. У 1432 і 1433 гг. Галігін фігуруе як "Golgen" ці "Golygin". Апошняя форма імя і ўтварыла сталы патронім яго сыноў - Галігінавічы.

У свой час геральдыст Войцех Каяловіч лічыў, што пры заключэнні уніі ў Гародле, сярод іншых удзельнікаў мы сустракаем і братоў Галігіна і Кормулта, якія з'яўляліся ўнукамі Клаўсуця. Ян Глінка пагаджаўся з гэтым меркаваннем. Ад сына Клаўсуця (бацькі Галігіна і Кормулта) Каяловіч выводзіць род Біржанскіх, а геральдыст Нясецкі ўказвае, што Біржанскія мелі прыдомак Клаўсуць.

Галігін прысутнічае ва ўсіх трох гарадзельскіх дакументах 1413 г.: у акце прыняцця літоўскіх баяраў у супольнасць гярбоў кароннай шляхты, у акце клятвы вернасці і ў акце уніі. У першым дакуменце чытаем: *"Labancz alias Skrzynsczy cum Goligunt"*. Адаптаваў Галігіна ў свой герб адзіны ў Гародле прадстаўнік кароннага роду Лебедзь Дзяржслаў са Скрыньска *(Dzierzslaw ze Skrzynska)*.

Апошні раз у дакументах мы спатыкаем Галігіна 20 студзеня 1433 г., калі разам з іншымі асобамі ён ратыфікаваў Троцкую унію. У Галігіна былі чатыры сыны, якія прысутнічаюць у акце фундацыі ваверскага

[1] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. Ze studiow nad ksztaltowaniem sie i rozanicowaniem spolecznym bojarstwa litewskiego // Studia Zrodloznawcze.Warszawa, Poznan, 1959. T. IV. S.85-107; T. V. S.35-55.

[2] Glinka J. Rjd Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. IV. S. 95.

[3] Русская историческая библиотека, издаваемая Археографической комиссией. С.-Петербург, 1910. Т. 27. С. 76.

[4] Зараз вёска ў Зэльвенскім раёне Гарадзенскай вобласці.

[5] Зараз аграгарадок у Мастоўскім раёне.

[6] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. IV. S. 95-96.

[7] РИБ. Т. 27. С. 83.

[8] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. Ze studiow nad ksztaltowaniem si? i rozanicowaniem spolecznym bojarstwa litewskiego // Studia Zrodloznawcze.Warszawa, Poznan, 1959. T. V. S.35.

[9] Гэта імя чытаецца як Urdycz, гэта самы старэйшы сярод братоў, у 1413 г., напэўна, ужо не жыў, бо род прадстаўляў Галігін.

[10] Пераклад з лаціны: "Урдыч і браты Галігін, Відумін".




***Карта ўладанняў роду Клаўсуцяў у XIII - XVI стагоддзях***

касцёла: Міхал, Суцька, Дыль ці Алехна (Алекса) і Андрушка[11].

Відуміна, самага малодшага з сыноў Галівойна разам з братамі, Урдычам і Галігінам бачым у 1401 г. падчас падпісання Віленскай уніі. 7 жніўня 1404 г. знаходзім яго ў Коўне сярод дванаццаці шляхціцаў: Мінігайлы, Гаштольда, Манівіда, Осціка і іншых, у прысутнасці якіх Вітаўт выдае крыжакам дакумент датычны Рацяжскага замірэння[12]. 11 чэрвеня 1407 г., 16 лютага 1410 г. і 15 жніўня 1412 г. Відумін выступае як сведка пры наданнях Вітаўта касцёлам. У дакуменце ад 1410 г. прысутнічае віленскі біскуп і пяць свецкіх асоб, якія названы магутнымі, адважнымі, вернымі і ўлюбёнымі рыцарамі. Гэта кажа пра вялікую ступень набліжанасці Відуміна да Вітаўта.

Нашчадкі Відуміна - Відумінавічы - у другой палове XV ст. растварыліся сярод дробнага баярства, бо іх няма сярод фундатараў касцёла ў Ваверцы. Але Відумінавічы яшчэ жылі каля Ваверкі і як вельмі небагатыя ваяры сустракаюцца ў перапісе войска ВКЛ 1567 г.[13]

### Галігінавічы

Міхал, старэйшы сын Галігіна, быў адным з самых актыўных людзей свайго часу. У грамадзянскай вайне, якая пачалася ўвесну 1440 г. пасля смерці Жыгімонта Кейстутавіча (брата Вітаўта), ён адным з першых стаў на бок сына Жыгімонта і заняў верхні замак у Троках. Калі ў Літву, як законны нашчадак прыехаў вялікі князь Казімір, Галігінавіч адмовіўся пакінуць замак без загаду свайго патрона. Потым, згодна з крыніцамі, з 1445 па 1448 г. ён быў драгічынскім старастам і атрымаў тут шмат маёмасці. Узамен за самавольна заняты двор Жараслаўка (знаходзіўся пад Гародняй) вялікі князь Казімір надаў Міхалу Галігінавічу маёмасць Новы Двор у Васілішскім павеце.

Міхал Галігінавіч, пэўна, памёр да 1450 г., бо пасля гэтага года яго імя не ўзгадваецца ў дакументах. Міхал Галігінавіч з жонкай Зоф'яй, якая жыла яшчэ ў 1479 г., меў сына Жыгімонта - адзінага нашчадка лініі Галігінавічаў і старэйшыну ўсяго роду. Жыгімонт меў сына Мікалая і дачку Скіндараву (жонку Скіндара). У Метрыцы ВКЛ ёсць дакументы *"Справы Скіндаравай пра маёнтак Ольжава"*.

Як я ўжо пісаў у раздзеле пра Ольжава, з дакументаў вядома, што Мікалай быў сынам Жыгімонта, унукам Міхала Галігінавіча, ён памёр не маючы дзяцей, а яго маёнтак удзедзічыла сястра, якая была замужам за Скіндарам, маці Сымона і Андрэя. Разам з Мікалаем згасла мужчынская галіна Галігінавічаў, і маёмасць

| | | |
|---|---|---|
| Goligin | Michał ż. Zofia | Zygmunt |
| | Sutko | Zofia |
| | | Duchna |
| | | Fienka |
| | Dyl | |
| | Andrzej | |
| | Raczko ż. N. | Mikołaj |
| | | Jundziło |
| | | Wacław biskup łucki |
| | | Jan |
| | Niemojko | Szemiot |
| | Jaczko ż. Anastazja | Sowbudzko |
| | Rod | Dowgird |
| | | Olechno |
| | Butko ż. Teodora | Mikołaj |
| | | Leonard |
| | | Stanisław |

***Галігінавічы***

перайшла да іншых. Пляменнік Мікалая, Сымон Скіндар, у 1523 г. быў земскім літоўскім харунжым. Яшчэ ў 1567 г. Скіндары валодалі маёмасцю Клаўсуцяў - часткай Ваверкі на Лідчыне і Струбніцай у Ваўкавыскім павеце[14].

У 1520-х гг. падляшскі ваявода, дзяржаўца *"Ожъски и Переломски и Радунски"* Януш Касцевіч трымаў Ваверку, а *"маршалокъ* (літоўскі - *Л.Л.*) *наместникъ Жолкдоски"* князь Васіль Андрэевіч Палубінскі - частку Дылева і Глыбокае. Абодва яны трымалі гэтую маёмасць для забеспячэння грашовых выплат і, атрымаўшы грошы, павінны былі перадаць маёмасць законным гаспадарам. Касцевіч павінен быў саступіць маёмасць Сымону і Андрэю Скіндарам. Касцевіч меў дачыненне да Ваверкі праз сваю жонку, але не вядома, як яна датычыла да роду Клаўсуцяў. Не зразумела таксама, на чым грунтавалася права князя Палубінскага на атрыманне тысячы коп грошаў з Дылева і Глыбокага[15]. Магчыма, Палубінскі быў зяцем Андрэя Сіруцевіча, які з'яўляўся крэўным Галігінавічаў[16]: *"Господаръ его милость пану Янушу казалъ тое именье Ваверъку, подле суда брата его милости, держати до тыхъ часовъ, поки близкии его пенези ему отложатъ. А князю Василью Полубеньскому*

[11] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. IV. S. 96-98.

[12] Рацяжскі літоўска-польска-крыжацкі трактат. У выніку якога Польшча атрымала права выкупу Добжынскай зямлі а Жамойць адышла крыжакам.

[13] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. IV. S. 105-106.

[14] Там жа. S. 99-101.

[15] Русская историческая библиотека, издаваемая Археографической комиссией (далей РИБ). С.-Петербург, 1903. Т. 20. С. 1030-1031.

[16] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. IV. S. 101-102.

*казалъ его милостъ, держи именья: Дылеву ... а Глубокую, въ тисечу копъ грошей, поки тежъ близькие пенези отложать, подле запису пана Андрея Сирутевича и его кнегини"* [17].

Наступны пасля Міхала сын Галігіна - Суцька - паміж 1440 і 1452 гг. атрымаў зямельнае наданне разам з братам Алехнам: *"Судьку да Олехну Кголикгиновичом земля Белякова, кузнецова, аж будетъ пуста, до воли. Панъ Петрашъ, маршалокъ. Кушлейко"* [18]. Паміж 1440 і 1449 гг. вялікі князь ВКЛ надаў *"Судьку три чоловеки"* [19]. Суцька пакінуў трох дачок Зоф'ю, Духну і Феньку. Зоф'я разам з сёстрамі атрымала Новую Ваверку (ці Гарадзішча, зараз - Дылева).

Трэці сын Галігіна Алехна (Алекса) ці Дыль часцей вядомы як Алехна Дыль. У канцы першай паловы XV ст. у Ягелонскім універсітэце вучыліся два ліцвіны. У 1445 г. першага з іх памылкова запісалі як *"Аляксей сын Гірмунта з Лідчыны"*, але насамрэч ён быў сынам Галігіна. Восенню 1447 г. Алехна атрымаў навуковую ступень бакалаўра вольных мастацтваў. Другі яго калега, які застаўся невядомым, прыехаў з Ваверкі і абодва яны належалі да роду Клаўсуцяў. Бакалаўр Алекса (ці Дыль) у 1447 г. ужо пасяліўся ў Ваверцы. Тое, што Алекса вельмі хутка прайшоў увесь універсітэцкі курс, сведчыць пра яго здольнасці і, галоўнае, пра выдатную хатнюю падрыхтоўку і наяўнасць добрых выкладчыкаў на Лідчыне таго часу[20].

Верагодна, Дыль і яго сваяк з Ваверкі, з'яўляюцца першымі асобамі з універсітэцкай адукацыяй на Лідчыне.

Апрача агульнай з братам Суцькам маёмасці, Алехна Дыль у 1442 г. атрымаў ад вялікага князя ВКЛ Казіміра сялян: *"Олехну Кголикгиновичу пять чоловековъ, на имя: Илка, а Ходаня, а Онихимъ, а Иванъ, Ондрей; 4 данъныхъ, а 5 неданъных. Пан Монивид"* [21], а ў 1450 г. па-за межамі Лідчыны, каля Гродка (13 км ад Турава) у спадкі ад Рачкі ён атрымаў двор Малешава. 28 ліпеня 1449 г. у Наваградку Алекса разам з братам Андрэем выступае сведкам у прывілеі, які вялікі князь надаў тамтэйшаму касцёлу.

Алехна ў сваёй вёсцы Гарадзішча, пабудаваў касцёл пад вызнаннем св. Тройцы і св.св. Фелікса, Аўкта і Бярнарда. 22 лістапада 1460 г. у Дуброве (каля Жалудка) ён фундаваў касцёлу двор Ольжава з дзевяццю чалавекамі, а таксама збожжавую і гароднінную дзесяціну з двара Гарадзішча. Дакумент падпісаны ў прысутнасці трох ягоных сваякоў: Станіслава, Марціна і Багуміла, віленскага біскупа Мікалая, віленскага каноніка і афіцыяла Мікалая, лідскага пробашча Строгнева, каплана Якуба і біскупскага пісара Яна. Дуброва, куды гаспадар запрасіў гасцей, выступае як яго сядзіба.

Зоф'я, удава Алехны Дыля, 8 красавіка 1478 г. у Новай Ваверцы згодна з воляй яе мужа, дзедзіча маёмасці, падпісала тастамент для касцёла. У гэтым дакуменце касцёлу навечна адпісаны: у Гарадзішчы тры карчмы, дзесяціну збожжа, частку ўраджаю з гароду і частку дамашняй жывёлы, стары стаў з млынам, ралля на 40 бочак збожжа і лугі па абодва бакі става, каля Чашутовіча ралля на 50 бочак і луг на адзін стог сена, пры касцёле ралля на 60 бочак, у Наркішках луг на два стагі, зарэчныя палі ці Седлішча на 15 бочак, у Дзітве дзевяць сялян, у Галігінаўшчыне каля Беліцы аднаго селяніна, у Бабалеўшчыне аднаго рамесніка. Тастамант быў падпісаны ў *"белым доме ў Новай Ваверцы"* пры сведках: Яне, пробашчы ў Старой Ваверцы, Паўле, пробашчы ў Новай Ваверцы, мясцовых капланах Яне і Мацеі, а таксама пры свецкіх асобах: Пятры (ці Гіндле, Гіндзіле) з Новай Ваверкі, Станіславе з Гейдрайць і Івашку з Эйшышак.

Як бачым у 1460 і 1478 г. тутэйшы касцёл меў добрыя фундушы і трох святароў разам з пробашчам. Новая Ваверка ці Гарадзішча хутка атрымала назву Дылева. Новая назва з'явілася пасля смерці бяздзетных фундатараў, калі ніхто ўжо не быў зацікаўлены ў змене назвы, і таму замацавалася сама па сабе, у памяць пра Алехну, якога па-сямейнаму звалі Дылем. Пасля гэтага з назвы Вялікая (ці Старая) Ваверка знік непатрэбны прыметнік, і яна пачала называцца проста Ваверка[22].

Парафія ў Дылеве існавала яшчэ ў 1537 г., аднак, як і касцёл у Ваверцы, дылеўскі касцёл таксама перайшоў у рукі пратэстантаў. Што не дзіва, бо ў 1589 г. верагодны нашчадак Алехны Дыля - Ян Дыль фігуруе як адзін з кіраўнікоў віленскага евангелічнага збора[23].

У 1648 г., пасля вяртання ў рукі каталікаў, тут засталася толькі капліца, якая належала Ваверскай парафіі. У 1871 г. расейскія ўлады зачынілі гэтую капліцу, якая была апошняй памяццю пра бакалаўра Алехну Галігінавіча[24].

Андрэя, самага малодшага сына Галігіна, мы бачым паміж 1440 і 1447 гг. на пасадзе літоўскага дворнага кухмістра. Вялікі князь Казімір надаў: *"Ондрэю, кухмистру, пять чоловековъ на рецэ Волжове: Санко, а Кузма, Величко, Микита, Семенъ. Самъ великій князь"*[25]. Глінка лічыць, што, магчыма, чалец Паноў-

---

[17] РИБ. Т. 20. С. 1046.

[18] РИБ. С.-Петербург, 1910. Т. 27. С. 103.

[19] Там жа. С. 120.

[20] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. IV. S. 101-103.

[21] РИБ. Т. 27. С. 91.

[22] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. IV. S. 104.

[23] АВАК. Вильна, 1893. Т. 20. С. 61.

[24] Kurczewski Jan. Biskupstwo wilenskie od jego zalozenia az do dni obecnych, zawierajace dzieje i prace biskupow i duchowienstwa djecezji wilenskiej oraz wykaz kosciolow, klasztorow, szkol i zakladow dobroczynnych i spolecznych. Wilno, 1912. S. 213.

[25] РИБ. Т. 27. С. 91.

рады ВКЛ у 1440-1455 гг. *"Пан Оньдрушко"* [26] - гэта таксама Андрэй Галігінавіч.

Вялікі князь ВКЛ Казімір у 1440-1450 гг. надаў яму зямлю: *"Оньдрушку Келикиновичу мест[ич]у"* [27], а ў палове XV ст.: *"Пану Ондрушку Коликиновичу село Морхотъчино"* [28] і *"Оньдрушку Кгоскгиновичу люди данники въ Остринской волости, на имя Рычане, дани уставъ даютъ меду"* [29]. Таксама Ян Глінка лічыць, што менавіта Андрэю Галігінавічу вялікі князь Казімір надаў наступную маёмасць: *"Пану Оньдрушку Глубочане, на имя три чоловеки: Скоти а Курни, а Довко"* [30] (паміж 1440 і 1442 гг.), а таксама *"Ондрушку дворецъ у Волковыску, а Червичи у Пинску, данники, а 14 чоловековъ у-въ Острыне, у-въ Острове данъники на имя Поздешевичи; даютъ два устава меду"* [31], у 1445 г. *"Ондрушку у Василишкахъ, у Лядскомъ чоловекъ Онисимецъ Муравчинъ; до воли"* [32].

Андрэй памёр у канцы 1449 г. ці на пачатку 1450 г., ён быў бяздзетным, як і яго брат Алехна.

**Фундацыя касцёла ў Ваверцы**

Гісторыкам вядомы два фундацыйныя дакументы роду Клаўсуцяў, напісаных у Ваверцы. Адзін з іх напісаны ў 1463 г., а другі ў 1479 г. Арыгінал першага згарэў у 1530 г. пры пажары Вільні, дзе ў той час знаходзіўся ваверскі пробашч, але захавалася копія, якую 9 лютага 1535 г. зацвердзіў біскуп Ян, які быў родам з літоўскіх князёў, гэтую копію потым памылкова датавалі 1473 г. замест 1463 г. Памылка была папраўлена пры выданні "Кодэкса дыпламатычнага катэдры і дыяцэзіі віленскай".

З дакумента даведваемся, што дзедзічамі Ваверкі ў той час былі:

- Жыгімонт з сваёй маці (яе імя нечытэльнае), сын памёршага Міхала Галігінавіча;
- Мікалай і Юндзіла Рачкавічы, родныя браты;
- Шамёт Нямойкавіч;
- Даўгірд і Алехна Радзевічы;
- Мікалай і асоба, імя якой нечытэльнае, але мае канцоўку на "us" (з наступнага фундацыйнага дакумента бачна, што гэта Леанард - Леанардус - па-лаціне) і Станіслаў са сваёй маці Тэадорай - усе яны сыны памёршага Буцькі;
- Зоф'я, Духна і Фенка - дочкі памёршага Суцькі.

З тэксту дакумента бачна, што гэтыя асобы фундавалі і пабудавалі ў Вялікай Ваверцы касцёл у гонар св. Тройцы, Нараджэння НМП, св. біскупа Мікалая, св. Кацярыны-дзявіцы і св. Юрыя-пакутніка.

Інфармацыя пра заснаванне касцёла ў 1413 г. узята з падробленага дакумента.

Дзедзічы ўключылі ў лік ахвярадаўцаў асобаў з папярэдняга пакалення свайго роду:

- Міхал, Суцька, Дыль і Андрэй Галігінавічы, родныя браты;
- вышэй упамянуты Жыгімонт з маці;
- памёршы Рачка;
- Юндзіла з памёршым братам Вацлавам, луцкім біскупам і іх маці;
- Нямойка;
- Шамёт, сын Нямойкі;
- Саўбудзька, сын памёршага Ячкі, з маці Анастасіяй;
- памёршы Род;
- браты Даўгірд і Алехна, сыны Рода.

Дакумент дазваляў пробашчу мець вольную карчму каля касцёла. Сведкамі пры прыкладанні пячаткі на дакумент былі: Ян Ласовіч (луцкі біскуп Ян), ваверскі пробашч і вікары касцёла ксёндз Станіслаў, пра якога напісана, што ён з'яўляецца настаўнікам мясцовай школы[33].

Другі фундацыйны дакумент узнаўляў папярэдні і быў выдадзены ў сувязі з асвячэннем (кансекрацыяй) касцёла. Ён быў выдадзены ў Старой Ваверцы 29 траўня 1479 г. і дайшоў да нас у выглядзе копіі. Гэтая копія захавалася ў архіве Тышкевічаў, і зрабіў яе ў 1522 г. Станіслаў Камароўскі, пісар віленскага ваяводы Альбрэхта Гаштольда. Дакумент 1479 г. паўтарае ўсё тое, што было ўжо ў дакуменце 1463 г., але з яго даведваемся пра нечытэльныя ў папярэднім дакуменце імёны Зоф'і, удавы Міхала Галігінавіча, Леанарда Буцькавіча, а таксама пра прапушчанага пісарам у копіі дакумента 1563 г. Нямойку.

З дакумента бачна, што касцёл быў прысвечаны Усемагутнаму Богу і Святому Духу, а таксама Нараджэнню Дзевы Марыі. Незвычайнае для нас скарачэнне Святой Тройцы да двух складнікаў сталася вынікам няўвагі капіравальніка дакумента. Касцёл у Ваверцы ў 1568 г. быў перароблены ў евангелісцка-рэфарматарскі збор і толькі з 1648 г. зноў стаў касцёлам пад вызнаннем св. Францішка.

Згодна з дакументам, касцёл атрымаў ад Рачкі трох людзей з зямлёй добрай якасці, лесам і лугамі, а таксама з лугам каля двара і дзесяціну з даходаў двара Рачкі ў Ваверцы.

Юндзіла ахвяраваў дзесяціну з двара Пеляса і лугі ў Дзітве, Нямойка даў аднаго чалавека і дзесяціну з Дзітвы (іншыя дакументы пацвярджаюць тое, што Пеляса належала Юндзіле, а Дзітва - Нямойку і ягоным нашчадкам). Саўбудзька з маці Анастасіяй далі аднаго чалавека з зямлёй у Радзішках і луг там жа, а таксама дзесяціну ад двароў Дзітва і Надзея. Даўгірд і Алехна,

[26] РИБ. Т. 27. С. 21.
[27] Там жа. С. 83.
[28] Там жа. С. 81.
[29] Там жа. С. 122.
[30] Там жа. С. 86.
[31] Там жа. С. 81.
[32] Там жа. С. 106.
[33] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. IV. S. 87-88.

**З фундацыйных дакументаў Ян Глінка склаў радаслоўную роду**

| | | |
|---|---|---|
| Goligin | Michał ż. Zofia | Zygmunt |
| | Sutko | Zofia<br>Duchna<br>Fienka |
| | Dyl | |
| | Andrzej | |
| | Raczko ż. N. | Mikołaj<br>Jundziło<br>Wacław biskup łucki<br>Jan |
| | Niemojko | Szemiot |
| | Jaczko ż. Anastazja | Sowbudzko |
| | Rod | Dowgird<br>Olechno |
| | Butko ż. Teodora | Mikołaj<br>Leonard<br>Stanisław |

сыны Рода, ахвяравалі касцёлу дзесяціну ўсяго зерня са сваіх палёў і гародаў і надалі ў валоданне дзесяціну з сваёй вёскі "Thatarymsky", відочна што гэта Татарка ці Татаршчына, вёска, якая знаходзілася недалёка ад Ваверкі[34].

Для будоўлі касцёла быў выдзелены пляц, касцёлу нададзена ралля, лес і лугі, людзі з зямлёй і дзесяціны з двароў: усялякага зерня, збораў з палёў і агародаў, мёду. Толькі ад двароў Ваверка і Ольжава братоў Галігінавічаў у пераліку на грошы касцёл атрымліваў 60 шырокіх грошаў[35]. Браты Галігінавічы ахвяравалі 3 сялян, Жыгімонт з маці - 1, Рачка - 3, Юндзіла з Вацлавам і маці - 3, Нямойка - 1, Саўбудзька - 1, Род - 2, агулам - 14 сялян.

З дакументаў бачна, якімі дварамі валодалі прадстаўнікі роду:

- Дзітва - Юндзіла і Вацлаў Рачкавіч з маці, Нямойка, Саўбудзька Ячкавіч з маці Анастасіяй, Род.

- Надзея - Саўбудзька Ячкавіч з маці Анастасіяй.

- Ольжава - Міхал, Суцька, Дыль і Андрэй Галігінавічы.

- Пеляса - Юндзіла Рачкавіч.

- Ваверка - Міхал, Суцька, Дыль і Андрэй Галігінавічы. А таксама Рачка[36].

З Метрыкі ВКЛ вядома, што бацька братоў Галігінавічаў - Буцька, валодаў часткай Дзітвы і перадаў яе сваім нашчадкам[37].

**Рачкавічы - Табутавічы**

У акце уніі 1433 г. Рачка Табутавіч прадстаўляў свой род разам з Галігінам. Падчас Гарадзенскай уніі 1434 г. ён зноў выступіў як прадстаўнік роду і меў тытул "дзяржаўцы" (tenutarius), але, якую ён трымаў тэрыторыю, невядома. Да дакумента уніі прыкладзена ягоная пячатка з гербом Лебедзь і тэкстам "S. IACOBI RACZEK".

Яго не трэба блытаць з іншым Рачкам, які таксама ўдзельнічаў у падпісанні Гарадзенскай уніі - Пятром Рачкам Страчэвічам, які таксама прысутнічаў у тагачасных дакументах. Гэты Рачка атрымаў ад вялікага князя эйшышскіх і радунскіх сялян недалёка ад Ваверкі, але ягоны род толькі суседнічаў з родам Клаўсуцяў і потым з'яднаўся з ім праз шлюбы[38]. Гэты Рачка памёр каля 1450 г.

Якуб Рачка Табутавіч валодаў часткай радавых

---

[34] Там жа. S. 89-91.

[35] Так званыя "пражскія грошы", якія мелі менавіта назоў "шырокія", Жыгімонт Аўгуст біў шырокія літоўскія грошы ў 1545-1546 гадах, а таксама у 1555-1559 гадах.

[36] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. IV. S. 92-94.

[37] РИБ. Т. 20. С. 459-461. Цытую фрагмент гэтага дакумента:

*"1517. 1 апреля. Решение по делу Афры Ленартовой с Марией Миклашевой об имениях Дитве и Хонкове.*

*... жаловалась нам пани Леонартовая Будковича Афра на невестку свою на паню Миклашевую Будковича на Марушу тым обычаем: которое имение мужъ мой небожчик Леонартъ Дитву дворъ а къ тому дворец Хонъково записалъ мне въ полторасту копахъ грошей монеты великого князьства Литовскаго со всимъ, какъ ся тое именье Дитва въ собе съ тымъ дворцомъ Хонковымъ маетъ, ино тая невестка моя пани Миклашова кривды ми чинитъ: которыи гаи были не деляны межи паны нашими, один - остров за Дитвою против двора пани Миклашовое, а другий - долгий лесъ, подле дороги великое, отъ мыту едучи в Василишокъ, а третий - ляда сосновый гай ...*

*Ино положила передъ нами пани Ленартовая тестамент мужа своего. Въ томъ тестаменте выписуетъ мужъ ее, ижъ записалъ ей на томъ именьи на Дитве на дворци Хонкове полтораста копъ грошей. А потомъ положила передъ нами привилей господаря короля его милости. Господарь его милость выписуетъ въ томъ привилеии: тое именье дворъ Дитву а дворец Хонково держати въ той суме пенязей въ полторасту копахъ грошей со всеми пожитки и доходы того именья, как самъ небожчикъ мужъ ее Ленарт держал, и тежъ какъ ся тое именье въ собе маетъ.*

*И мы, выслухавши тестаменту Ленартова и тежъ привилея господаръского, ... мы панюю Ленартовую Афру при томъ именьи зоставили: маетъ она тое именье Дитву и съ тымъ дворцомъ Хонковскимъ въ той суме пенязей ... держати, поки на вдовъемъ стольци седитъ: а какъ всхочетъ замужъ пойти, або по животе своемъ кому ближнимъ своимъ всхочетъ записати, маетъ тую суму вышеписаную записати на третей части именей мужа своего, колько будетъ людей всихъ отчизных мужа ее ...; а хто всхочетъ (зъ) ближнихъ того имения окупити, тотъ маетъ тыя пенязи вложивши поль(ора)ста копъ грошей, тую третию часть къ своей руце взяти ...".*

[38] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 35.

двароў Клаўсуцяў, а менавіта Дзітвой і Ваверкай на Лідчыне, а таксама Крамяніцай і Струбніцай на Ваўкавышчыне. Праз паўстагоддзя пасля яго смерці, тры браты Юндзілавічы праз дакументы даказалі вялікаму князю ВКЛ Аляксандру, што іх дзед Рачка разам са сваёй жонкай дакупіў зямлю да свайго двара Крамяніца, а іх бацька Юндзіла выслужыў *"дворец в Слонимском повете на имя Бусяж*[39]*, а ... дворец у Василишском повете на Пелесе. И теж отец ихъ и матка их покупили къ тым дворцомъ въ бояр наших и въ людеи поля, и сеножати, и гаи"*[40]. Рачка Табутавіч таксама валодаў маёмасцю каля Гародні і Беластока.

На падставе дакументаў фундацыі ваверскага касцёла Янам Глінкам устаноўлена ступень старшынства Мікалая (Міхны), Юндзілы. Вацлава і Яна, сыноў Якуба Рачкі Табутавіча. Можна лічыць, што чацвёрты па спісе сын Ян быў маладзейшы за Мікалая. Але не вядома, хто з братоў быў старэйшы ў параўнанні з Янам - Юндзіла ці Вацлаў.

Брат Міхны і Юндзілы - Вацлаў, віленскі дэкан, 10 верасня 1459 г. папам Піем ІІ быў высвечаны ў луцкія біскупы. Але біскупам пражыў толькі тры гады. З'яўляецца адным з фундатараў ваверскага касцёла. У 1444 г. нейкі Venceslaus de Wawerka Lithwanus аплаціў вучобу ў Кракаўскім універсітэце і ў 1451 г. атрымаў ступень бакалаўра. Верагодна, гэта і быў будучы луцкі біскуп[41].

Мікалай Рачкавіч, які пісаўся проста як Міхна, каля 1462 г. забіў свайго брата Яна і разам з іншым братам Юндзілай забраў у валоданне яго частку Ваверкі. Тады вялікі князь Казімір адабраў у забойцы маёмасць і перадаў яе Юндзіле[42].

Потым гэтая маёмасць 25 чэрвеня 1503 г. была пацверджана за сынам Юндзілы, Мікалаем Юндзілавічам[43]. Вялікі кавалак гэтага дакумента цытую ў зносцы але жадаю звярнуць увагу на цікавую граматыку аднаго радка: *"... покупилъ ... въ людей нашихъ, въ бортевъ, на имя въ Ондрея а въ, Челейшы Кійневичовъ а въ Пиля и въ Родя Добейковичовъ а у Станя Куйжы а въ Сака а въ Михна а у Мацька а у Янъца Петрашевичовъ а въ Шымка Автовтовича а въ Богдана а въ Петька Жостовътовичовъ а у Янеля а въ Микки Станевичовъ а у Янъка Михновичъ а въ Петька Станевича а у Васка и въ его брата въ Янъка Буйковичовъ а въ Носа Можуковича а у Юхна и въ братьи у Михна а у Якуба Пликовичовъ а у Онъдрея Кгестовътовича и въ его зятя у Лаврына а въ Юръкеля Сомиловича..."*. Як бачым, калі-нікалі пісар замест "въ" піша "у", што можна лічыць адметнай рысай нашай старабеларускай мовы.

25 ліпеня 1495 г., чолом *"кухмистръ великое кнегини нашое, тивун коневъскии и дубицкии Миколаи Юнъдиловичъ"* папрасіў надаць яму *"у Волковыискомъ повете над своимъ прудом пустовщины на имя Нероновское Колышъчина, полеи и сеножатеи"*. Вялікі князь ВКЛ Аляксандр зацвердзіў Мікалаю Юндзілавічу гэту маёмасць[44]. 7 верасня 1499 г. Мікалаю

---

[39] Зараз вёска Бусяж у Івацэвіцкім раёне Берасцейскай вобласці.

[40] Акты, относящиеся к истории Западной России. Москва, 2012. Т. 1(6). С. 169-170.

[41] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 45-51. Відавочна, гэта і быў той другі невядомы студэнт Кракаўскага ўніверсітэта з Ваверкі, згаданы раней, які вучыўся разам з Алехнам Дылем. Дыль скончыў універсітэт у 1447 годзе, а Вацлаў - у 1551. *Л.Л.*

[42] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. .. T. V. S. 35-38.

[43] РИБ. Т. 27. С. 855-860. Цытую гэты кавалак метрыкі:

*"1503, 25 іюля. Подтвержденіе кухмистру великой княгини, наместнику Коневскому и Дубицкаму, пану Микалаю Юндиловичу на две части отчизного и дедизного имения Ваверки, на построенный его отцом дворецъ на р. Пелесе (на выслуженных им трехъ следахъ у великаго князя Казимира), на купленыя имъ и его отцом земли и сеножати у Василишских бояр и господарскихъ людей Дубинскаго, Бортскаго и Волкавыйскаго поветов ...*

*Бил намъ чолом кухмистръ нашое королевское ее милости, намесникъ Коневскій и Дубицкий, пан Миколай Юнъдиловичъ и поведилъ перед нами, штожъ мелъ делъ и з братьею своею, зъ Яном а съ Павломъ, досталося ему на делу отъ братьи его две части именья Ваверки - одна часть, што отецъ ихъ Юнъдило держалъ, а другая дяд(ь)ка ихъ Яна Рачковича, которую жъ часть отец нашъ, король его милость, взялъ былъ къ своей руце отъ отца ихъ, отъ Юнъдила, о отъ дяд(ь)ка ихъ, отъ Михна, а то его милость учинил для выступу Михнова, ижъ Михна забилъ того Яна, брата своего рожоного; и потомъ отецъ нашъ, кароль его милость, з ласки своее, за ся тую часть выписаную, дяд(ь)ку ихъ Янову, отцу ихъ пану Юндилу далъ со всимъ съ тымъ, как тотъ дяд(ь)ко ихъ Янъ деръжалъ; и тежъ къ тому двору его Ваверъскому досталося ему на деле отъ братьи его купля отца его, поле и зъ дубровою, которое жъ отецъ его купилъ у бояръ Василишскихъ, на имя у Станка Соврымовича а въ Мацка а въ Талка Винъчевичомъ; такежъ поведалъ намъ, штожъ отецъ и панъ Юндило выслужылъ на отцы нашомъ, короли его милости, земли пустоъвскіи у Василишскомъ повете, тры следы, на имя Марътиновъ а другой следъ Лойбеновича а третий Недашевича, и на тыхъ землях отец его и дворец собе збудовал на реце на Пелесе; и къ тому дворъцу Пелескому прикупилъ собе сеножати въ людей нашыхъ Дубинъского повета, въ Супунъцовъ, на имя въ Путяты - на три стоги сена, а Нелепка - на тры стоги, а въ Михно Войштовтовичъ - на тры жъ стоги, а въ Леся - на два стоги, а в ыиныхъ людей нашых Бортьского повета, на имя у Яча, - на десеть стоговъ сена, а у Плика - на пять стогов сена, а въ Пикеля - на три стоги сена; а потомъ онъ самъ, вжо после отца своего, посполу зъ матъкою своею покупилъ сеножатьки и съ кустовьемъ надъ рекою надъ Пелесою, всего того на двадцать и на пять стогов, въ людей нашихъ, въ бортевъ, на имя въ Ондрея а въ, Челейшы Кійневичовъ а въ Пиля и въ Родя Добейковичовъ а у Станя Куйжы а въ Сака а въ Михна а у Мацъка а у Янъца Петрашевичовъ а въ Шымка Автовтовича а въ Богдана а въ Петька Жостовътовичовъ в у Янеля а въ Микки Станевичовъ а у Янъка Михновичъ а въ Петька Станевича а у Васка и въ его брата въ Янъка Буйковичовъ а въ Носа Можуковича а у Юхна и въ братьи у Михна а у Якуба Пликовичовъ а у Онъдрея Кгестовътовича и въ его зятя у Лаврына а въ Юръкеля Сомиловича; тежъ поведилъ перед нами, штожъ перво сего мы дали ему земли пустовъские у Волковыйскомъ повете ..."*

[44] Акты, относящиеся к истории Западной России. Москва, 2012. Т. 1(6). С. 92.

Юндзілавічу былі зацверджаны купленыя ў Шымкі Янавіча *"два чоловеки на имя Дробыша Сидоровича а Илька Мужиловича, а чотыри земли, поле на имя Дылевское, а Побоевское, а Безведное, а Мацковщину, а Будиковщизну и з дубровами, и съ хворосты"* [45].

При вялікім князе Аляксандру і ў першыя гады княжання Жыгімонта наместнікам Дубіцкім і Каняўскім быў кухмістр вялікай княгіні Алены пан Мікалай Юндзілавіч, пасля смерці якога (каля 1516 г.), Дубічы і Канява перайшлі да яго брата Яна Юндзілавіча.

У 1518 г. вялікі князь узяў у Яна Юндзілавіча пазыку ў 600 коп літоўскіх грошаў, а ў забеспячэнне пазыкі здаў яму ў заставу двары Канява і Дубічы[46] - Ян Юндзілавіч трымаў гэтыя двары *"в заставе"*, г. з. карыстаўся з іх не толькі як наместнік, але і атрымліваў велікакняскія прыбыткі ў выглядзе працэнтаў ад 600 коп грошаў, якія ён пазычыў каралю *"для великое потребы его и земское"*. Да 1520 г. вялікі князь дазволіў эйшышскаму дзяржаўцу пану Андрэю Якубавічу Давойнавіча выкупіць у Яна Юндзілавіча Каняву і Дубічы і даў яму гэтыя двары *"в держанье до живота"* [47]. У 1521 г. вялікі князь дазволіў Яну Юндзілавічу выкупіць двор Ашмяна (Ошмена) і выдаў прывілей на трыманне гэтага двара на працягу 7 гадоў з усімі даходамі[48].

Вяртаемся трошкі назад. У братазабойцы Міхны вялікі князь ВКЛ забраў таксама ў скарб двух сялян і дзве зямельныя маёмасці ў Васілішскім павеце. З-за братазабойства ў дакументах фундацыі ваверскага касцёла Міхна згадваецца разам з дзедзічамі Ваверкі, але яго няма сярод ахвярадаўцаў. А пра забітага Яна больш нічога не ведаем, бо загінуў ён маладым і не пакінуў слядоў свайго існавання.

Міхна, ці Мікалай Рачкавіч, меў сыноў: Мікалая, Станіслава і Яна. Усе трое карысталіся патронімам і авонімам (па імені дзеда): Міхнавіч Рачкавіча, аднак часцей з іх гэта рабіў Мікалай[49]. Трэба заўважыць, што ў старабеларускай мове яшчэ ў XVI ст. авонім меў толькі дапаўняльнае значэнне і форма яго не змянялася нават і ў жаночым родзе. Вось прыклад з запісу ў Метрыцы Літоўскай датаваным 1547 г.: *"... боярынъ нашъ Мацей Якубовічъ Кунцовича і яго ж жонка Зофея Миколаевна Бакалоровича"*. Узгаданая Зоф'я - унучка бакалаўра Мікалая Міхнавіча Рачковіча. Потым гэтыя авонімы сталі пераўтварацца ў прозвішчы.

Мікалай, старэйшы сын Міхны, быў адным з найвыбітнейшых прадстаўнікоў свайго рода. Ён прысутнічае ў многіх дакументах пад сваім іменем ці назвамі, ўтворанымі ад навуковага тытула, патроніма ці авоніма. Інфармацыя пра Мікалая захавалася ў дакументах Літоўскай метрыкі за 1499-1520 гг.

У самым першым дакуменце ад 4 кастрычніка 1499 г. яго называюць *"Миколаи Михновичъ Бакаляр"*, у гэтым дакуменце вялікі князь Аляксандр зацвердзіў бакалаўру раней адабраную ў яго бацькі маёмасць: *"Билъ намъ чоломъ дворанин нашъ Миколаи Михновичъ Бакаляр и поведил перед нами, што ж отец его был в держаньи у Василишскомъ повете людеи на имя Ростя Бяневича а Петра Чижевича а двух земль, Килеиковщины а Микуловское, при отцы нашомъ, короли, его милости. И затым отец нашъ, его милость, тыи люди и земли у отца его отнял. Ино мы ему тыи люди и земли за ся дали з ласки нашее ..."* [50].

У другім дакуменце ад 1500 г. ён завецца *Міхнавіч Бакалаўр*, у 1504 г. *Мікалаевіч Рачкавіча*, у 1508 г. *Міхнавіч Рачкавіча*, у 1512 *Мікалаевіч Рачкавіча*, у дакуменце 1514 г. выступае як *Міхнавіч* без авоніма, у 1515-1516 і 1517-1520 гг. пераважна як *Міхнавіч Рачкавіча* ці *Міхнавіч* без авоніма, у 1519 г. у дакуменце на лаціне *Nicolaus Raczkowicz*. Потым акадэмічная ступень бакалаўра перамагла, і дзеці Мікалая былі ўжо **Бакалаўравічамі**, іх сяляне "людзі Бакалаўравы", маёмасць "Бакалараўшчна". Як бачым, старэйшы сын Міхны - Мікалай Бакалаўр яшчэ абыходзіўся без прозвішча.

Невядома, у якой навучальнай установе Мікалай Міхнавіч атрымаў адукацыю, але яго акадэмічны тытул указвае на вучобу менавіта ва ўніверсітэце, пры тым, што ў спісах студэнтаў Кракаўскага ўніверсітэта яго няма. Магчыма, Мікалай Міхнавіч вучыўся ў іншым універсітэце, а можа яго імя сярод кракаўскіх студэнтаў яшчэ не знойдзена.

4 кастрычніка 1499 г. вялікі князь ВКЛ Аляксандр надаў Мікалаю Міхнавічу зямлю і сялян у Васілішскім павеце, недалёка ад Ваверкі. Гэтая зямля і сяляне ў свой час былі адабраныя вялікім князем Казімірам у яго бацькі. 7 чэрвеня 1508 г. Мікалай атрымлівае ў Васілішскім павеце каля Забалаці 20 службаў, канфіскаваных у збеглага ў Маскву князя Глінскага. Трэба заўважыць, што служба як адзінка вымярэння паслуг на карысць дзяржавы з'явілася ў часы Вітаўта. Ад пачатку яна была адпаведнікам адной сямейнай гаспадаркі, але ўжо на пераломе XV і XVI ст. у паняцце "служба" ўваходзіла некалькі гаспадарак.

У 1515 г. "пан Бакалаўр" атрымаў "рог лесу" у Дубіцкай пушчы, прылеглы да ваверскіх уладанняў яго рода, і маёмасць у Ваўкавыскім павеце.

У 1500 г. вялікі князь Аляксандр зацвердзіў Мікалаю Міхнавічу вячыстую ўласнасць на рацэ Распуда (Даспуда) у Гарадзенскім павеце разам з 8 азёрамі, сярод якіх цякла гэтая рака. На гэтым месцы ўзнікла мястэчка Бакаларава (18 км на захад ад Сувалак). Мястэчка стала добра вядома і патрапіла ў шматлікія дакументы і карты свайго часу - карты Стрыбіча (1589

[45] Акты, относящиеся к истории Западной России. Москва, 2012. Т. 1(6). С. 229-230.

[46] Любавский М. К. Литовско-русский сейм. Москва, 1900. С. 214.

[47] Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута: Исторические очерки. Москва, 1892. С. 154.

[48] Там жа. С. 97.

[49] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 38-39.

[50] Акты, относящиеся к истории Западной России. Москва, 2012. Т. 1(6). С. 235.

г.), Меркатара (1609 г.), Макоўскага (1613 г.), Рызі Занонні (1772 г.)[51].

Таксама бакалаўр Мікалай Міхнавіч валодаў вёскай Праважа на рацэ Пеляса. З маёмасці Клаўсуця Мікалаю Міхнавічу ад дзеда Рачкі перайшла частка Пелясы[52], іншую частку Пелясы трымаў у 1463 г. Юндзіла Рачкавіч, а пасля яго, у 1567 г. - ягоны ўнук Мікалай Паўлавіч Юндзіл. У 1570 г. *"дваранін яго каралеўскай міласці"* Мікалай Паўлавіч Юндзіл падзяліў сваю маёмасць паміж сваімі сынамі ад двух шлюбаў: *"... варуючи я покой и згоду межы детьми, сынами моими Яномъ, Крыштофомъ а Микалаемъ Юндилами, с першою малжонкою моею, пани Ганною Мицутянкою спложоными, такъ же Абрамомъ, Войтехомъ и Ярошомъ, сынами моими, з другой малжонкою моею, пани Галеною Богушовною Тушевицкого спложоными ... "* [53]. Сыны ад першага шлюбу атрымалі маёнтак Бусяж у Слонімскім павеце, а сыны ад другой жонкі ўспадкавалі два маёнткі ў Лідскім павеце - Пелясу і Ваверку: *"... з мещанами у Великой Ваверце, Студенцахъ домами мешкаючими, з людьми, з бояры и зо всими кгрунты до тыхъ именъ Пелесы и Ваверки належачыми"* [54]. З гэтага дакумента даведваемся, што маці першай жонкі Мікалая Юндзіла - Ганны Міцуцянкі, была княжна Марына Жыжэмская[55]. Каментуючы гэтакае драбленне маёмасці Юндзілаў, гісторык Іван Лапа пісаў: *"Калі працягнуць гэтыя падзелы яшчэ на адно пакаленне, дык можна ўявіць, на якія невялікія часткі павінны былі распасціся землі Мікалая Юндзіла"* [56].

Заўважу, што ў Метрыцы ВКЛ у 1542 г. згадваецца нейкая жонка Яна Юндзіла - Янавая Юндзілавая Малкгарэта, сястра Мікалая Будзілы і маці Марціна Юр'евіча Шамёта[57].

Вяртаемся да Мікалая Бакалаўра. Першы раз мы бачым Мікалая Міхнавіча Рачкавіча з тытулам бакалаўра і годнасцю двараніна вялікага князя Аляксандра ў Вільні 4 кастрычніка 1499 г. 24 лістапада 1504 г. сустракаем яго у ролі каралеўскага сакратара ці пісара літоўскага, а таксама дзяржаўцы (ці старасты) шавельскага. 9 жніўня 1507 г. ён атрымаў каралеўскі прывілей, у якім названы "нашым" пісарам на лаціне і намеснікам шавельскім. Гэта староства адносілася да самых багатых у Літве, і пасля Мікалая дзяржаўцамі яго паслядоўна былі віленскі біскуп Ян (паходзіў з літоўскіх князёў), луцкі біскуп Юры Фальчэўскі і віленскі ваявода і канцлер ВКЛ Мікалай Радзівіл.

У 1514 г. паміж ігуменам Супральскага манастыра і Мікалаем Міхнавічам узнік канфлікт з-за лугоў, якія манастыр купіў, а бакалаўр атрымаў па каралеўскім прывілеі. У выніку манастыр саступіў маёмасць Мікалаю Міхнавічу[58].

У Вільні 15 траўня 1514 г. у маршалкоўскім судзе Мікалай Бакалаўр быў названы *"Миколай Михновичъ, маршалок и секретаръ господаря его милости, державца Шовленский"* - г.зн. старастам шавельскім, гаспадарскім маршалкам і пісарам літоўскім[59]. Усе тры пасады займаў да смерці, якая, верагодна, напаткала яго пасля 3 лютага 1520 г., бо менавіта тады адбыўся апошні суд, на якім ён фігуруе як дзяржаўны ўрадовец[60]. У апошнія 6 гадоў свайго жыцця Мікалай часта ўдзельнічаў у пасяджэннях маршалкоўскага суда, працай якога кіраваў Ян Мікалаевіч Радзівіл, маршалак ВКЛ (*"Ян Микалаевичъ, маршалакъ земски, державца Слонимски..."* [61]). Гэта наблізіла яго да ўплывовай у Вялікім Княстве асобы.

Жонка Мікалая Міхнавіча Ганна - дачка князя Багдана Міхайлавіча Свірскага (па мянушцы Тур) і яго жонкі Кацярыны Пятроўны Давойны Крупскай. Ганна з Свірскіх, як пасаг, прынесла Мікалаю маёмасць у Наваградскім і Ваўкавыскім паветах і маёнтак Касцянёва ў Васілішскім павеце, які быў маёмасцю Давойнаў Крупскіх, з якіх яна паходзіла (Давойны валодалі Крупавам каля Ліды)[62]. У 1528 г. пасля смерці мужа, *"Пани Бакаляровая"* павінна была выставіць 5 коней з маёмасці ў Васілішскім павеце[63], а з усёй сваёй маёмасці - 15 коней. Вядома, што ў той час трэба было выстаўляць аднаго каня з 8 службаў, з чаго бачна, што ўдава мела 120 службаў, зразумела, не лічачы дворных палёў, лясоў, лугоў і рэк, якія займалі значна большую тэрыторыю, чым сялянскія валокі.

Адзіны сын Мікалая Міхнавіча - Мікалай Мікалаевіч Бакаларавіч не пакінуў пра сабе ніякіх звестак, бо, верагодна, памёр маладым.

Сярэдні брат Мікалая Міхнавіча Станіслаў у 1528 г. ставіў у войска чатырох коней.

Малодшы брат Мікалая Міхнавіча Ян Міхнавіч Рачковіча ў 1475-1478 гг. вучыўся на факультэце вольных мастацтваў Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве і атрымаў ступень бакалаўра. Гэта чацвёрты бакалаўр з мала каму вядомай Ваверкі. Але нягледзячы на адукацыю, жыў спакойным жыццём землеўладальніка. З-за спад-

[51] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 39-42.

[52] РИБ. Т. 20. С. 432-434.

[53] АВАК. Т. 22. Вильна, 1895. С. 417-418.

[54] АВАК. Т. 22. С. 417-418.

[55] Там жа.

[56] Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерци Стефана Батория (1569-1586). С.-Петербург, 1901. Т. 1. С. 473.

[57] Lietuvos Metrika. Knyga № 230. 1542. Vilnius, 2001. P. 42-44.

[58] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 43-44.

[59] РИБ. Т. 20. С. 148.

[60] Там жа. С. 1396.

[61] Там жа.

[62] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 44-45.

[63] Русская историческая библиотека, издаваемая Археографической комиссией. Петроград, 1915. Т. 33. С. 86.

каў Ян Міхнавіч вёў судовыя працэсы супраць духавенства ў Бетыголе (Жмудзь) і нават супраць Жмудскай біскупскай курыі. Быў жанаты з Кібартавічоўнай[64].

Не лішнім будзе нагадаць, што вялікі Францішак Скарына *“из славного града Полоцька”* атрымаў ступень бакалаўра Кракаўскага ўніверсітэта толькі ў 1506 годзе. Пакуль слынны Полацк займеў аднаго бакалаўра, лідская Ваверка мела ўжо чатырох. Розніца ў пастаноўцы адукацыі на захадзе і ўсходзе ВКЛ відавочная. Пры тым першы бакалаўр у Ваверцы з’явіўся ў 1447 годзе, задоўга да нараджэння Скарыны.

**Маёмасць Клаўсуцяў на Лідчыне**

Вакол Ваверкі да XX ст. існавалі 34 розныя маёнткі, якія раней належалі роду Клаўсуцяў, да іх яшчэ можна дадаць і некалькі населеных пунктаў.

Тэрыторыя, якая ляжала ад Дубровы бакалаўра Алехны Галігінавіча на поўдні, да Новага Двара яго брата Міхала на поўначы, цягнулася 79 км, ад Валейшаў Даўгірда на захадзе да Нецячы Шамёта на ўсходзе - 39 км (каля 2450 км$^2$). У гэтым арэале маёмасці Клаўсуцяў, як выспы, знаходзілася некалькі каралеўскіх і невядомая колькасць баярскіх уладанняў. Пра існаванне апошніх можна даведацца з апісання межаў зямельных надзелаў, ахвяраваных касцёлу ў Ваверцы ў 1463 г. У дакуменце названы 24 *homines* (кмет, свабодны селянін) і 5 суседзяў-шляхціцаў, з якіх адзін названы *dominus* (гаспадар), другі - *generosus* (баярын), астатнія тры - *nobili* (высакародныя).

У часы Вітаўта на Лідчыне паўсюдна цягнулася пушча, якая была вялікакняскай маёмасцю. Гэтак было да раздачы Вітаўтам зямлі сваім баярам. У часы Вітаўта ў нас яшчэ не было вялікай колькасці сталага насельніцтва, і вялікі князь мог надаваць толькі лясы і рэкі. Таму гэтыя наданні каштавалі не шмат - гаспадар павінен быў карчаваць лес і сяліць сялян. Так праз выкарчоўку і заняцце новых пусташаў ішла каланізацыя Лідчыны.

Паступова на Лідчыне сяліліся сяляне. Кметы павінны былі адрабляць нейкі час на шляхціца ў якасці платы за карыстанне яго зямлёю, але захоўвалі асабістую вольнасць. Не страцілі яе нават у першай XV ст., калі пачалі станавіцца аб'ектамі наданняў вялікім князем прыватным асобам разам з зямлёй. Бенефіцыянты праз такія наданні не набывалі права ўласнасці на людзей, якія фігуравалі ў гэтых дакументах, яны атрымлівалі толькі права на адработку сялянамі за зямлю і з нададзенай маёмасці неслі павіннасці перад дзяржавай.

Але з другой паловы XV ст. намеціліся змены, абумоўленая развіццём сельскагаспадарчай тэхнікі і каланізацыяй. У сувязі з гэтым, пачынаюцца наданні, у якія ўваходзяць людзі разам з іх нерухомасцю, што азначала пазбаўленне іх асабістай свабоды і права ўласнасці.

Да групы ўплывовых баяраў з атачэння Ягайлы і Вітаўта на пераломе XIV і XV стст. належалі нашчадкі Клаўсуця: Урдыч, Галігін, Відумін, а таксама Кормулт. Да канца XV ст. іх праўнукі: Рачкавічы (ці Бакаларавічы), Юндзілы, Шаметы, Даўгірды ўваходзілі у эксклюзіўны шэраг шляхецкіх родаў ВКЛ. Іх яднала радавое гняздо ў Ваверцы, атачонае вялікай колькасцю сваяцкіх маёнткаў, цвёрдая прыхільнасць да сваёй тэрыторыі і ўсведамленне адзінства роду. Тое, што ў 1413 г. у Гародле Галігін, як старэйшына роду, разам з 47 вызначанымі Вітаўтам баярамі, атрымаў герб Лебедзь, для яго роду было другасным, бо на Літве гербы ніколі не мелі такога значэння, як, напрыклад, у Польшчы. Тым не менш гербавая адаптацыя праз Галігіна ўсяго роду (які тады складаўся з 8 родных і стрыечных братоў) азначала, што ўсе Клаўсуці прынялі герб Лебедзь.

Клаўсуці ўзняліся з канца XIV ст., а схіляцца ўніз, пад напорам гаспадарчых зменаў, пашырэння роду і адыходам у мінулае кланавага ўладкавання род пачаў пры канцы XV ст.[65]

**Маёмасць рода вакол Ваверкі[66]:**

**- Бараноўцы, Дуброва, Доцішкі**, маёмасць Ганны Юндзілаўны ў 1567 г.[67]: *"Хорунжиная бывшя Ейшишская Ганна Юндиловна з ыменнья своего зъ Дочишокъ 1 конь"* [68].

**- Даўгірданцы, Дылева, Дзітва, Дзітва Шамятоўская**, маёмасць Нямойкі, сына Кормулта, бацькі Шамета і Рымкі, быў уладальнікам часткі Дзітвы ў 1463 г.[69] Яшчэ на пачатку XVIII ст. Дзітвой Шамятоўскай валодаў Уладзіслаў Шамёт[70].

**- Гародна**, маёмасць Філіпа Шымкавіча (сына Шымкі Мацкавіча), у 1567 г. валодаў таксама часткай Ваверкі і Забалаці[71]: *"Панъ Филипъ Шимковичъ з ыменей своихъ ... з Городное въ повете Лидскомъ, з Заболотья конь один а з Ваверки конь одинъ, тыя дворцы лежатъ въ Лидском повеце..."* [72].

**- Ятаўты, Юндзілішкі, Калеснікі**, маёмасць Яна Мацеевіча Кунцэвіча, 1567 г., сына Зоф'і Бакаларавічоўны[73]: *"Панъ Янъ Матъвеевичъ Кунцовича з ыменей своихъ ... съ Колесникъ въ повете Лидскомъ кони 2..."*[74].

[64] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 45-51.
[65] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52-55.
[66] Па магчымасці буду прыводзіць кавалкі тэкстаў з "Перапісу войска ВКЛ 1567 г." надрукаваным у РИБ. Т. 33.
[67] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52.
[68] РИБ. Т. 33. С. 757.
[69] Glinka J. R?d Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52.
[70] Шымялевіч Міхал. Збор твораў / укл. Л. Лаўрэш. Гродна, 2019. С. 42.
[71] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52.
[72] РИБ. Т. 33. С. 495.
[73] Glinka J. R?d Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52.
[74] РИБ. Т. 33. С. 512.

**- Лебяда Вялікая**, маёмасць Размуса Даўгірда[75]: *"Панъ Размусъ Довгирдъ, судья земли Троцкое, ставил почот з ыменей своих ... зъ Лебеды съ подъ Василишокъ ... ставил конь"* [76].

**- Міхнаўцы, Мальгі**, маёмасць чатырох братоў Галігінавічаў.

**- Мантвілішкі,** маёмасць Мікалая Юндзіла[77]: *"Миколай Юндилъ ... съ Поддивя конь 1"* [78]. Магчыма ён у 1542 г. падпісаў дакумент як *"врадник королеевое, ее м(и)л(о)сти, ... Миколай Юндило"* [79].

**- Надзея, Нецяч,** маёмасць Шамётаў на пачатку 16 ст.

- **Новы Двор** (гл. вышэй).

**- Ольжава, Малое Ольжава, Вялікае Ольжава** (гл. вышэй).

**- Пеляса** (гл. вышэй).

- **Паддуб'е**, маёмасць Юрыя Якубавіча і Яна Лаўрынавіча Рымковічаў, унукаў Рымкі Нямойкавіча[80]: *"Юрьи Якубовичъ Рымковича зъ села съ Поддубя з дыму конь, рогати. Янъ Лаврыновичъ Рымковичъ зъ села съ Подубя з дыму меринъ, рогати ..."* [81].

**- Падзітва**, маёмасць Ганны Юндзілаўны[82]: *"Хорунжиная бывшвя Ейшишская Ганна Юндиловна зъ ыменнья своего з Дочишокъ 1 конь"* [83].

- **Праважа** (гл. вышэй).

**- Рачкуны, Радзівонішкі, Дзітва Лышчыкоўская, Дзітва Шамятоўская і Жырмуны**, маёмасць Крысціны з Глебавічаў Янавай Камаеўскай[84]: *"Пани Яновая Комаевская, маршалковая господарская, старостиная Ковенская, пани Крыстина Глебовна ставила ку службе земской военной почту з ыменей своих ... зъ Жирмунтъ, з Радзивонишокъ, з Дитвы Лыщиковское а з другой Дзитвы Шеметовское, в повеце Лидском лежачыхъ ..."* [85].

**- Старадворцы, (Стары двор)**, маёмасць Ленарта Даўгірда[86]: *"Ленартъ Довгирдъ Станиславовичъ з ыменей своих зъ Старого Двора въ Лидскомъ повете ..."* [87].

**- Татаршчына, Утвяны** (каля 14 км ад Васілішак), маёмасць Размуса Даўгірда[88]:

**- Ваверка, Валейшы**, маёмасць Размуса Даўгірда[89]: *"Панъ Размусъ Довгирдъ, судья земли Троцкое, ставил почот з ыменей своих - з Волейшъ и зъ дворца Утвенского въ повеце Лидскомъ ..."* [90].

**- Ворнішкі (Варняны), Ольжава, Пеляса, Ваверка**, маёмасць Настассі Мацеевай Нялюбавай[91]: *"Матеевая Нелюбовая Настасья вдова з ыменей своихъ - Олжова, съ Пелесы, з Ворнянъ, з Ваверки конниковъ 6 ..."* [92].

**- Забалаць**, Гародна (гл. вышэй)[93].

Пры канцы, некалькі слоў пра лёс Дзітвы Шамятоўскай. У 1567 г. Крысціна з Глябовічаў Камаеўская, віленская ваяводзянка, вялікімі часткамі распрадала маёнткі Дзітву Шамятоўскую і Струбніцу (на Ваўкавысчыне), якія атрымала "па-кудзелі". Яшчэ ў 1567 г. часткай Ваверкі валодаў Юзаф Марцінавіч Вяжэвіч. Ягоны продак, баярын Вяжа, жыў у сярэдзіне XV ст., меў жонку з роду Клаўсуцяў і быў заснавальнікам радоў Глябовічаў і Вяжэвічаў. Праз яе маёмасць Клаўсуцяў патрапіла да праўнучкі Крысціны з Глябовічаў Камаеўскай[94].

[75] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52.
[76] РИБ. Т. 33. С. 503.
[77] Glinka J. R?d Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52.
[78] РИБ. Т. 33. С. 758.
[79] Lietuvos Metrika. Knyga № 230. 1542. Vilnius, 2001. P. 7.
[80] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52.
[81] РИБ. Т. 33. С. 767.
[82] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52.
[83] РИБ. Т. 33. С. 757.
[84] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52.
[85] РИБ. Т. 33. С. 493.
[86] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52.
[87] РИБ. Т. 33. С. 508-509.
[88] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52.
[89] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52.
[90] РИБ. Т. 33. С. 503.
[91] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52.
[92] РИБ. Т. 33. С. 749-750.
[93] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 52.
[94] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. T. V. S. 36-37.

***Валерый Сліўкін***

# Маёнтак Дворышча

## Частка 3. 1870-1915 гг.

У 1869 г. казённы былы паезуіцкі маёнтак Дворышча быў падзелена на дзве часткі. Паўночная частка пад назвай маёнтак Тракелі плошчай 3.168 дзесяцін (3456 га) агульным коштам 25804 руб 12 студзеня 1870 г. перададзена ва ўласнасць начальніка штаба Віленскай вайсковай акругі генерал-маёра Аляксандра Паўлавіча Нікіціна. 5 лютага акт перадачы права ўласнасці быў аформлены ў Віленскай злучанай Палаце крымінальнага і грамадзянскага суда. Праз пяць гадоў 20 траўня 1875 г. А.П. Нікіцін прадаў Тракелі за 73500 рублёў інжынеру Канстанціну Якаўлевічу Міхайлоўскаму (1.S.87).



***Міхайлоўскі Канстанцін Якаўлевіч***

Канстанцін Якаўлевіч Міхайлоўскі (1834-1909) - выдатны інжынер-пуцеец, нарадзіўся ў Чарнігаўскай губерні, выхоўваўся ў кадэцкім корпусе. Скончыў Міхайлаўскую артылерыйскую вучэльню (1853), Міхайлаўскую артылерыйскую Акадэмію (1859), Інстытут шляхоў зносін (1861). У складзе Корпуса інжынераў шляхоў зносін браў удзел у вышуках і будаўніцтве Маскоўска-Курскай, Курска-Кіеўскай, Курска-Харкаўскай, Балтыйскай і Вільня-Ровенскай чыгунак. З 1869 г. вольны падрадчык. У 1870-е гады ўваходзіў у склад кіравання Віленскага камерцыйнага банка. У наступным удзельнічаў у будаўніцтве Заходне-Сібірскай чыгункі, моста цераз Волгу ў Сызрані і двух каналаў: Свірскага і Марыінскага. Узнагароджаны 11 ордэнамі.

Праз два гады, 27 чэрвеня 1877 г. К.Я. Міхайлоўскі прадаў Тракелі Марыі Васільеўне Языковай. Муж яе ваенны інжынер Мікалай Мікалаевіч Языкоў у той час будаваў і рамантаваў румынскія чыгункі для рускіх войскаў, якія вызвалялі Балканы ад Асманскай імперыі на … карысць Аўстра-Венгерскай імперыі. За ўдзел у вайне ўзнагароджаны ордэнам Святога Уладзіміра 4 ступені з мячамі і бантам, медалём і румынскім жалезным крыжом. У 1882-84 гг. у званні падпалкоўніка быў прыкамандзіраваны да Віленскай Інжынернай дыстанцыі, з 31.07.1887 г. палкоўнік пры штабе Чыгуначнай брыгады (2).

Пасля смерці 34-гадовай Марыі Васільеўны М.М. Языкоў узяў у жонкі яе малодшую сястру Юлію Васільеўну Варанец, якая ўспадкавала маёнтак Тракелі па тастаманце ад 24 верасня 1892 г. Другім шлюбам была замужам за сакратаром расійскага міністра юстыцыі Уладзімірам Пурцеладзе. Валодала маёнткам Тракелі да сваёй смерці ў 1923 г. (1. S.87).



Мікалай Мікалаевіч Языкоў (13.05.1849 - 15.12.1891) пахаваны на Ефрасіннеўскіх могілках у Вільні. Побач з ім пахаваны: яго маці Аляксандра Сцяпанаўна Языкова (20.04.1823-23.02.1886), яго першая жонка Марыя Васільеўна Языкова (26.03.1851-27.09.1885), яе сястра Ларыса Васільеўна Варанец (1859 - 11.06.1886), яго другая жонка Юлія Васільеўна Варанец-Языкова (к. 1860-1923) і яе другі муж Уладзімір Пурцеладзе (3.04.1859-23.04.1895). У цэнтры агульнага пахавання, раней агароджанага высокай чыгуннай агароджай, узвышаецца шэры гранітны помнік, увянчаны мармуровай статуяй

анёла з крыжом у руках і тлумачэннем са Святога пісання *"Любите врагов ваших, благословляйте клянущих Вас, благотворите ненавидящим вас и молитесь за обижающих вас и гонящих вас, да будете сынами Отца Вашего"*.

У фальварку Тракелі ад Языковых засталася памятная дошка на магіле любімага сабакі Юліі Васільеўны, якую захавалі супрацоўнікі Тракельскай базавай школы.




***Майму дарагому і вернаму Каро***

Далейшае апавяданне пойдзе пра паўднёвую палову маёнтка Дворышча, якое захавала першапачатковую назву. Гэтую палову атрымаў генерал ад інфантэрыі член Дзяржаўнай Рады барон Вільгельм Карлавіч Лівен. У новы маёнтак увайшлі фальварак Дворышча, хутар Уладзіслававa, землі ва ўрочышчах Біеўшчына, Пасякі, Капуснікі і Шулы, уцінкі вёсак Мергінцы і Дашкелі, пустэчы ва ўцінках вёсак сялян уласнікаў вёсак Гурыны, Сучкі, Ёчавічы, Пашунцы, Кабыльнікі і Эйтуны. Ворнай зямлі - 1369,44 дзесяцін, сядзібнай - 14,74, сенакоснай -245,09, пашаў - 224,86, разам - 1954,13 дзесяцін палявой апрацоўванай зямлі коштам 13014.5 рублёў. А таксама 1069,63 дзесяцін зямлі пад лесам ацэначным коштам 10301,6 р; млын, круподзёрка, піўзавод і дзве карчмы агульным коштам 5966,7 р, гаспадарчы інвентар на 3169,66 р, гаспадарчыя пабудовы коштам 3125,3 р. (3.Л.120-121).

Пасля некалькіх арыфметычных дзеянняў вышэйстаячага начальства па выключэнні асобных аб'ектаў, адсоткавай надбаўцы і зніжцы засталося 3087,59 дзесяцін зямлі агульным коштам 33856 руб 25 кап з растэрміноўкай плацяжу на працягу 20 гадоў. Штогод да 1 студзеня чарговага года В.К. Лівен абавязаны быў выплачваць у казну 1692 руб 81 кап (4.Л.174).

У 1871 г. В.К. Лівен быў прызначаны обер-егермайстрам Двара Яго Вялікасці, у 1873 г. за пяцідзесяцігоддзе службы ў афіцэрскіх чынах, пажалаваны ордэнам св. Андрэя Першазванага.

У 1872 г. для сялян-уласнікаў вёсак Юравічы, Бянейкі, Ёчавічы былі складзены геаметрычныя планы іх надзелаў (5,6,7).

Межаванне зроблена каморнікам Лідскага міравога з'езда Баконам. З прычыны ж заўвагі Віленскай Губернскай чарцёжнай у натуры выпраўляў і план гэты перараскладаў 1879 гады каморнік таго ж з'езда Луковіч.



***Геаметрычны план в. Юравічы Лідскага павета валодання сялян уласнікаў Жырмунскай воласці Дварышчанскай грамады, якая ўтварылася з земляў маёнтка Дворышча (5)***

Усярэдзіне таго валодання па вылічэнні маецца зямлі сядзібнай 3 дзесяціны 1925 кв. сажняў, ворнай -70 дзесяцін 105 кв. саж., сенакоснай - 8 дес. 1200 кв. сажняў і няўдобнай 1200 кв сажняў. Разам у выключным валоданні сялян в. Юравічы 82 дзесяціны 2030 кв сажняў. Сядзібная - сіняя, ворная - жоўтая, сенакосная - зялёная. 4 гаспадаркі: Івана Барылы, Андрэя Лукаша, Ігната Сарэлы, Івана Драба.

У 1879 г. такія ж зямельныя планы былі складзены для вв. Кабыльнікі, Мергінцы, Пашунцы, Сучкі і Эйтуны (8,9,10,11,12).

Вільгельм Карлавіч Лівен сканаў 2 лютага 1880 г. у Санкт-Пецярбургу, пахаваны на Ціхвінскіх могілках Аляксандра-Неўскай лаўры. 15 лютага Пецярбургскі акруговы суд зацвердзіў духоўны тастамант В.К. Лівена на карысць яго стрыечнага брата Вільгельма Густававіча Лівена. 15 чэрвеня быў падпісаны ўступны акт, а 30 чэрвеня 1880 г. новы ўладальнік звярнуўся да прысяжнага страпчага С.М. Валерштэйна з прашэннем:

*"Ваша міласць Самуіл Манесавіч.*

*Гэтым упаўнаважваю Вас пазычыць для мяне ў Віленскім зямельным банку да 50 тысяч рублёў пад заклад майго маёнтка Дворышча ... для чаго выклапаціць і атрымаць патрэбнае для закладу маёнтка закладное пасведчанне і іншыя ... дакументы, хадайнічаць пра здыманне ўскладзеных на маёнтак забарон, гасіць ... ускладзеныя на маёнтак даўгі, здзяйсняць сам заклад і выдаваць банку ўсякія, устаноўленыя яго статутам ... абавязацельствы, заявы і подпісы, атрымаць дазволеную пазыку, кароткатэрміновую ці доўгатэрміновую, як знойдзеце зручнейшым, і ў тым выдаваць квітанцыі, падаваць рознага роду прашэнні ў судовыя і прысутственныя месцы і службовым асобам, атрымліваць даведкі, копіі і іншыя паперы і наогул рабіць усё, што прызнаеце патрэбным. Гэтую ж даверанасць цалкам ці з абмежаваннямі перадаваць іншым асобам, а што Вы і ўпаўнаважаныя ад Вас асобы ў сілу гэтай даверанасці законна ўчыніце, я цалкам веру, спрачацца і пярэчыць не буду і мірна непарушна прыму".*

*"1880 года 30 чэрвеня даверанасць гэтая ў*

*Якабштадтскім гарадскім магістраце прад'яўлена і ў кнігу пад № 68 запісана, а што яна сапраўды падпісана баронам Вільгельмам Густававічам Лівенам у тым гэты магістрат гэтым сведчыць за належным подпісам і з прыкладаннем казённай пячаткі г. Якабштадта ў Курляндыі. Падпісалі бургамістр Жаглоўскі і сакратар Зіверт"* (4. Л.166).

Да ўвагі. Якабштадт (цяпер Екабпілс) - горад у Латвіі на беразе р. Даўгавы, пабрацім г. Ліды.

1 верасня 1880г прысяжны страпчы С.М. Валерштэйн звярнуўся ў Віленскае губернскае кіраванне дзяржаўнымі маёмасцямі з прашэннем: *"Жадаючы выплаціць адначасова ўвесь, які лічыцца на маёнтку Дворышча, растэрмінаваны на палёгкавых правах казённы доўг, і закладваючы для гэтага гэты маёнтак у Віленскім зямельным банку, маю гонар пакорна прасіць гэтае кіраванне выдаць мне пасведчанне пра тое, што казённы доўг, які лічыцца на азначаным маёнтку, можа быць пагашаны 5% білетамі Усходняй пазыкі па намінальным кошце"* (4. Л.165).

Віленскае губернскае кіраванне дзяржаўнымі маёмасцямі адказала, што на маёнтку Дворышча лічыцца доўгу растэрмінаванай пакупной сумы 18620 руб 99 кап, з якіх 16900 р могуць быць згашаны 5% білетамі Усходняй пазыкі па намінальным кошце, а нядоімка 1692 руб 81 кап - не ўнесеная да 1 студзеня 1880 г., - наяўнымі грашыма (4.Л.168).

19 верасня Віленскі зямельны банк зрабіў плацёж у Віленскае губернскае казначэйства для залічэння ў дэпазіт Кіравання дзяржаўнымі маёмасцямі 18 620 руб 99 кап, у тым ліку 16900 р аблігацыямі 3-яй Усходняй пазыкі з купонамі на тэрмін 1 лістапада 1880 г.; 319 руб 22 кап працэнтаў на гэтых аблігацыях па 17 верасня гэтага года і 1401 руб 77 кап гатоўкай, атрыманай банкам пры выдачы пазыкі пад заклад маёнтка Дворышча на выплату растэрмінаванай выкупной сумы, якая лічыцца на маёнтку. Адначасова з праводкай плацяжу Банк прасіў Губернскае казначэйства занесеныя ў дэпазіт кіравання 18620 руб 99 коп пералічыць у казну па параграфе 3 арт 1 каштарысу Часовага аддзела па пазямельным уладкаванні дзяржаўных сялян за Лідскае павятовае казначэйства, зняць забароны з маёнтка Дворышча за выплатаю ўладальнікам усёй купчай цаны і паведаміць пра гэта ў Віленскую злучаную палату крымінальнага і грамадзянскага суда, а таксама апавясціць Віленскую казённую палату пра папаўненне астатніх плацяжоў для іх выключэння з рахункаў (4. ЛЛ. 176-177).

Заклаўшы Дворышча ў Віленскім зямельным банку, Вільгельм Густававіч Лівен вызваліў маёнтак ад казённага доўгу і тым самым адкрыў магчымасць яго продажу ў іншыя рукі. Ніякіх спроб неяк добраўпарадкаваць маёнтак Дворышча Лівены не прадпрымалі. У 1879 г. была адноўлена дзейнасць броварнага завода, у якім 5 рабочых у 1884 г. вырабілі 172 тыс вёдраў самагонкі (13. С. 500).

Каля 1888 г. Карл Густававіч Лівен выставіў маёнтак на гандлі, Дворышча набыў таварыш (намеснік) дзяржаўнага кантралёра сенатар Тэрцій Іванавіч Філіпаў.



***Тэрцій Іванавіч Філіпаў***

Філіпаў Тэрцій Іванавіч (1825 - 1899) нарадзіўся ў Ржэве Цвярской губерні ў сям'і аптэкара. Скончыў курс у Маскоўскім універсітэце па гістарычна-філалагічным факультэце. У 1848-1856 гг. выкладаў славеснасць у 1-й Маскоўскай гімназіі. Па вяртанні з камандзіроўкі на Дон і Азоўскае мора для даследавання нораваў мясцовага насельніцтва быў прызначаны службоўцам адмысловых даручэнняў пры Св. Сінодзе. У 1864 г. перайшоў на службу ў дзяржаўны кантроль, з 1878 таварыш дзяржаўнага кантралёра, сенатар з 1883 г., дзейны таемны дарадца з 1889 г., дзяржаўны кантралёр з 1889 г. Публіцыст, праваслаўны багаслоў, збіральнік рускага песеннага фальклору. Друкаваў артыкулы ў "Москвитянине" і "Русской беседе". Акадэмік Расійскай Акадэміі Навук. Жонка Марыя Іванаўна Іларыёнава (1836-1894). Дзеці: Марыя ў замужжы Пелісе (1859-1896), Наталля, 1860 г.н., у замужжы Карыбут-Дашкевіч, сын Сяргей, 1871 г.н.

Філіпавы ўвесь час пражывалі ў Пецярбургу, Тэрцій Іванавіч па ўспамінах Іосіфа Колышкі: *"... сябраваў з Астроўскім, Палонскім, Майковым, Самарыным, Самойлавым, наогул, варыўся ў соку рускага таленту. Валодаючы дзівоснай памяццю, ён на памяць чытаў амаль усяго Пушкіна, Міцкевіча, Цютчава, быў скарбніцай... анекдотаў, здарэнняў - словам, у прыяцельскім колку быў дасціпны, займальны, незаменны. Заўсёды ружовы, жыццярадасны, акуратна расчэсаны... Я памятаю інтымныя вечары ў адным доме, дзе локаць да локця сядзелі Тэрцій, Апухцін (паэт) і Пётр Чайкоўскі. Гэта было такое спляценне лірыкі з сатырай, сур'ёзнасці з анекдотам, што галава кружылася. Памятаю ў дзяцінстве сустрэчу Тэрція з Дастаеўскім - як Тэрцій дасціпнічаў, а Дастаеўскі зласліва маўчаў. Акрамя спеваў і літаратуры, Тэрцій быў яшчэ спецыялістам па більярдзе і па вінце. На більярдзе ён абыгрываў маркераў, а ў вінце ў яго былі толькі два супернікі: Вітэ і Сушчоў. Калі яны сыходзіліся за зялёным столікам, за відовішча гэтае можна было грошы плаціць"* (14. Гл.8).

Сяргей Тэрціевіч Філіпаў (1871-10.11.1922) скончыў Аляксандраўскі ліцэй (1893), паступіў у Дзяржаўную канцылярыю, кіраваў кантрольнай палатай у Кіеве (1894), быў залічаны службоўцам адмысловых даручэнняў у Міністэрства фінансаў. Граў на віяланчэлі

і складаў рамансы. У 1894 г. ажаніўся з князёўнай Верай Мсціславаўнай Галіцынай-Астэрман (1874-1947 ці 1969). Сапраўдны стацкі дарадца (1898). У 1898 г. пакінуў дзяржаўную службу і заняўся ўладкаваннем маёнткаў, набытых у Тульскай, Смаленскай, Наўгародскай, Маскоўскай і Віленскай губернях.

Бацька і сын Філіпавы скуплялі маёнткі для перапродажу ці здачы ў арэнду па частках.

У першую чаргу Філіпавы пабудавалі ў Дворышчы вадзяны мураваны турбінны млын і побач драўляную хату мельніка. Сістэма водазабеспячэння млына ўключала шлюз на р. Жыжме, падвадны канал, воданазапашвальны стаў, стаў адпрацаванай вады і адвадны канал. Будынак млына двухпавярховы прастакутны памерам 25,6х12,2 м. Складзены з валуноў на вапнавым растворы, франтоны - з цэглы, падмурак абапіраўся на дубовыя палі. Таўшчыня сцен першага паверха - да 1,15 м, другога паверха - 0,9 м. Аконныя праёмы прастакутныя, праёмы 2 паверха паўднёва-заходняга фасада - паўцыркульныя. Перакрыцці - накат дошак па драўляных бэльках, падлогі драўляныя, вокны простыя аднастворкавыя, дзверы філянговыя, адмосткі - каменныя, унутраныя сцены абтынкованыя і пабеленыя. Дах двухсхільны, чарапічны. На паўднёва-заходнім схіле даху - 4 аконныя праёмы-люкі. У паддашкавае памяшканне віндай (грузавы ліфт) падавалася збожжа праз драўляны гаўбец (балкон) у тарцы будынка. Частку першага паверха займала пільня. Да паўночна-заходняга тарца асноўнага аб'ёму прылягала аднапавярховая мураваная прыбудова (9,9х5,5 м) з дашчанымі перакрыццямі і аднасхільным чарапічным дахам. Над уваходам у млын доўгія гады вісела жалезная табліца *"Застрахавана ў 1888 г. Паўночным таварыствам"* (16. С. 19, 20).



***Вадзяны млын і хата мельніка. 2016 г***



***Разваліны мураванай карчмы. 2016 г.***

У другую чаргу Філіпавы запусцілі броварны завод, пры дарозе пабудавалі вытанчаную мураваную карчму (10х12м) з валуноў, вапны і цэглы.

У трэцюю чаргу пабудавалі крухмальны завод. Прашэнне на пабудову крухмальнага завода Сяргей Тэрціевіч Філіпаў падаў у Віленскае губернскае кіраванне 2 верасня 1896 г.: *"Прадстаўляючы пры гэтым праект плана на ўладкаванні ў маёнтку маім "Дворышча" Лідскага павета бульбяна-крухмальнага завода маю гонар пакорна прасіць Губернскае кіраванне дазволіць мне пабудову яго па прыкладзеным плане і адкрыць у ім дзейнасць з бягучага 1896 года. Абшарнік Лідскага павета тытулярны дарадца Сяргей Філіпаў"* (17. Л.1).



Прошеніе

Губернскі інжынер 5 верасня адпісаў Лідскаму павятоваму паліцэйскаму кіраванню: " ... *прадстаўлены Філіпавым праект на меркаваную пабудову завода складзены без выканання будаўнічага статута і па-гэтаму не можа быць дадзены дазвол на запрошаную пабудову, а таму ... Будаўнічае аддзяленне Губернскага кіравання прапануе Паліцэйскаму кіраванню ўручыць такі Філіпаву і прапанаваць яму прадставіць чарцёж завода ў 2-х асобніках, складзены, паводле будаўнічага статута ва ўзаконеным маштабе і з подпісам на ім тэхніка, які прыняў на сябе назіранне за работамі на меркаванай пабудове"* (17. Л.6-7)

28 верасня Лідскі паліцэйскі спраўнік данёс Губернскаму кіраванню, што прадпісанне губернскага інжынера перапраўлена па месцы жыхарства Філіпава ў горадзе Санкт-Пецярбург у канцылярыю г. Санкт-Пецярбургскага кіраўніка горада (17.Л.4).

20 лістапада С.Т. Філіпаў падаў другое прашэнне ў Віленскае губернскае кіраванне:

*"У дадатак да пададзенага мною ў Губернскае кіраванне 2-го верасня 1896 прашэння, прадстаўляючы пры гэтым праект бульбяна-крухмальнага завода ў маёнтку маім Дворышчы Лідскага павета, пакорна прашу праект зацвердзіць, а работы агледзець і затым дазволіць мне эксплуатацыю сказанага завода. Абшарнік калежскі асэсар С.Т. Філіпаў"* (17. Л.8).

21 лістапада віленскія службоўцы разабраліся, з чыім прашэннем маюць справу, губернскі інжынер папрасіў Губернскага архітэктара Полазава тэрмінова агледзець бульбяна-крухмальны завод і скласці адпаведны акт (17.Л.9).

23 лістапада Губернскі архітэктар Полазаў разам з памочнікм павятовага спраўніка агледзеў крухмальны завод і 25 лістапада прадставіў акт.

*"АКТ*

*1896 года лістапада 23 дня. З прычыны прапановы Будаўнічага аддзялення Віленскага*




***Праект крухмальнага завода ў маёнтку Дворышча.*** *1. Лакамабіль 2. Рэзервуар для вады і помпа. 3,4,5. Чаны для адстойвання крухмалу. 6,7,8. Чаны для прамывання крухмалу. 9. Апарат для прамывання жамерын. 10. Бульбяная мыйка. 11.Тарка. 12. Сушыльная печ (17. Л.2).*

*Губернскага Кіравання ад 22 лістапада гэтага года, я, ніжэйпадпісаны Віленскі губернскі архітэктар Полазаў, прыбыўшы ў маёнтку Дворжышча, які належыць абшарніку С.Т. спадару Філіпаву і размешчаны ў Лідскім павеце Віленскай губерні, пры прысутнасці лідскага памочніка спраўніка сп. Чырыкава праводзіў агляд новапабудаванага ў гэтым маёнтку мураванага з бутавага каменю, крытага гонтай крухмальнага завода і аказалася наступнае:*

*1. Пасля параўнання пабудаванага завода з прадстаўленым Будаўнічым аддзяленнем у двух асобніках планам знойдзена, што такі завод пабудаваны цалкам згодна з азначаным планам ... якасці і памераў, а таксама паводле правіл фабрычных.*

*2. Вадкія адкіды прапанавана адводзіць па асобна пракладзенай трубе ў наяўны рэзервуар у выглядзе ападкавай студні, а адтуль у праточны раўчук, густыя ж адкіды пасродкам адмысловай трубы мяркуецца прапускаць у рухомыя прыёмнікі, якія ... адводзяцца ў бок і ўжываюцца для корму жывёлы.*

*3. Лакамабіль, хоць фабрычным інспектарам не выпрабаваны, усталяваны на месцы і можа быць прыведзены ў дзеянне, а ўсё ўнутранае ўладкаванне завода цалкам скончана, што па меркаванні Губернскага архітэктара Полазава дзеянне завода можа быць адкрыта бесперашкодна, пра што і пастанавілі скласці за агульным подпісам гэты акт, які разам з планамі перадалі Губернскаму архітэктару для прадстаўлення ў Губернскае кіраванне на разгляд і выдачу неабходнага распараджэння пра адкрыццё дзейнасці гэтага завода, у чым і падпісваемся.*

*Губернскі архітэктар Полазаў.*

*Памочнік спраўніка Чырыкаў"* (17. Л.12).

Праект разгледжаны і ўхвалены задняй датай 9 лістапада 1896 г. па пратаколе Будаўнічага аддзялення Віленскага губернскага кіравання. Падпісалі Віца-губернатар, Губернскі інжынер і Губернскі архітэктар.

Будынак завода "Г"-падобны. Да прастакутнага асноўнага аб'ёму з паўночнага ўсходу прылягала невя-



**Праект крухмальнага заводу ў маёнтку Дворышча. Разрэз у вертыкальнай плоскасці (17. Л.2)**

лікая квадратная прыбудова, у якой размяшчаўся лакамабіль. Сцены збудаваны з валуноў на вапнавым растворы. Вонкавыя бакі валуноў рознага колеру і петраграфічнага складу падчасаны. У сценах прастакутныя аконныя і дзвярныя праёмы выкладзены чырвонай цэглай. Дах высокі двухсхільны, прасторнае гарышча з драўлянымі ўсходамі. Восем драўляных слупоў падтрымлівалі бэлечнае перакрыцце асноўнага памяшкання. Выгляд у развалін будынка і ў наш час вельмі маляўнічы.

Паблізу ад сядзібнага дома Філіпавы заклалі невялікі парк плошчай каля гектара (таполя, граб, бяроза, клён белы) і ўздоўж уязной дарогі высадзілі ліпавую алею.



*Фасад завода (17.Л.2)*



*Разваліны крухмальнага завода. Заходняя сцяна. 2016 г.*



*Разваліны крухмальнага завода. Усходняя сцяна. 2016 г.*

Тэрцый Іванавіч Філіпаў сканаў 30 лістапада 1899 г., быў пахаваны каля Ісідораўскай царквы Аляксандра-Неўскай лаўры. На пахаваннях прысутнічалі імператар Мікалай II і ўвесь кабінет міністраў (18.С.26).

Вёскі, якія належалі да адмены прыгоннага права да маёнтка Дворышча, існавалі ў межах участкаў выдзеленых у 1865 г., да 1900 г. страцілі па 2-4 дзесяціны, Дайнава страціла 10, Кабыльнікі - 8, Эйтуны - 18 дзесяцін. Усе сялянскія сем'і збяднелі, у сярэднім на аднаго чальца сям'і ў 1865 г. прыпадала 2,51 дзесяціны,



***Прыбудова для лакамабіля***

у 1900 - 1,0. Некаторыя вёскі (Мергінцы, Пашунцы Юравічы, Эйтуны) падышлі да мінімальнай парогавай велічыні - 0,77-0,81 дзесяціны на аднаго чалавека. Звязана гэта з тым, што колькасць насельніцтва ў вёсках Дварышчанскай і Тракельскай сельскіх грамадаў за мінулыя 35 гадоў вырасла ў 2 разы. З памерам надзелаў, атрыманых у 1865 г., наўпрост аказалася звязана нараджальнасць: вёскі, якія атрымалі больш за 2,8 дзесяціны зямлі на аднаго чальца сям'і да 1900 г. далі трохразовы прырост насельніцтва, меней за 2,5 дзесяціны - паўтарачны і двухразовы прырост.

С.Т. Філіпаў драбіў маёнткі на часткі, прадаваў іх ці здаваў у арэнду. Напачатку ХХ стагоддзя маёнтак Дворыча плошчай 2728 дзесяцін належаў Івану Карышаву, у сядзібе жылі 92 чалавекі, 54 мужчыны,38 жанчын (19.С.194). У 1911 г. цэнтральную частку маёнтка плошчай 302,5 дзесяціны з млыном набыў латыш Аўгуст Амберг (20.С.49). Разам з тым, закладныя падпіскі 1908-1916 гг. на атрыманне пазык пад заклад зямельных участкаў паказваюць, што ўладальнікам маёнтка заставаўся С.Т. Філіпаў (16.С.9). Да гэтага часу ён пабудаваў у с. Бараціна Багародзіцкага павета Тульскай губерні два буйныя заводы: броварны, на якім 48 рабочых выпускалі прадукцыі на 167 тыс. руб. і спіртаачышчальны, дзе 11 рабочых выганялі спірту на 55 тыс. руб. (21, 22). Там жа ў Бараціна заснаваў стайню па гадоўлі рысістых коней, утрымоўваў 25 конематак (15. С.49-50).

**Першакрыніцы:**

1. Szymielevicz M. Dworzyszcze i Trokiele// Ziemia Lidzka. № 3. 1939 г.

2. Памятные книжки Виленской губернии на 1884, 1885, 1886, 1887, 1888 гг.

3. Ф. 525. Оп.1. Д.1270 Дело об оценке и продаже земельного участка образованного из казенного имения Дворище.

4. Ф. 525. Оп. 1. Д.3468. Дело о продаже генералу Ливену земельного участка Дворище. 1869-1887. 178 листов.

5. Ф. 526. Оп 3. д. 5713 Ю-5. Геометрический план земель д. Юревичи выделенных из им. Дворжище Лидского у. помещика Ливена. 1872.

6. Ф. 526. Оп 3. д. 5744 Б-30. Геометрический план земель д. Бенейки, выделенных крестьянам -собственникам им. Дворжище Лидского у. генерала Ливена. 1872.

7. Ф. 526. Оп. 3, д. 6114 И-4 Геометрический план дер. Иоче-вичи Лидского у., выделенной из им. Дворжище генерала Ливена. 1872.

8. Ф. 526. Оп. 3, д. 6111 К-54 Геометрический план дер. Кобыльники Лидского у., выделенной крестьянам-собственникам из им. Дворжище генерала Ливена. 1879.

9. Ф. 526. Оп. 3, д. 6104 М-29. Геометрический план дер. Мергинцы Лидского у., выделенной крестьянам-собственникам из им. Дворжище генерала Ливена. 1879.

10. Ф. 526. Оп. 3, д. 6107 П-31. Геометрический план дер. Пашунцы Лидского у., выделенной крестьянам-собственникам из им. Дворжище генерала Ливена. 1879.

11. Ф. 526. Оп. 3, д. 6085 С-23. Геометрический план земель д. Сучки, выделенных крестьянам -собственникам из им. Дворжище Лидского у. помещика Ливена. 1879.

12. Ф. 526. Оп 3, д. 6090 Э.1. Геометрический план земель дер. Эйтуны, выделенных крестьянам - собственникам из им. Дворжище Лидского у. генерала Ливена. 1879.

13. Орлов П.А. Указатель фабрик и заводов Европейской России и царства Польского. Материалы для фабрично-заводской статистики. С-Петербург. 1887.

14. Колышко И. И. Великий распад. Воспоминания. 2009.

15. Васильев П.Г. Волово. М. 2006.

16. Боровой Р.В., Бабицкий Ю.В. Историко-архивные и библиографические исследования// Эскизный проект детальной планировки центра Н.П. Дворище. Минск. 1991.

17. Ф. 382. Оп. 1. Д. 1680. Дело по прошению помещика Сергея Тертиевича Филиппова о разрешении построить ему в имении Дворище Лидского уезда картофельно-крахмального завода. 1896-1898. 19 л.

18. Алексеева С.И. Ржевский мещанин во дворянстве: История семьи Тертия Ивановича Филиппова //Вестник ПСТГУ. История Русской Православной Церкви. 2008. Вып. II.

19. Виленская губерния. Полный список населенных мест со статистическими данными о каждом поселении, составленный по официальным сведениям И.И. Гошкевичем. Вильна, 1905.

20. Кудла В., Суднік С. Дворышча// Лідскі летапісец. № 3 (35), 2006.

21. Список фабрик и заводов России по официальным данным фабричного податного и горного надзора. СПб. 1910 г.

22. Варзар В.Е. Список фабрик и заводов Российской империи. СПб. 1912.

*Леанід Лаўрэш*

# Бальтазар Калясінскі, Аніцэт Рэніер і Каятан Дарашкеіч

Каспер-Мельхіёр-Бальтазар Калясінскі (сын Бальтазара, 30.12.1818 - 30.09.1888) нарадзіўся на Лідчыне і валодаў маёнткам Сядзеймы.

У 1820 г. маёнткам Сядзеймы валодаў Антон Більдзюкевіч, лідскі гродскі суддзя[1]. У 1844 г. гэтая маёмасць належала жонцы Бальтазара Калясінскага Марыі-Стэфаніі Калясінскай з Більдзюкевічаў[2], атрымала яна яго ў спадкі, часткова ад свайго дзядзькі Антона, а часткова ад бацькі Яна, які стала жыў у Жытомірскай губерні.

У 1848 г. у маёнтак Сядзеймы ўваходзілі вёскі Яўсеевічы, Навіцкія, Чэрнікі - 1 250 дзесяцін, 124 мужчынскія і 104 жаночыя душы. Акрамя гэтага сам Бальтазар Калясінскі валодаў Зарэччам у Лідзе з вёскамі Лайкоўшчына, 40 дзесяцінамі ў ваколіцы Ёдкі, дваром Качанова, маёнткамі Кір'янаўцы, Калясішча, фальваркамі Траццякоўцы, Прыдыбайлы і іншай маёмасцю[3]. А маёнтак Сядзеймы знаходзіўся недалёка ад легендарнага двара Востраў, у якім у 1392 г. было заключана Востраўскае пагадненне паміж стрыечнымі братамі Вітаўтам і Ягайлам[4].

Бальтазар Калясінскі атрымаў хатнюю адукацыю і пасля заканчэння Віленскага высакароднага пансіёна быў прыняты пісарам у камісію, зацверджаную для рэвізіі дзеянняў Гарадзенскага дваранскага дэпутацкага сходу. Потым яго прызначылі ў Гарадзенскую казённую палату, ён служыў тут памочнікам кантралёра і кантралёрам. У 1841 г. атрымаў чын калежскага рэгістратара і перавод у Лідскую дваранскую апеку - спачатку сакратаром, а пазней быў абраны шляхтай піцейным дэпутатам. З 1846 г . - губернскі сакратар[5].

5 траўня 1843 г. адбыўся шлюб паміж Бальтазарам Калясінскім і Марыяй Стафаніяй Більдзюкевіч.

Бальтазар Калясінскі быў чалавекам высокага інтэлекту і вялікіх творчых здольнасцяў. Пра гэта сведчыць тое, што яшчэ ў маладосці яго сябрамі былі Уладзіслаў Сыракомля і Эдвард Жалігоўскі[6] і ён з'яўляўся сталым удзельнікам віленскіх літаратурных салонаў. Пра вялікую цікавасць Калясінскага да літаратуры і гісторыі сведчыць ліст, напісаны ім у 1847 г. сваім сваякам з турмы, у лісце зняволены просіць даслаць яму кнігі Эдварда Жалігоўскага, Крашэўскага, Гегеля, Ц'ера[7], Дзюма, Каржанеўскага[8] і іншых аўтараў[9].

У 1840-я гг., пасля паўстання 1831 г., зноў пачала абвастрацца палітычная сітуацыя ў гістарычнай Літве[10], з эміграцыі на тэрыторыю Беларусі накіроўваліся эмісары з мэтай арганізацыі паўстання. У 1845 г. у Вільні ў якасці эмісара ад эміграцыі з'явіўся Ян Рэр[11]. Віленскай канспіратыўнай групай кіраваў доктар Аніцэт Рэніер (ці Рэнігер), а адным з удзельнікаў гэтай групы (ці, як тады казалі, "спісу") быў Бальтазар Калясінскі[12].

На Лідчыне Ян Рэр пабываў у 1846 г. і супрацоўнічаў тут з Бальтазарам Калясінскім і яго сваяком Багамірам Баляславам Калясінскім. Каб прыспешыць паўстанне, Рэр ціснуў на канспіратараў, але і Рэніер і Калясінскі адказвалі што падрыхтоўка не завершана і

[1] Malewski Czeslaw. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiaty lidzki, oszmianski i wilenski. Warszawa, 2016. S. 45.

[2] Ziemia Lidzka. 2004. № 2(60).

[3] Malewski Czeslaw. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku. S. 106.

[4] Гл: Лаўрэш Леанід Месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. // Гістарычны альманах. 2007. Т. 13. С. 109-118. і інш.

[5] Большаков Л. Н. Оренбургская Шевченковская энциклопедия. Тюрьма. Солдатчина. Ссылка. Энциклопедия одиннадцати лет 1847-1858. Оренбург, 1997. С. 168.

[6] Эдвард Вітольд Жалігоўскі, (20.7.1816 - 28.12.1864) - паэт, філосаф, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў фальвараку Мар'ямпаль Вілейскага павета. У 1833-1836 гг. вучыўся ў Дэрпцкім (Тартускім) універсітэце. У 1838 г. арыштаваны за ўдзел у падрыхтоўцы паўстання пад кіраўніцтвам Ш. Канарскага. У 1842 г вярнуўся на Радзіму. У 1851 г. зноў арыштаваны і сасланы ў Петразаводск, потым у Арэнбург. Пасябраваў і падтрымліваў сувязі з Тарасам Шаўчэнкам, прысвяціў яму верш "Да народнага паэта". З 1858 жыў у Санкт-Пецярбургу і дапамагаў І. Агрызку выдаваць газету "Slowo". Апублікаваў зборнікі "Poezye", "Dzis i wczoraj", драму "Jordan". У 1860 г. выехаў у Заходнюю Еўропу. Супрацоўнічаў у польскім эміграцкім друку. Апошнія гады правёў у Жэневе.

[7] Луі Адольф Ц'ер (1797-1877) - французскі палітычны дзеяч і гісторык, аўтар прац па гісторыі Вялікай французскай рэвалюцыі.

[8] Юзаф Каржанеўскі (1797-1863) - польскі паэт, празаік і драматург.

[9] Fajnhauz Dawid. Ruch konspiracyjny na Litwie i Bialorusi, 1846-1848. Warszwa, 1965. S. 117.

[10] Гл: Fajnhauz Dawid. Ruch konspiracyjny na Litwie i Bialorusi,1846-1848. Warszwa, 1965.; Радзюк А. Р. Пад скіпетрам Расейскай імперыі: рэпрэсіўная палітыка царызму на землях Беларусі ў канцы XVIII - першай палове XIX ст. Гродна, 2017.

[11] Fajnhauz Dawid. Ruch konspiracyjny na Litwie i Bialorusi, 1846-1848. S. 113.

[12] Там жа. S. 15.

паўстанне, калі яго пачаць, будзе няўдалым[13].

Заснавальнік рода Рэніераў у Літве прыбыў да нас з Францыі ў 1646 г. Доктар Аніцэт Рэніер вывучаў медыцыну ў Віленскім універсітэце. Яшчэ не закончыўшы ўніверсітэт, як лекар, ён прынаняў удзел у паўстанні 1831 г. Пасля паразы паўстання, разам са сваім аддзелам, быў інтэрніраваны ў Прусіі, але ў 1832 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. У 1836 г. атрымаў дыплом урача і хутка стаў знаным у Вільні лекарам.

У 1842 г. Рэніер становіцца членам Віленскага лекарскага таварыства і прымае на сябе кіраўніцтва медыцынскай бібліятэкай таварыства. Меў на ўтрыманні вялікую сям'ю і, нягледзячы на добры даход, які давала лекарская практыка, жыў небагата, аб чым у 1843 г. пісаў Тэадору Нарбуту, з якім сябраваў: *"... не магу ўзняцца з беднасці і ніхто мне ў гэтым не дапаможа. Трэба шмат працаваць самому, покуль магу і покуль хапае моцы"*. Але матэрыяльны стан не перашкаджаў яму думаць пра будучыню краю, у тым жа годзе пісаў Нарбуту: *"Колькі мільёнаў людзей трымаем як быдла ... будзем гніць разам з імі ў чужынскай няволі, бо самі гэтаму дапамагаем"*, а ў 1845 г.: *"На маіх плячах ляжыць вялікая адказнасць, ад якой я, пакуль хапае сіл, не магу адрачыся"* [14].

Цікава, што Рэніер улічваў масавы супраціў беларускіх сялян супраць ліквідацыі ўніяцкай царквы, што стварала спрыяльны грунт для дзейнасці канспіратараў на вёсцы. Вясной 1845 г. Рэніер пісаў пра *"ўніятаў, якіх сілай і ўціскам навяртаюць у праваслаўе"* [15]. Заўважу, што да 1863 г. сітуацыя ў значнай ступені з'мянілася: царызм здолеў утрымаць сітуацыю пад кантролем і выгадаваць новую генерацыю праваслаўнага духавенства - выхадцаў з мясцовага насельніцтва, якія ў асноўным верна яму служылі.

Да 1845 г. Рэніер арганізаваў у Вільні тайную бібліятэку, у якой акрамя дазволеных меліся і кнігі, выдадзеныя за мяжой. Потым паліцыя знайшла матэрыялы, абапіраючыся на якія, даведалася, што бібліятэка мела 71 чытача, з якіх 43 чыталі выключна антыўрадавыя кнігі. Чытачамі была дробная і сярэдняя шляхта, чыноўнікі, журналісты, літаратары, лекары і іншыя асобы з усёй Беларусі. Віленская група канспіратараў як раз і гуртавалася вакол бібліятэкі Рэніера.

28 лістапада 1844 г. доктар Рэніер пісаў да Тэадора Нарбута: *"Калясінскі прыехаў у Вільню, і я з ім некалькі разоў сустракаўся"*. Бальтазар Калясінскі быў чынным чальцом канспіратыўнага гуртка і ад пачатку існавання карыстаўся тайнай бібліятэкай, бо быў добрым сябрам Аніцэта Рэніера, а хутка стаў і адным з кіраўнікоў усёй канспірацыі. У той момант Калясінскаму прапаноўвалася ўзначаліць падрыхтоўку да паўстання на Ковеншчыне, дзе арганізацыя не мела яшчэ вялікага ўплыву, але ён адмовіўся[16].

Створаная тайная арганізацыя ставіла за мэту падрыхтоўку нацыянальна-вызвольнага паўстання, але ў 1846 г. царскім уладам удалося выйсці на яе след у Віленскай[17], Менскай, Гарадзенскай губернях[18]. Бальтазар Калясінскі быў арыштаваны[19]. Пасля некалькіх допытаў, Калясінскі, пра якога гісторык Давід Файнхаўз пісаў: *"Інтэлектуал, які ў лепшых віленскіх салонах заўсёды атрымліваў перамогу падчас літаратурных дыскусій"*, не вытрымаў метадаў следства царскай жандармерыі і пачаў даваць паказанні[20]. Калясінскага доўга трымалі ў турме і толькі 12 лютага 1848 г. галоўнакамандуючым дзейнай арміі (на нашай тэрыторыі дзейнічала ваеннае становішча) зацвердзіў вырак, згодна з якім Бальтазар Калясінскі *"прызнаны вінаватым разам з лекарам Рэніерам у слуханні зламысных настаўленняў супраць урада, у куплі, чытанні забароненых твораў, у знаёмстве з эмісарамі, якія прыехалі з-за мяжы, у прыняцці аднаго з іх у сябе на кватэры і ў жаданні садзейнічаць паўстанню, калі б яно ўспыхнула ў заходніх губернях, - пазбаўлены чыноў і дваранскага годнасці"* [21]. Вырак мне нагадвае тыповыя, савецкія абвінавачванні - *"слухаў заходняе радыё"*, *"сустракаўся з замежнікамі"* і г. д. Але менавіта такой была фармулёўка выраку, вынесенага Калясінскаму без суда. Разабрацца ва ўсіх перыпетыях справы не лічылі патрэбным, ніякага сапраўднага кампрамату не знайшлі, скаргаў ці касацыяў не прымалі, і лёс чалавека вырашаўся адным росчыркам пяра.

Зоф'я Кавалеўская ў сваёй працы "Гісторыя Лідскага паўстання. Успаміны пра Людвіка Нарбута" прыводзіць шмат цікавых фактаў, якія без яе былі б назаўсёды забытыя. Пра ўжо легендарныя нават для яе часы арышт Калясінскага, яна піша: *"Хто ў Лідскім павеце падняў агітацыю і да якой ступені яе распаўсюдзіў, сёння даведацца цяжка. Не абышлося, як заўсёды, і без ахвяр, сярод якіх быў лідскі землеўладальнік Бальтазар Калясінскі, які і стаўся адным з галоўных ініцыятараў руху. Гэта быў нязломны дзеяч, чалавек моцнай волі, які ўпарта імкнуўся да сваёй мэты.*

[13] Fajnhauz Dawid. Ruch konspiracyjny na Litwie i Bialorusi, 1846-1848. S. 151-154.

[14] Там жа. S. 100, 129.

[15] Там жа. S. 125-126.

[16] Там жа. S. 15., 117., 122.

[17] Дадам, што некаторыя выхадцы з Лідчыны ў тыя часы з'яўляліся чальцамі іншай арганізацыі - "дэмакратычнага таварыства" Францішка Савіча. Так, пад псеўданімам "Альфонс" у ім знаходзіўся сын праваслаўнага святара Яўстафі Вароніч, які пасля заканчэння Лідскай павятовай вучэльні працягваў навучанне ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі, а таксама некаторыя іншыя лідзяне.

[18] Радзюк А. Р. Пад скіпетрам Расейскай імперыі: рэпрэсіўная палітыка царызму на землях Беларусі ў канцы XVIII - першай палове XIX ст. С. 129.

[19] Радзюк А. Р. Лідчына ў нацыянальна-вызваленчым руху першай паловы XIX ст. // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада: матэрыялы рэспуб. навук. практ. канф. Ліда, 2008. С. 116.

[20] Fajnhauz Dawid. Ruch konspiracyjny na Litwie i Bialorusi, 1846-1848. S. 167.

[21] Большаков Леонид. Быль о Тарасе. Кн. 1. Москва - Оренбург, 1993. С. 171.

*Яго арыштавалі ў сваім маёнтку Сядзеймы, дзе ён жыў разам з жонкай, якая паходзіла з дому Більдзюкевічаў. Сваю жонку Бальтазар выкраў ад бацькоў. Маладзіца прынесла ў яго дом абраз Маці Божай Вострабрамскай, які знаходзіўся ў сям'і Більдзюкевічаў з незапамятных часоў і паводле падання ціхім звонам папярэджваў сям'ю пра блізкую бяду.*

*У хвілю, калі жандары наблізіліся да маёнтка ў Сядзеймах, каб арыштаваць Бальтазара, абраз, які вісеў на сцяне, загучаў сам па сабе. Як быццам маланка ўдарыла ў дом Калясінскага. Яго пасадзілі ў вязніцу і пасля доўгага следства вынеслі вырак: "Вечныя салдаты" са скасаваннем усіх правоў і шляхецкіх прывілеяў. Паводле тагачаснага звычаю ўсё адбывалася з пэўным цырыманіялам - Бальтазара ўзвялі на эшафот і над яго галавой зламалі шпагу"* [22].

Тут трэба яшчэ раз вярнуцца да лекара Рэніера, які згадваецца ў выраку разам з Калясінскім. У "Маральна-палітычный справаздачы за 1846 год", якую пісалі адмыслова для цара, напісана: *"З* (змоўшчыкаў -*Л. Л.*) *асаблівую дзейнасць выказваў лекар Рэніер, які захоўваў у сябе рэвалюцыйную інструкцыю і розныя абуральныя паперы, распаўсюджваў ідэі пра аднаўленне ранейшай Рэчы Паспалітай і прыцягваў да сваіх задумаў іншых. Іншыя маладыя людзі і дробнамаянтковыя дваране толькі мелі спатканні з Рэрам або хвалілі яго, але не чакалі поспеху ад яго абуральным задум і радзілі яму пакінуць Расію*" [23].

А ў такой жа справаздачы за 1847 г. занатоўваецца: *"Галоўная ўвага* (следчай) *камісіі была звернутая на справу эмісара Рэра ... які на пачатку 1846 года прыязджаў з Познані, каб узбуджаць жыхароў Літвы да паўстання, вербаваць незадаволеных і накіроўваць іх за мяжу, дзе рыхтаваўся агульны мяцеж. Камісія адкрыла, што хоць Рэр з-за кароткага часу знаходжання ў Заходнім краі не мог распаўсюдзіць сваіх злачынных намераў, але, тым не менш, аказалася, што каля 15 чалавек ведалі аб тым, што ён хоча. Больш за іншых вінаваты па гэтай справе лекар Рэніер, які меў звесткі пра падрыхтоўку да паўстання ў Познані, атрымліваў забароненыя кнігі, распаўсюджваў іх і падбухторваў іншых да ўдзелу ў сваіх задумах. Следчая камісія спачатку падазравала, што Рэр і Рэніер паспелі стварыць у Літве тайнае таварыства, ці, па меншай меры, нейкую змову, але падазрэнне не апраўдалася"* [24].

У 1857 г. паліцыя паведамляла: *"Аніцэт Рэніер, дваранін і лекар, ураджэнец Віленскай губерні, 49 гадоў. Па канфірмацыі князя Варшаўскага, за палітычнае злачынства быў сасланы на катаржныя работы, ад якіх вызвалены па маніфесце 27 сакавіка 1855 г. і з 15 лютага 1856 года паступіў пад нагляд на пасяленне без тэрміну. Атрымліваў ад казны дапамогі па 57 р. 14 кап. а таксама на паёк і вопратку. Па Усяміласцівым маніфесце ад 26 жніўня 1856 г. яму падаравана дваранства з правам вяртання на радзіму, з Іркуцка ў 1857 г. выехаў у Вільню"* [25].

Вышэй пададзеная інфармацыя цікавая тым, што жандары і не спрабавалі ўводзіць цара Мікалая I у зман, а дакладалі, што ўсё ж ніякай сур'ёзнай арганізацыі ці змовы не было, але гэта не перашкодзіла манарху зламаць жыццё маладым людзям. Падобна на тое, што жандары ўсё ж не раскрылі ўсю працу канспіратараў па падрыхтоўцы рэальнага ўзброенага паўстання.

Неабходна адзначыць тое, што Аніцэт Рэніер, з якім Калясінскі сябраваў і ішоў па адной справе, захапляўся беларускай культурай, разам са сваімі братамі пісаў па-беларуску і збіраў беларускі фальклор. Чацвёра з шасці братоў Рэніераў, у тым ліку і Аніцэт, пакінулі свае запісы на беларускай мове ў "Альбоме" Арцёма Вярыгі-Дарэўскага. Браты Рэніеры сябравалі і ліставаліся з такімі дзеячамі культуры, як Адам Кіркор, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і Ян Карловіч[26] , а пра сапраўднае сяброўства з Тэадорам Нарбутам я ўжо пісаў вышэй.

Як толькі прывезлі манаршае пацверджанне выраку, бліжэй да канца лютага 1848 г., Бальтазар быў адпраўлены ў пяты лінейны батальён Асобнага Арэнбургскага корпуса і пры канцы сакавіка - у першых днях красавіка, прыбыў да месца прызначэння[27].

Калясінскі прывёз у Арэнбургскі край навіны - рэвалюцыі ўжо ахапілі Аўстрыю, Германію, Венгрыю, Італію. Бурліла Польшча. Узмацніліся хваляванні ў Галіцыі. Лідзянін пераказваў навіны ссыльным і хутка пасябраваў з вялікім украінскім паэтам Тарасам Шаўчэнкам, які ў 1847 г. ва ўзросце 33 гады за паэму "Сон" быў сасланы жаўнерам ў Арэнбургскі край пад нагляд начальства з забаронай пісаць і маляваць. Першае знаёмства Шаўчэнкі з Бальтазарам Калясінскім было ў Орскай цвердзі - яны служылі у адным батальёне. Больш блізкае знаёмства двух выгнаннікаў адбылося ў Арэнбургскі перыяд іх жыцця (лістапад 1849 - красавік 1850). Таварышы ўсю зіму знаходзіліся Арэнбургу і часта сустракаліся. Як бачым, сапраўднае сяброўства паміж Тарасам Шаўчэнкам і лідзянінам Калясінскім было працяглым.

Пераканаўчым пацвярджэннем гэтых сустрэч і прыналежнасці да аднаго сяброўскага кола з'яўляецца малюнак Аляксея Чарнышова, які паказвае Тараса Шаўчэнку сярод ссыльных у Арэнбургу[28]. На ім намалявана група арэнбургскіх палітычных ссыльных, сярод іх Тарас Шаўчэнка (другі справа) намаляваны не ў форменным шынялі, як усе астатнія, а ў цёмным цыві-

[22] Kowalewska Zofia. Dzieje powstania lidzkiego: wspomnienie o Ludwiku Narbucie. Wilno, 1934. S. 17.

[23] Россия под надзором. Отчеты III отделения 1827-1869. Москва, 2006. С. 385-386.

[24] Там жа. С. 399-400.

[25] Болонев Ф. Ф., Люцидарская А. А., Шинковой А. И. Ссыльные поляки в Сибири: XVII, XIX вв. Исследования и материалы. Новосибирск, 2007. С. 146.

[26] Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / Укл. Г.В. Кісялёў. Мінск: Навука і тэхніка, 1977. С. 236.

[27] Там жа.

[28] Большаков Л. Н. Оренбургская Шевченковская энциклопедия. ... С. 168.



льным паліто з вялікім каўняром: так ён хадзіў па горадзе. На малюнку, справа, па-за групай захопленых размовай ссыльных, побач з Шаўчэнкам стаіць Бальтазар Калясінскі (першы справа) і Людвік Ліпскі. Ліпскі быў тут ужо ветэранам, хоць меў ўсяго дваццаць шэсць гадоў, але яго судзілі дваццацігадовым. Службоўца-варшавяка абвінавацілі ў *"вядзенні размоў супраць урада, чытанне забароненых кніг, якія атрымліваюцца з-за мяжы і раздачу іх іншым для чытання і распаўсюджвання дэмакратычных правілаў"* [29].

Першы злева на малюнку (сядзіць) вядомы рэвалюцыянер Браніслаў Залескі (потым мастак і гісторык).

Чацвёрты злева - Тамаш Вернер, Шаўчэнка называў яго на ўкраінскі лад Хамой. З ім паэт паўтара года дзяліў цяжкасці экспедыцыі на Аральскае мора.

Шосты злева - Людвік Турно, пляменнік вядомага рэвалюцыйнага дзеяча 1830-1831 гг. генерала Дэмбінскага, бацька Людвіка - палкоўнік Зыгмунт Турно - таксама прымаў удзел у гэтым паўстанні. Людвік Турно быў сасланы шарагоўцам у Арэнбург у 1846 г.[30] Турно разам з Залескім і Шаўчэнкам летам 1851 г. прымаў удзел у паходзе на Каратаў для пошуку вугалю. Пазней, знаходзячыся ў Новапятроўскім умацаванні, украінскі паэт працягваў цікавіцца лёсам таварыша і цёпла пра яго ўзгадваў[31].

Трэба дадаць, што ў Арэнбургу Шаўчэнка сцісла пазнаёміўся і з Зыгмунтам Серакоўскім, які потым, у 1863 г. быў пакараны смерцю.

Бальтазар Калясінскі ў стэпах сумаваў па радзіме, па жонцы і маленькіх дзецях, якіх не бачыў з пачатку 1848-га. Жонка не пераставала пісаць просьбы аб памілаванні высланага мужа. Шаўчэнка спачуваў думкам сябра, яго трывогам. Яму, адзінокаму і бяздомнаму, тым не менш былі блізкія і зразумелыя пачуцці мужа і бацькі[32].

У красавіку 1849 г. Калясінскі атрымаў перавод у 4-ты лінейны батальён. У 1853 г. удзельнічаў у штурме Ак-Мячэці, праявіў гераізм, атрымаў раненне і "за вызначэнне" атрымаў чын калежскага рэгістратара, які ён ужо меў дванаццаць гадоў таму. Аднак і пасля ўсіх "вызначэнняў" Калясінскі, ужо чыноўнік канцылярыі губернатара, заставаўся пад паліцэйскім наглядам, без права пакінуць сваю няволю. Волю ён атрымаў толькі ў 1857 г.[33]

Зоф'я Кавалеўская гэтак напісала пра вяртанне Бальтазара Калясінскага: *"Пасля дзесяці гадоў, згодна з маніфестам цара Аляксандра II, Калясінскі быў вызвалены ад жаўнерскай службы і прызначаны камендантам* (насамрэч дробным чыноўнікам - *Л. Л.*) *Арэнбургскіх стэпаў, якія былі пад камандаваннем губернатара Пяроўскага, бацькі Соф'і, пазней вядомай рэвалюцыянеркі. ... У 1860 годзе Бальтазар Калясінскі знаходзіўся ў Краі, дзе выспяваў новы выбух. Як стары баявы конь, пачуўшы гук трубы, што грае па-*

[29] Большаков Леонид. Быль о Тарасе. Кн. 3. Москва - Оренбург, 1993. С. 118.
[30] Владич Л. История одного рисунка // Огонек № 20(1405), 16 мая 1954. С. 27.
[31] Владич Л. История одного рисунка ... С. 27.
[32] Большаков Леонид. Быль о Тарасе. Кн. 3. Москва - Оренбург, 1993. С. 118.
[33] Большаков Л. Н. Оренбургская Шевченковская энциклопедия. ... С. 168.

*будку, кідаецца ў шэрагі, так і Бальтазар Калясінскі, прасякнуты патрыятычнай атмасферай, рваўся да дзеяння.*

*Па вяртанні дадому Калясінскаму прапанавалі месца суддзі ў Лідзе, а пасля сялянскай рэформы - "міравога пасярэдніка". Гэта была адпаведная пасада для яго дзейнасці. Калясінскі мог зблізіцца з людзьмі і ўплываць на іх. У гэтым быў практычны сэнс, бо Бальтазар мог паўплываць на розум селяніна і выклікаць яго павагу. Дадам, што грунт, на якім ён працаваў, з'яўляўся больш жыватворным, чым дзе-небудзь у іншым месцы"* [34].

Трэба адзначыць, што бяздарнае кіраванне цара Мікалая I з яго муштрай, беззаконнем і непавагай да асобы і чалавечага жыцця, як і належыць, закончылася поўнай паразай у Крымскай вайне і смерцю цара вельмі падобнай на самазабойства. Новы цар, Аляксандр II, каб пазбегнуць сацыяльнага выбуху, быў прымушаны пачаць рэформы, першай з якіх была адмена прыгоннага права - страшнага рускага прыгону, які трымаў у стане "белых" рабоў большасць насельніцтва імперыі. Міравыя пасярэднікі як раз і праводзілі вызваленне сялян з прыгоннага рабства, і таму на гэтую пасаду, звычайна, абіраліся лепшыя прадстаўнікі шляхты.

Пра павагу да Калясінскага з боку грамадскасці сведчыць тое, што ўжо ў 1861 г. мы бачым яго на пасадзе засядацеля павятовага суда[35], а ў 1861 г. ужо міравым пасярэднікам 1-га ўчастка[36]. Менавіта ён разам з іншымі пасярэднікамі пачаў праводзіць рэформу, у выніку якой сялян вызвалілі з прыгону. Разам з Калясінскім, міравымі пасярэднікамі ў той час на Лідчыне, з'яўляліся: былы адстаўны карнет Юльян Лясковіч (расстраляны ў Вільні ў 1863 г., пра гэта далей), адстаўны паручнік Аляксандр Брахоцкі, калежскі сакратар Яраслаў Табенскі (будзе арыштаваны і высланы ў Пермскую губерню), Станіслаў Путкамер (сын Марылі з Верашчакаў).

У падзеях, якія папярэднічалі паўстанню, падчас вялікага народнага ўздыму, прымала ўдзел і сям'я Бальтазара Калясінскага, у 1861 г. яго жонка Марыя-Стэфанія была заўважана разам з дачкой у Вільні падчас спеваў "абуральных гімнаў у касцёле" [37].

Непрыемныя падзеі адбыліся ў сям'і Каслясінскіх у 1862 г. У ноч з 17 на 18 траўня раптоўна памерла цешча Калясінскага Юзэфа Більдзюкевіч. Следства на пачатку чамусьці палічыла, што адбылося атручэнне мыш'яком і западозрыла ў справе Бальтазара Калясінскага, які, як быццам, знаходзіўся з цешчай у дрэнных стасунках. У якасці непасрэднага выканаўцы падазраваўся кухар Дамінік Трацяк (меў 33 гады) і пакаёвая дзеўка Дамініка Кудзека (мела 17 гадоў) - абодва сяляне маёнтка Сядзеймы. Следства не даказала віну Калясінскага і Дамінікі Кудзекі, але Трацяк быў асуджаны. Загадкавая справа - чаму кухар атруціў сваю гаспадыню?

Бальтазар Калясінскі быў адным з ініцыятараў падрыхтоўкі паўстання 1863 г. Як міравы пасярэднік, Калясінскі карыстаўся вялікай павагай сялян і меў на іх уплыў. Перад пачаткам паўстання назіраўся грамадскі ўздым, ішло шырокае абмеркаванне праблем, у Лідзе акрамя цукерні Андрушкевіча[38], месцам сходаў стала лідская хата Бальтазара Калясінкага. На сходах абмяркоўвалася будучае паўстанне, удзел у іх прымалі Геншаль з Валдацішак, Тышкевіч з Жырмун, Станіслаў Путкамер і многія іншыя. Актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання і стрыечны брат ссыльнага - Станіслаў Калясінскі.

Але Бальтазара Калясінскага арыштавалі яшчэ да пачатку паўстання - быў абгавораны Юльянам Альбертам Лясковічам і "пайшоў пад ключ" [39]. Кавалеўская цікава апісвае арышт паўстанца і падзеі вакол яго: *"Улада даўно ўжо мела на яго вока, але не спяшалася з арыштам, бо Калясінскі меў вялікую павагу ... такі крок мог выклікаць вялікае хваляванне, адпор або якія-небудзь іншыя праблемы. Хітры ваенны начальнік павета вырашыў узяць яго падманам.*

*... калі ў Калясінскага сабралася кола знаёмых, Казаналі*[40] *праслаў капітана Баранава з патрабаваннем неадкладна прыбыць у канцылярыю. Бальтазар Калясінскі адмовіўся, патлумачыўшы гэта тым, што ў яго госці. Аднак, калі афіцэр дастаткова настырна паўтарыў загад, Калясінскі страціў цярпенне і буркнуў: "Пану Казаналі дарога да мяне такая ж роўная, як і мне да яго." Афіцэр пайшоў, а Казаналі вырашыў дзейнічаць па-іншаму. Ён паведаміў арыштаванаму Юльяну Лясковічу, што той будзе хутка высланы ў Расію, аднак, калі хоча, то можа паклікаць каго-небудзь са знаёмых у Лідзе, напрыклад Калясінскага, і перадаць яму пад апеку сваю сям'ю і інтарэсы.*

*Хуткая, бяспраўная дэпартацыя, такая частая ў тыя часы, не здзіўляла ўжо нікога. Таму вестачка прысланая з вязніцы не здзівіла Калясінскага і, прыгнечаны лёсам Лясковіча, ён тут жа пайшоў да яго, пакінуўшы дом і гасцей на свайго крэўнага Станіслава Калясінскага. Як толькі Бальтазар пераступіў парог вязніцы, яго атачылі ахоўнікі і замкнулі на ключ ў камеры.*

*Занепакоены доўгай адсутнасцю родзіча Станіслаў Калясінскі выбег у горад, каб даведацца, што здарылася. Усе ўжо ведалі пра арышт Бальтазара. У любую хвіліну мог пачацца ператрус у яго доме ... Там маглі быць дакументы якія кампраментавалі іншых, нейкія сведчанні пра сувязь з камітэтам у Парыжы, грошы на патрэбы паўстання.*

*Знерваваны Станіслаў Калясінскі амаль што з боем дабіўся аўдыенцыі ў Казаналі, які не хацеў яго адразу прыняць. Калясінскі прасіў сустрэчу .... Казаналі яму адмовіў, і толькі пасля таго, як Калясінскі*

[34] Kowalewska Zofia. Dzieje powstania lidzkiego ... S. 17-18.

[35] Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. Вильно, 1861. С. 112.

[36] Памятная книжка Виленской губернии на 1862 г. Вильно, 1862. С. 118.

[37] Белецкий, А.В. Сборник документов музея гр. М.Н. Муравьева. Вильна, 1906. Т. 1. С. 158., 257.

[38] Знакамітая цукерня Андрушкевіча, знаходзілася на рагу вуліц Віленскай і Каменскай. - *Л. Л.*

[39] Kowalewska Zofia. Dzieje powstania lidzkiego ... S. 21., 36.

[40] Ці Казаўлі, вайсковы начальнік Ваўкавыскага і Лідскага паветаў, палкоўнік. - *Л. Л.*

*давёў, што ў кузена як "міравога пасярэдніка" могуць захоўвацца дзяржаўныя грошы, і што яны могуць страціцца падчас вобшуку, за што Казаналі будзе асабіста адказваць, вайсковы начальнік памякчэў і выклікаўшы афіцэра, загадаў суправаджаць Станіслава Калясінскага да вязніцы і прысутнічаць пры размове братоў.*

*"Казённые деньги" заўсёды давалі шанец на поспех сярод чыноўнікаў. Калі па дарозе да турмы ў казармах, дзе сядзеў Бальтазар Калясінскі, міналі рэстаран Андрушкевіча, Станіслаў прапанаваў афіцэру, які ішоў разам, невялікі сняданак.*

*За кілішкам шчыра разгаварыліся. Афіцэр вярнуўся з Каўказа і сімпатызаваў тутэйшым, з якімі там пазнаёміўся. Ён дазволіў братам спатканне сам-насам, без сведак. Потым Станіслаў змог зайсці ў кватэру брата і прагледзець паперы. Яго эскорт трымаўся каля дзвярэй, на адлегласці. Станіслаў забраў усё, што трэба, і выехаў з Ліды. Вольна ўздыхнуў толькі за горадам.*

*У хуткім часе Казаналі выслаў усіх арыштаваных у Вільню, дзе яшчэ кіраваў Назімаў. У палітычнай атмасферы яшчэ адчуваліся лагодныя плыні. Старшынём следчай камісіі ў той час быў Вісяліцкі, чалавек адносна добры. Судовае следства пра неабачлівыя словы Альберта Лясковіча цягнулася даволі доўга, потым Альберт адмовіўся ад іх, быў апраўданы і выйшаў на волю. У горадзе казалі, што атрымаць волю арыштаваным дапамог такі выпадак: сярод чальцоў следчай камісіі быў генерал Беклямішаў, знаёмы Бальтазара Калясінскага з часоў яго выгнання і службы ў "вечных салдатах". У тыя часы ён быў маёрам і начальнікам Бальтазара. Падчас бою за Ацк-Мячэць куля адарвала Беклямішаву нагу, і ён загінуў бы, каб не Бальтазар, які, узваліўшы камандзіра на плечы, вынес яго пад градам куль у бяспечнае месца. Калі арыштаваныя сталі перад следчай камісіяй, Беклямішаў пазнаў Бальтазара, сардэчна яго прывітаў і прадставіў (суддзі) як свайго выратавальніка, чым дапамог Бальтазару і яго таварышам"* [41].

Цікава заўважыць, як няўпэўнена адчувалі сябе ў горадзе расійскія ўлады, бо каб арыштаваць Калясінскага яго прыйшлося выманіць ў турму і для гэтага выдумляць розныя гісторыі.

Падчас вышэйапісанага суда 6 (18) траўня ў Вільні, Лясковіч сведчыў, што свае першыя паказанні, дадзеныя падчас першапачатковага следства, ён пацвярджае, але іншыя, якія кампраментавалі перад уладамі Браніслава Нарбута, міравога пасярэдніка Калясінскага, Вільгельма Грабоўскага і абшарніка Гадычэўскага - адвяргае, бо яны былі вымушаныя гвалтам праз *"насільны загад і прымус"* палкоўніка Казаналі, які загадваў, што *"я мушу абавязкова напісаць гэтак, як ён пачаў мне дыктаваць"*. Альберт Юльян Лясковіч не адыгрываў значнай ролі ў паўстанні, з'яўляўся шараговым удзельнікам і пасля суда быў вызвалены, аднак потым зноў па загадзе ўжо Мураўёва арыштаваны і пакараны смерцю ў Вільні разам з ксяндзом Ішорам з Жалудка *"в пример и страх другим"*. Сярод іншых парэшткаў ахвяр 1863 г., знойдзеных нядаўна на Замкавай гары ў Вільні, знайшліся і парэшткі Лясковіча[42].

Але покуль разам з Лясковічам выпусцілі і ўсіх астатніх, у тым ліку і Калясінскага. Бальтазар вярнуўся ў Ліду і зноў энергічна ўзяўся за працу. Яго арышт разарваў многія ніткі ў папярэдне старанна сплеценай павуціне, аднак паводзіны аддзела Нарбута, які ўжо храбра ваяваў, уздымалі ў людзях надзею і ўмацоўвалі веру ў будучыню.

З тэксту Зоф'і Кавалеўскай бачна, што Бальтазар Калясінскі працаваў з старшынямі валасцей. У Дакудаўскай воласці старшыня Кохан[43] меў напагатове некалькі соцень людзей, пераважна праваслаўных з ранейшых уніятаў. Чакалі толькі выкліку. У Тарноўскай гміне, прыведзены пад прысягу Каляскінскім, старшыня Марцін Якубоўскі стварыў першую сярод сялян арганізацыю і нават прыгатаваў трошкі зброі. Планавалася, што сяляне паўстануць, калі падымецца горад[44].

Тым часам у Лідзе пачалі фармаваць аддзел, які павінен быў ісці на дапамогу Людвіку Нарбуту. Планаваўся збор 11 красавіка розных груп на зборным пункце ў вёсцы Аўсядава, якая належала Зянкевічу (некалькі вёрст на поўнач ад Ліды). Тут яны павінны былі атрымаць зброю, амуніцыю, правіянт, абмундзіраванне, грошы і, злучыўшыся ў адно цэлае, як Лідскі аддзел, вырушыць у Дубічы пад камандаванне Нарбута. Добраахвотнікі непасрэдна з Ліды збіраліся ў маёнтку Клепцаўшчына[45], якім ў той час валодалі Калясінскія, каб адкуль выправіцца ў Перапецкі лес. З гэтага месца Станіслаў

---

[41] Kowalewska Zofia. Dzieje powstania lidzkiego ... S. 37-38.

[42] Юльян Лясковіч расстраляны ў Вільні Мураўёвым-вешальнікам ў 1863 г. ганарова перазахаваны ўсёй Беларуссю разам з іншымі героямі паўстання ў лістападзе 2019 г.

[43] Пасля паўстання, Кохан з Дакудаўскай воласці здолеў пазбегнуць праследу ўладаў.

[44] Марцін (ці Севярын?) Якубоўскі з Тарноўскай гміны, быў асуджаны, як пісала Кавалеўская, *"з-за занадта шчырага вызнання Кашыца ... У Якубоўскага захоўваліся розныя дакументы, зброя і грошы. Аднак меў талент зручна ўхіліцца ад падазрэння, узгадніўшы ўсё з калегамі, бо меў на іх неабмежаваны ўплыў. Калі паліцыя прыбыла, каб арыштаваць Якубоўскага, ён не страціў розум і здолеў спаліць усе дакументы, аднак схаваць зброю яму не хапіла часу. Пад час следства не здрадзіў і нікога не выдаў. З усёй сям'ёй быў высланы ў Табольскую губерню, дзе ў выгнанні і памёр у 1873 годзе. Ледзь заплюшчыў вочы, як прыйшоў дазвол на вяртанне ў Край. Сям'я скарысталася з гэтага дазволу, бо сумавала па Айчыне. Сыны памерлага Якубоўскага - Юзаф і Ігнат - былі абавязаны пісьмова пацвердзіць, што ніколі не будуць мець прэтэнзій да спадчыннай зямлі бацькі, якая была адабрана ў сям'і за ўдзел у паўстанні.*

*Маладых Якубоўскіх як леснікоў прыняла ахоўваць свае лясы спадарыня Красіцкая і, маючы жаданне хоць неяк кампенсаваць нанесеную крыўду, падаравала 30 моргаў зямлі"*. - цыт. па: Kowalewska Zofia. Dzieje powstania lidzkiego ... S. 72-73.

[45] Фальварак каля в. Перапечыца - *Л. Л.*

Калясінскі павёў іх праз Раслякі, млын на Паўстаўшчыне, каля фальварка Адамовіча Малэйкаўшчына да Аўсядава. Па дарозе інсургенты сустрэлі семярых казакаў, якіх ледзь не застрэлілі, але казакі павярнулі ў другі бок. У Аўсядаве сабралася шмат добраахвотнікаў з Ашмянскага, Наваградскага і Лідскага паветаў. Але з-за здрады, выправа да Нарбута не ўдалася[46].

Улетку 1863 г. па загадзе Мураўёва разам з іншымі Бальтазар Калясінскі быў зноў арыштаваны і без суда, *"по распоряжению Главного Начальника Северо-Западного края"*, г. зн. Мураўёва, 5 сакавіка 1864 г. высланы пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губерню, а ягоная маёмасць секвестравана. У Расіі жыў у Калагрыве.

Праз шмат гадоў ссылкі Бальтазар Калясінскі атрымаў права вярнуцца з умовай пражывання ў Варшаве. Кавалеўская пісала: *"... едучы праз Пскоў, ён выпадкова сустрэўся з Жамчужнікавым, тагачасным пскоўскім саноўнікам, які ў часы, калі Калясінскі займаў нейкую пасаду ў Арэнбургскіх стэпах, быў там дробным чыноўнікам і яго падначаленым. Жамчужнікаў захаваў да Бальтазара самыя добрыя пачуцці і, калі даведаўся, што вяртанне ў Варшаву не радуе Калясінскага, прапанаваў яму добрую пасаду ў Пскове, а калі быў прызначаны на пасаду губернатара Вільні, зрабіў магчымым вяртанне Бальтазара ў Ліду. Дзякуючы гэтаму, двойчы ссыльны здолеў нарэшце ўдыхнуць паветра радзімы і мець магчымасць злажыць свае косці ў зямлі бацькоў"* [47].

Трэба ўдакладніць, што Аляксей Жамчужнікаў ніколі не займаў пасады віленскага губернатара, але быў пскоўскім віца-губернатарам і, верагодна, маючы гэтую пасаду, дапамог Калясінскаму. Жамчужнікаў, з 1850 г. пасля ўніверсітэта, пачаў службу пры Арэнбургскім генерал-губернатары графе В.А. Пяроўскім і служыў там да 1862 г. З 1870 па 1874 гг. займаў пасаду пскоўскага віца-губернатара і атрымаў чын дзейнага стацкага дарадцы. Цікава, што Жамчужнікаў - вельмі вядомы і па-сапраўднаму таленавіты пісьменнік і паэт, адзін са стваральнікаў Казьмы Пруткова!

Не дарэмна з Бальтазарам Калясінскім сябравалі Уладзіслаў Сыракомля, Эдвард Жалігоўскі, Тарас Шаўчэнка і Аляксей Жамчужнікаў - лідзянін быў высокаадукаваным чалавекам і цікавым сябрам творчых людзей. А можа і сам нешта пісаў, але пры яго бурным жыцці не змог надрукавацца.

Кавалеўская піша: *"... пасля вяртання з ссылкі ... сямейныя повязі Калясінскага былі парушаны. Сваё жыццё ён скончыў у самоце. З жонкай амаль не сустракаўся. Меў адну дачку, якая выйшла замуж за Нарымскага, і адзіную ўнучку, у замустве - спадарыню Умястоўскую. Бальтазар Калясінскі памёр у Вільні, дзе пасля жыццёвых прац спачыў на Бернардынскіх могілках. Гэта быў адзін з выбітных людзей свайго часу. Чалавек ідэі і глыбокага патрыятычнага духу"*[48].

Ён і насамрэч пахаваны на віленскіх Бернардынскіх могілках, і інфармацыя пра яго пахаванне на могілках у Росах, якую можна сустрэць у розных крыніцах - памылка. Вядома таксама, што Бальтазар Калясінскі меў яшчэ двух сыноў - Юрыя і Ігната, пра якіх мы нічога не ведаем.

А яго стрыечны брат Станіслаў Калясінскі яшчэ жыў у 1918 г., дом Станіслава стаяў за Лідскім фарным касцёлам.

Пасля другой ссылкі Калясінскага з'явілася гарадская легенда - цудадзейны абраз Маці Божай, які як быццам зазвінеў падчас першага арышту Бальтазара, яго жонка аддала ў Лідскі касцёл. Паводле падання гэты абраз забраў у плябанію ксёндз Карповіч. Аднак абраз не ўпадабаў новае месца і звінеў без перапынку над галавой ксяндза. Карповіч вымушаны быў яго зняць. Легенда гаварыла, што абраз быў знішчаны. Людзі




[46] Kowalewska Zofia. Dzieje powstania lidzkiego ... S. 39., 40-41.

[47] Там жа. S. 73.

[48] Там жа.

перасталі хадзіць у касцёл, бо верылі, што сваім звонам абраз засцерагаў пра небяспеку[49]. Справа ў тым, што ксёндз-дэкан Карповіч[50] адносіўся да той нешматлікай групы ксяндзоў, якія па закліку рускага ўрада пачалі рабіць казанні ў касцёле на рускай мове, а ўрад, наўзамен, дазволіў ім бескантрольна ўзбагачацца і красці.

На гэтым можна было б закончыць аповед пра Бальтазара Калясінскага, але валанцёры, якія з 2017 г. аднаўляюць лідскія могілкі, летам 2020 г. знайшлі пахаванне аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 г. на Лідчыне - Каятана Дарашкевіча (Deraszkiewicz).

Дарашкевіч быў памочнікам і бліжэйшым паплечнікам братоў Калясінскіх. Ён выконваў вялікую арганізацыйную працу: збіраў і накіроўваў людзей у лідскі аддзел Людвіка Нарбута, купляў і прывозіў на Лідчыну зброю, збіраў грошы, вёў агітацыю сярод насельніцтва. З кнігі Зоф'і Кавалеўскай даведваемся, што Каятан Дарашкевіч памёр праз некалькі гадоў пасля паўстання і *"пакінуў пасля сабе памяць як пра чалавека годнага, сумленнага і з пачуццём гонару. Пазней Станіслаў Калясінскі паставіў на яго магіле на могілках ў Лідзе невялікі надмагільны камень з надпісам: "Каятану Дарашкевічу, вахмістру народнага войска". Гэты помнічак захаваўся і па сёння"* (маецца на ўвазе 1934 г.)[51]

І вось, здаецца, валанцёры знайшлі магільны камень Дарашкевіча (каардынаты помніка: 53.88109° N, 25.30495° E). Чаму здаецца? Бо стары камень вельмі пацярпеў ад часу і немагчыма на 100% гарантаваць, што надпіс на ім расшыфраваны цалкам дакладна. Але на карысць гэтага кажа і тое, што недалёка ад гэтага каменя знаходзяцца некалькі сямейных пахаванняў Калясінскіх, таму, у любым выпадку, Каятан Дарашкевіч знайшоў свой апошні прытулак недзе недалёка.




* * *

Наша культура і гісторыя маюць па-сапраўднаму моцныя падмуркі - на пустым месцы вырастае толькі пустацвет. І мяне бязмерна радуе, што наша лідская зямля пачынае адчыняць свае таямніцы тым, хто па сапраўднаму любіць і жыве дзеля яе.

[49] Kowalewska Zofia. Dzieje powstania lidzkiego ... S. 73.

[50] Кс. **Яўстах Карповіч**, сын медыка з Жалудка, нарадзіўся ў вялікай сям'і, меў 6 братоў і 5 сясцёр. Вучобу пачынаў у Лідскай вучэльні. Пасля Ліды служыў у Ракаве. Быў крэатурай вядомых ксяндзоў-русіфікатараў Феліцыяна Бядрынскага і Пятра Жылінскага.

Кс. **Феліцыян Бядрынскі** - пралат, кандыдат тэалогіі (не блытаць з сучасным кандыдатам навук - *Л. Л.*), схаластык вялікага Віленскага кафедральнага капітула, законанастаўнік Віленскай мужчынскай гімназіі і Марыінскага вышэйшага жаночага вучылішча, кавалер ордэна Св. Станіслава 3 ст., узнагароджаны залатым наперсным крыжам і медалём за вайну 1853-56 гг. (Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1875 год. Вильна, 1875. С. 136-137.) Казалі, што пралат Бядрынскі пасля сваёй смерці пакінуў 180 тыс. рублёў, без уліку таго, што лёкай, скраў тады з яго камода 12 тысяч рублёў.

Кс. **Пётр Жылінскі** (1817-1887) - кіраўнік Віленскай дыяцэзіі, пралат-прапазіт кафедры (прапазіт - кіраўнік манаскага ордэна - *Л. Л.*), доктар тэалогіі, кавалер ордэна Св. Станіслава 1 і 2 ст. з імператарскай каронай, кавалер ордэна Св. Уладзіміра 3 ст., узнагароджаны наперсным крыжам, а таксама медалямі за вайну 1853-56 гг. і задушэнне паўстання 1863-64 гг. (Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1875 год. Вильна, 1875. С.136.)

Масолаў А.: *"Некалькі пазней узвысіўся Вілейскі дэкан П. Жылінскі, чалавек яшчэ не стары, але цалкам сівы, трымаўся як каталіцкі біскуп - важна і стрымана. Ён атрымаў адзін з лепшых Віленскіх прыходаў - Вострабрамскі (каля гэтага касцёла - знакамітая брама з капліцай, пад'язджаючы да брамы па вузкай вуліцы, усе людзі здымалі шапкі) і прызначаны прэлатам"*. Гл: Мосолов, А. Н. Виленские очерки 1863-1865 г. СПб., 1898. С. 117-118.

Пётр Жылінскі, высвечаны ў святары ў 1842 г. Пробашч Віленскай Вастрабрамскай парафіі. У 1866 г. і ў 1868-1883 гг. адміністратар Віленскае дыяцэзіі ў сувязі з ссылкай у Вятку біскупа Адама Станіслава Красінскага. Выявіў сябе як актыўнага прыхільніка русіфікацыі касцёлу. У лістападзе 1869 г. падчас аўдыенцыі ў Аляксандра II заявіў, што з'яўляецца сапраўдным патрыётам Расіі і гатовы ўсім ахвяраваць дзеля Айчыны і цара. У 1871 г. даў дазвол на выданне расейскамоўнага катэхізма "Рымска-каталіцкі катэхізіс пра паслухмянасць і адданасць прастолу і Айчыне нашай Расіі або тлумачэнне 4-й запаведзі Госпада, якая датычыць начальства і яго ўлады". У 1876 г. для паскарэння русіфікацыі касцёлаў былой Менскай дыяцэзіі падзяліў яе на два візітатарствы - Менскае і Слуцкае. Палітыка адміністратара выклікала рэзкі супраціў вернікаў і святароў. 23 студзеня 1878 г. Жылінскі атрымаў ліст ад кардынала Кацярыні, у якім Ватыкан абвінавачваў яго ў самавольным уступленні ў кіраванне дыяцэзіяй, а таксама ў спробах пазбыцца лепшых ксяндзоў і ўвесці ў касцёл рускую мову. Рым патрабаваў ліквідацыі пасадаў візітатараў. Напрыканцы 1882 г. Пётр Жылінскі выехаў у Ватыкан, дзе адрокся ад ранейшых "памылак" і атрымаў адпушчэнне грахоў.

[51] Kowalewska Zofia. Dzieje powstania lidzkiego: wspomnienie o Ludwiku Narbucie. Wilno, 1934. S. 42.

**Віктар Кудла,**
*выпускнік Ганчарскай сярэдняй школы 1959 года*

# Сачыненне на тэму: “ЗВЕСТКІ ПРА СЯЛЯНСКАЕ ЖЫЦЦЁ, НАВУЧАННЕ, ВУЧНЯЎ І ІХНІ ЛЁС У ГАНЧАРСКАЙ АКРУЗЕ”

***У сачыненні выкарыстаны вершы Аркадззя Курыша, Пятра Ліпая, Вацлава Харука***

*(Працяг .Пачатак у папярэдніх нумарах № 85-92)*

*У творчым натхненні, у пошуках лепшага,*
*Прайшло ў сценах школы дзясятак гадоў,*
*Крупіцы разумнага, добрага, вечнага,*
*Збіраў педкалектыў і да мэты нас вёў.*
*Высокая мэта бацькамі акрэслена -*
*Нам годную змену ў жыццё рыхтаваць!*
*Не знойдзецца больш абавязка пачэснага,*
*Як веды свае ў працы прымяняць.*

Ганчарская сярэдняя школа... Усё ў памяці…

Усюды, дзе б ні даводзілася мне быць, якія б складанасці жыцця ні зведаў, я часта ўспамінаю родную школу. Усё тое добрае, што ёсць у мне, закладзена настаўнікамі - тымі, хто фарміраваў мой характар, мае здольнасці…

Рыхтуючы гэта сачыненне перагортваю лісты фотаальбома. З фатакартак глядзяць на мяне замілаваныя, дарагія твары. Успамінаю ўсіх настаўнікаў, іх урокі, заўвагі, строгасць, а падчас і пачуццё гумару. Кожны з настаўнікаў валодаў талентам і ведамі, якія стараўся перадаць сваім вучням. Нялёгка давалася ім гэтая задача, але рашыць яе было неабходна. У кожнага з іх быў свой індывідуальны падыход, свая методыка, цярпенне, уважлівасць. Бліскучымі іскрынкамі свяціліся іх вочы, радавалася душа, калі бачылі, што іх зразумелі, паважалі. А нам, вучням, было важна адчуваць сябе побач з тымі, хто ставіўся да цябе з дабрынёю: утрымлівалі ад дрэннага, падтрымлівалі ў выпадках, хвалілі за станоўчае!

Пра ўсё гэта будзе далейшы аповед.

Выкладанне ўсіх прадметаў вялі на беларускай мове. І на нацыянальнае выхаванне звярталася шмат увагі на уроках, і падчас пазашкольных мерапрыемстваў.

Да школьных заняткаў шчыльна прыглядаліся бацькі. Іх радавала, што ў школе панаваў беларускі дух. Настаўнікі не толькі на ўроках, а і па-за школай, паміж сабой і з мясцовымі жыхарамі стараліся размаўляць па-беларуску.

Мяне, Віктара Кудлу, у верасні 1952 года



**Былы будынак нямецкай камендатуры- бункер, пабудаваны ў 1943 годзе. Пасля вызвалення Лідчыны правялі рэканструкцыю і пачалі выкарыстоўваць для правядзення вучэбных заняткаў**

Ганчарская школа сустрэла вялікай колькасцю вучняў з розных класаў. Сюды прыйшлі ў пяты клас апрача ганчарскіх, вучні з навакольных пачатковых школак - Жучкоў, Агароднікаў, Дзітрыкаў. А некаторыя, закончыўшыя сямігодку ў Вялічкаўскай школе, прыходзілі ў 8-ы клас.

Заняткі пятых двух (А і Б) класаў былі ў так званым "бункеры", дзе з аднаго боку жыў завуч Клябанаў А.М. з сям'ёй, а ў прыбудове была бібліятэка, наглядныя дапаможнікі - плакаты, геаграфічныя карты… Загадчыца-лабарантка Кумпяк Крысціна,1935 гн. (выйшла замуж за старэйшага школьніка Валодзю Ярушчэнку), выдавала кнігі пад распіску, каб хутчэй вярталі для іншых чытачоў.

Адразу ж на нанава прыбыўшых хлапцоў ад мясцовых быў напад. Асабліва беняўскія хлопцы -забіякі ні з таго - ні з сяго чапляліся (дай закурыць, аддай ручку…) - неаднойчы новенькім давалі тумакоў. Крыху асвоіўшыся і згуртаваўшыся, дроздаўцы з масявіцкімі далі адпор. Аднойчы на дарозе ў бок Дроздава нас запыніў цэлы гурт беняўцоў, пачалася бойка кулакамі, сумкамі, потым у ход пайшлі каменні. Усё ж такі мы на "куліковым полі " пагналі забіякаў, і на гэтым канфлікт затух.

Ад старшакласнікаў асвоілі гандаль курынымі яйкамі на папяросы. Насупраць цэрквы, на рагу вуліцы, быў гаспадарчы магазін, прымалі тут і яйкі. Збіраючыся ў школу, каб не заўважылі бацькі, за пазуху пад кашулю ўладкоўвалі з дзесятак яек. Ішлі ціха, павольна, каб данесці дабро і на выручку атрымаць цыгарэты "Парашут" ці папяросы "Дукат". Былі выпадкі, калі яйка білася і расцякалася пад кашуляй - аварыя, гвалт. Прыёмшчык прымаючы кожнае яйка прасвечваў пад лямпай і бракаваў "калбатуны". Выйшаўшы, дружна стралялі імі ў сцяну магазіна - яшчэ доўга гэтыя адмеціны красаваліся на драўлянай сцяне…

Зімы ў пяцідзесятыя гады былі марознымі і снежнымі. Вуліцу так замятала, што даводзілася паўзці па гурбах. У такія дні бацька ў школу вазіў на санях. А былі дні марозныя, ды так што нават у кухні ў вісячым вядры вадзіца пакрывалася лядовай скарынкай, шыбы ў вокнах замарожаны іскрыстымі сняжынкамі. Зранку бацька ўхожваўся з жывёлаю, маці тупала на кухні, грыхтуючы сняданак. Старэнькая бабуля Алеся начавала ды і днявала на цёплай печы. Мы з братам Ігарам спалі ў так званым зале, дзе падлога была з дошак, на ложку на напханым аерам сянніку пад коўдрай.Чуем тупат бацькі ў сенях, страсаючы снег з валёнак: "Не падымайцеся, на дварэ мароз і завея. На заняткі не павязу. Наўрад ці будуць".

З радасцю мы падскоквалі, бралі да сябе пад коўдру малодшага браціка Жэню, весяліліся і дурачыліся.

1953-ці год запомніўся не толькі маразамі і снежнымі заносамі, а ў першыя дні сакавіка падкінула яшчэ столькі снегу, што з цяжкасцю сунуліся за тры кіламетры ў школу. Прагучэў школьны званок,у клас уваходзіць завуч, чамусьці без класнага журнала ... Прывітаўшыся, сказаў: "Краіна наша і ўвесь савецкі народ панёс вялікую страту - учора - 5 сакавіка памёр наш бацька-правадыр Іосіф Вісарыёнавіч Сталін. Усе выходзьце на двор на мітынг." Ажыўленыя і радасныя ад таго, што заняткі адмянілі, усе высыпалі на школьны двор. Пад гукі горна і барабана вынеслі піянерскі сцяг. Сярод крыху расчышчанага снегу натоўпам сталі хлапчукі без шапак, а дзяўчынкі знялі хусцінкі. З прамовай выступіў дырэктар Шкуратаў Пётр Фёдаравіч, па шчоках пацяклі слёзы. Затым з жалем - піянерважатая і хтосці са старшакласнікаў. Потым калонай накіраваліся да сельсавета, дзе у дворыку стаяў бюст правадыра. Вакол стаялі вяскоўцы. З прамовай выступіў старшыня сельсавета Какашынскі В. і ардэнаносец Чырвонай зоркі Германовіч Кандрат, нехта з сялян. Потым школьнікаў адпусцілі, і ўсе разышліся па вёсках, каб паведаміць аб важнай падзеі. (У той час радыёпрымачоў амаль ні ў каго не было).



Зорька

Иосиф Виссарионович СТАЛИН

От Центрального Комитета Коммунистической партии Советского Союза, Совета Министров Союза ССР и Президиума Верховного Совета СССР



***У ганчарскага школьніка Міцюкевіча Валодзі 1937 г.н. захавалася з той падзеі піянерская газета "Зорка"***

Каго запомніў з настаўнікаў? І таго, хто адзнаку ставіў авансам, а асабліва таго, хто аб'ектыўна тлумачыў



***Злева направа настаўнікі: Буйніцкі Кастанцін Іванавіч, Буяк Лілея Мікалаеўна, Качура Сяргей Васільевіч, Шкуратаў Пётр Фёдаравіч-дырэктар, Жывета Анастасія Сямёнаўна, Смірнова Марыя Васільеўна, Смірноў Аляксей Сцяпанавіч, Лідзія Антонаўна (прозвішча не ўспомнілі)***

і даваў рэзерв лепшых ведаў...

Хачу канстатаваць і спрабую пацвердзіць у гэтым сачыненні, што ўсе вывучаныя ў школе прадметы мне ў далейшым жыцці і працы спатрэбіліся. Усе веды ідуць ад настаўнікаў.

**Буйніцкі Канстанцін Іванавіч** настаўнічаў з польскага часу. Вёў арыфметыку, потым чарчэнне, рысаванне. Дарэчы, цудоўна афармляў загаловак насценнай газеты "За выдатную вучобу". Першы запыт у пачатку ўрока табліца множання - патрабаваў знаць "назубок". Адзнакі: 5 - выдатна, 4 з плюсам, тры, двойка, адзінка, і мог быць -" кол з лейцамі." Мог за нявывучаны ўрок сцябануць лінейкай па выгнутай далоні. За дрэнныя паводзіны на ўроку - шум, размовы - мог паставіць "у вугал на калені", ці "за дзверы", а найбольш сурьёзна - выклік бацькі ў школу…



У мяне любімыя ад настаўніка рысаванне, чарчэнне - заўсёды на "выдатна". Добра ведаў матэматыку, алгебру, геаметрыю, стэрыяметрыю.

Пасля заканчэння дзесяцігодкі планаваў паступіць у Ленінград на картаграфічны факультэт. Прайшоў сумоўе ў ваенкамаце і медкамісію, атрымаў накіраванне-рэкамендацыю. Але здарылася непрадбачанае: у лютым на ўроку фізкультуры на баскетбольнай пляцоўцы паслізнуўся на лапіку лёду, упаў і зламаў нагу. Так з гіпсам на назе жыў непадалёку ад школы ў бацькавай радні - Міцюкевічаў Сашы і Любы - і на каштылях закончваў дзясяты клас. Планы рухнулі…

***P.S.*** Як працяг навучання ад Канстанціна Іванавіча - самастойна асвоіў маляванне масляными фарбамі карцін, разьбу па дрэве. На дальнейшай вучобе і службе пісаў плакаты, афармляў наглядную агітацыю, светагукавыя газеты…

**Буяк (Пісарэвіч) Лілея Мікалаеўна** - беларускамоўная, ветлівая, але строгая, цудоўна вяла беларускую мову і літаратуру. Нішто не прыно-сіла такой радасці, як чытанне настаўніцай паэмы Якуба Коласа"Новая зямля".

Мне не вельмі ўдавалася дыктоўка па беларускай мове без памылак, а дамашняе ізлажэнне пісаў на "добра".

Дарэчы, тады ўсе падручнікі былі беларускамоўныя, і прадметы выкладаліся на беларускай мове.

***P.S.*** Наогул, у дальнейшым на працягу больш за 50 гадоў вельмі мала давялося пісаць і размаўляць на роднай мове. Цяпер стараюся наганяць. У дамашняй размове трымаюся роднай мовы і з сынамі, і з унучкамі.

Цяпер,нажаль няма нават ніводнай вышэйшай навучальнай установы на роднай мове і толькі па ўсёй краіне некалькі беларускамоўных класаў у школах. Справаводства ва ўстановах вядзецца толькі па- руску, таксама выступаюць народныя пасланнікі. Па радыё і на тэлебачанні зрэдку гучыць наша родная мова.Згодна з апошнімі статыстычнымі дадзенымі беларусаў - 83%,рускіх-8%,палякаў-3%.Сёння Беларусь адзіная з былых саюзных рэспублік яшчэ засмечана помнікамі, назвамі вуліц у гонар бальшавіцкіх дзеячаў, царскіх генералаў. А многіх нацыянальных патрыётаў, змагароў за беларускасць трымаюць у цяньку…

У траўні 2014 года я быў запрошаны ў школу на "апошні званок". Шчымліва было на душы ад знаёмства з новымі будынкамі, школьным музеем. Наведаў Лілю Мікалаеўну ў добрым здароўі. А якой цёплай і цікавай была гэтая сустрэча!

На падворку парадак, буяюць кветкі, у хаце



***Травень 1955 года ля сцяны "бункера" вучні 8-ага класа з настаўнікамі. Настаўнікі: 1- ая злева - не прыгадалі прозвішча, Лецка Клаўдзія Мікалаеўна, Гаўрош Таццяна Мікалаеўна, Пазняк Іосіф Людвікавіч - дырэктар, Пазняк Кацярына Аляксееўна, Жывета Анастасія Сямёнаўна, Халадкоўская Наталля Іванаўна, Буйніцкі Канстанцін Іванавіч. Унізе вучні: Быстрыцкі Дзёма, Кудла Ігар, Кучынскі Міша, Ненартовіч Слава, 3-ці рад: Шут Ніна, ??, Буяк ?, Буяк Марыя, Савонь ?, Ненартовіч ?, Мулінская Лёня, Быстрыцкая Валя . 4-ты рад: Буйніцкі Іосіф, Кудла Валодзя, Казак Ваня, Ярушчэнка Валодзя, Смірнова Марыя Васільеўна - настаўніца, Ярашэвіч?, Вішнеўскі ?, Быстрыцкая Ніна***

чысціня, сцены і падушкі ўпрыгожваюць вышыўкі. Добрымі словамі адзначыла мае краязнаўчыя публікацыі.

*Не верце выдумкам маскоўскім,*
*што наша мова для сяла,*
*Ў Вялікім Княжастве Літоўскім*
*яна дзяржаўнаю была.*
*Даўно, аж трэцяе стагоддзе*
*супроць яе ідзе вайна.*
*Але жыве яна ў народзе,*
*і будзе вечна жыць яна.*

Дырэктарам школы с 1953 па 1955 годы (два гады) запомніўся **Пазняк Іосіф Людвікавіч** -1930 г.н. Невысокі, шпаркі, з шырокім крокам, валасы - дагары. У старэйшых класах вёў матэматыку, геаметрыю, пасля заняткаў вёў гурток па шахматах. Толькі ў яго былі фігуры фабрычныя.

*З адказнай задачай спраўляўся старанна*
*Дырэктар да ведаў шляхі нам адкрыў,*
*Свае абавязкі выконваў дакладна -*
*Жыццё разумець нас на ўроках вучыў.*

Але ў хуткім часе з дапамогай бацькі мы зрабілі свае шахматы. Дошку з картону размалявалі ў чорнабелыя клеткі. Фігуры - шпулькі ад нітак разразалі напалову, верх фігур выразалі з паленца падобна да фабрычных. Дзеці так захапіліся шахматамі, што ў вольную часіну ці вечарамі на пасядзелкі ішлі з шахматамі. Двое гулялі "на высадку", астатнія, як кажуць, "балелі". Потым і другія вырабілі, і па вёсцы было ўжо 3-4 партыі.

Да шахматнай гульні ўцягнуліся і бацька, і суседзі. Іншы раз - сцямнее, маці гукае бацьку: "Ідзі ўхожвацца і карміць скаціну!" Бацька: "Пачакай, партыю закончу" . Не вытрымаўшы, падкраўшыся маці рукою згортвала фігуры ў кучу. Гвалт, крык! Партыі - канец! Браты Ігар і Жэня добра асвоілі шахматны вяж. На раённых спаборніцтвах і ў інстытуце выдзяляліся пераможцамі.



**Ігар - 14.10.39 г.н.**

P.S. Іосіфа Людвікавіча па сямейных абставінах спачатку перавялі настаўнікам у Беліцкую школу, потым працаваў у 11-ай лідскай школе. Ёсць добрыя ўспаміны пра яго настаўніцтва, нажаль пражыў ён нямнога.



**Жэня - 18.07.50 г.н.**

Некалькі год таму на сустрэчы з вучнямі ў Ганчарскай школе папрасіў падняць руку, хто умее гуляць у шахматы? Адзін падняў, засаромеўся і апусціў.

Кучынская Марыя Ермалаеўна, як і Лілея Мікалаеўна, выйшла замуж за ганчарскага хлопца, тут і жылі. Вяла рускую мову і літаратуру. У яе было вельмі прыгожае маўленне. Рускамоўны пераход нам даваўся не вельмі лёгка, патрабавала ад нас глыбокіх ведаў па граматыцы і творы літаратурных класікаў. За невывучаны вершык вучня пакідала пасля ўрокаў "у казе". Гэта было сорамна і дахаты даводзілася ісці аднаму, а бацькі ўжо зналі пра затрымку. Сарамацілі…



***1955 год, 6-ты клас. Сядзяць настаўнікі: Буйніцкі Канстанцін Іванавіч, Гаўрош Таццяна Мікалаеўна, Пазняк Іосіф Людвікавіч, Клябанаў Аркадзь Міхайлавіч-завуч, Кучынская Марыя Ермалаеўна, Заека Уладзімір Якаўлевіч. Вышэй стаяць, ваенрук (прозвішча не ўспомнілі), Казлова Данута, Заека Галя, Белавус Ніна, Курыловіч Тамара,Хрыстук Рэня. Каля сцяны: Кудла Віця, Валажынскі Вацік, Харкевіч ?, Пазняк Дзёма, Харкевіч Валянцін.***

За сёмы клас здавалі некалькі экзаменаў, і ўсім выдавалі пасведчанне.

Палавіна выпускнікоў развіталіся са школай: хто паступіў у тэхнікум ці вучылішча,а некалькі хлапцоў пайшлі працаваць на шклозавод. Сем'і Дэкаў і Коркуцяў выехалі на казахстанскую цаліну. Астатнія прадоўжылі вучобу ў восьмым класе. Сюды прыйшлі чацвёра выпускнікоў Вялічкаўскай сямігодкі: Бобрык Сабіна: Драгун Крыся, Драгун Раман, Пірціц Гена. Наш клас стаў невялікім, але дружным. Усе мы адразу знайшлі агульную мову, аднолькавыя інтарэсы і зліліся ў адзіны калектыў. Наш класны кіраунік Ганна Адольфаўна Сегень была маладым педагогам, але мела багаты досвед, удасканальвала выкладанне нямецаей мовы і старалася свае веды перадаць нам.

З 1955 па 1957 гг. дырэктарам школы стаў Шэндзяровіч Анатоль Аляксандравіч, 1927 г.н., гаваркі, па-ваеннаму шустры. Выкладаў захапляльна геаграфію. Каля геаграфічнай карты свету вандравалі па краінах і




***Травень 1956 г. Выпускнікі сямігодкі з настаўнікамі: Ашмяна Ліля Міхайлаўна, Лецка Клаўдзія Мікалаеўна, піянерважатая - не прыгадалі прозвішча, Клябанаў Аркадзь Міхайлавіч, Буяк Ліля Мікалаеўна, Сегень Ганна Адольфаўна, Шэндзяровіч Вольга Анатольеўна, Дзякевіч Мікалай Мікалаевіч, Нікалаева Надзея Сяргееўна. Унізе прысеўшы: Дэк Ваня, Мурын Валодзя, Кудла Віця, Козел Міша. Трэці рад: Коркуць Іра, Данэйка Веця, Курыловіч Тамара, Гук Зоя, Данэйка Марыя, Буяк Ніна, Быстрыцкая Зоя, Казлова Данута, Белавус Ніна, Марцінкевіч Соф'я, Дэк Ганна, Раік Толя, Чацвёрты рад: Звярко Валя, Мурын Валодзя-2, Курыловіч Сяргей, Заека Галя, Жамойціна Надзя, Козел Тамара, Харкевіч Валянцін, Коркуць ?, Жамойцін Жэня***



***1957 год каля ўваходу ў трэці будынак школы. Настаўнікі: Ашмяна Ліля Міхайлаўна, Сегень Ганна Адольфаўна, Гуйда (імя не ўспомнілі), Шэндзяровіч Ніна Анатольеўна, Клябанаў Аркадзь Міхайлавіч - завуч, Лецка Клаўдзія Мікалаеўна, ? Вольга Паўлаўна, Пархоменка Аляксандра Нікіцічна, Буяк Ліля Мікалаеўна, Дзікевіч Мікалай Мікалаевіч, за спіной-дырэктар школы Шэндзяровіч Анатоль Аляксандравіч.***
***Вучні 8-ага класа: унізе прысеўшы - Раік Толя, Шулейка Жэня, Мурын Валодзя, Кудла Віця, Харкевіч Валянцін, Козел Міша. Трэці рад: Харкевіч Вера, Коркуць Іра, Дэк Ганна, Марцінкевіч Соф'я, Быстрыцкая Зоя, Белавус Ніна, Курыловіч Тамара, Курыловіч Сяргей. Чацвёрты рад: Казлова Данута, другую дзяўчыну не ўспомніў, Козел Тамара, Заека Галя, Жамойціна Надзя, Гук Зоя, Коска ?, Данэйка Веця***

кантынентах. Я назубок знаў усе сталіцы дзяржаў, рэкі, моры і акіяны.

***P.S.*** За чатыры гады службы на баявым крэйсеры прайшліся водамі Балтыйскага і Паўночнага мораў. З візітамі дружбы ваенных маракоў наведалі Данію (травень 1964 г.) і Швецыю (травень 1965 г.).



***Капенгаген. Ля помніка-знака Даніі. Савецкія маракі з крэйсера " Камсамолец"***



***Намеснік камандуючага ДЧБФ Міхайлін В. В., камандуючы ваенна-марскга флоту Швецыі сустракаюць каралеву прыгажосці Швецыі***



***За выкананне адказнага задання ў час ваенна-марскога вучэння краін Варшаўскай дамовы па дастаўцы камскладу кацерам у штармавое надвор'е з ваенна-марской базы Свінаусце (ПНР)на караблі, якія стаялі на рэйдзе, узнагароджаны юбілейным медалём, які атрымаў з рук Старшыні СМ СССР А.Н. Касыгіна.***

Жонка Шандзяровіча А.А. - **Ніна Анатольеўна** - вяла ў старэйшых класах рускую мову і літаратуру. Выкладала грунтоўна, і вучні з цікавсцю вывучалі рускіх класікаў, пісалі сачыненні, рыхтаваліся да галоўнага іспыту выпускнога экзамену-сачынення. Па змесце сачыненне мне ўдавалася напісаць на выдатна, а вось з граматыкай ладзіў не заўсёды..

У трэцім памяшканні, пабудаванным з перавезеных драўляных хат, размяшчаліся 8-мы, 9-ты, 10-ты класы. Вялікія вокны, ацяпленне - печкі, узімку было холадна, памяшканні прадуваліся. Уваход у кожны клас быў асобным. Паміж 9 і 10 класамі была перагародка, якая пад час агульнашкольных мерапрыемстваў рассоўвалася і ўтваралася прасторная зала. Праводзіліся школьныя вечары з нагоды якой-небудзь даты: Кастрычніцкая рэвалюцыя, Новы год, дзень Перамогі.

На невялікай сцэне праходзілі канцэрты мастацкай самадзейнасці: нехта іграў на гармоніку, некалькі хлопцаў мелі добры голас, спявалі "на біс".

Памятаю, як усіх усхлявала з густам выканая дзесяцікласнікам Ч. песня "На карабле хадзіў бывала ў плаванне…" дзе ён уставіў імя настаўніцы біялогіі Д., да якой заляцаўся: "Ды не пакінуў там душы ні крошачкі, яна для Насценькі маёй…". Твар настаўніцы зарумяніўся …

Ад фізкультурнага гуртка выступалі акрабаты з рознымі фігурамі. Асабліва ўважліва глядзелі з залы юнакі на дзяўчынак у майках і трусіках.

Абавязкова напрыканцы былі сцэнкі драмгуртка па вядомых ваенных творах. У былых франтавікоў здымалі з плеч гімнасцёркі, пілоткі, медалі, у маракоў - бесказыркі, цяльняшкі. З дошак выраблялі аўтаматы, наганы, гранаты…..



***1957год. Дэсяцікласнікі-выпускнікі. Злева-направа: Кудла Ігар, Казак Іван, Кахаnoўскі Іван, Даўлюд Міша, Дычак Валодзя, Лукашэвіч Ваня, Кучынскі Міша. Унізе: Ненартовіч***



***Вясна 1957-га года. Каля трэцяга будынка, складзенага з бярвенняў ад перавезеных хат, дзе размяшчаліся 8-9-10-тыя класы (больш поўнага фота не знайшлося). У матацыкле з каляскай вучні 10-га класа: Кудла Ігар, Кудла Міша, Лукашэвіч Ваня. На здымку відаць якраз тыя вялікія вокны класнага пакоя, якія мы шклілі і замазвалі "кітам"***



***1956 год. Настаўнікі: Гец Кастанцін Міхайлавіч, Гец (Шчуцкая) Ядвіга Елісееўна, Шут Вольга Сцяпанаўна, Дзікевіч Мікалай Мікалаевіч, Сей Вольга Фёдараўна, Сегень Ганна Адольфаўна, ? Антаніна Васільеўна, Буйніцкі Кастанцін Іванавіч. Групка вучняў з розных класаў***

**Вольга Сцяпанаўна Шут** - маладая прыстойная дзяўчына адразу пасля інстытута ў дзесятым класе выкладала алгебру і геаметрыю… з канспекта. Сядзеў я на першай парце адзін. Ад папярэдніх настаўнікаў меў добрыя веды, таму вёў сябе вальготна - рашаў задачкі першым і іншыя варыянты паспяваў, чым ставіў настаўніцу ў нялоўкасць; тая чырванела, тушавалася. А аднойчы праз слёзы вымавіла: "Я ж цябе малога на руках насіла…". Для мяне гэта быў ступар.

Потым мая бабуля Алеся і расказала, што ў вайну Шуты жылі па-суседстве. Вольга - малое дзяўчо - часта забаўлялася ў нас, цягала мяне на руках. Мне стала не па сабе - сорамна - надалей вёў сябе прыстойна. Але і цяпер каюся і шкадую што не здарылася папрасіць прабачэння. Вольга Сцяпанаўна рана памерла. (Дарэчы, камсамолец-партызаан Генадзь Шут - з гэтай сям'і. Мажліва, гэта ўберагло маіх бацькоў у часы ліхалецця.)





***У дзённіку настаўніца часцяком запісвала свае заўвагі***

**Сей Вольга Фёдараўна** - таксама першы год пасля інстытута дзесяцікласнікам выкладала фізіку і астраномію. Умела зацікавіць вучняў сваімі прадметамі і асабліва практычнымі заняткамі і доследамі.

Тут мы атрымалі першыя навыкі радыёмайстроў. З часопіса "Юны тэхнік" бралі схемы дэтэктарнага прымача, здабывалі: ферытавыя стрыжні, медны дроцік, антэну, слухаўкі, паялі, выраблялі скрынку... Якая ж была радасць, калі праз трэск і шум у слухаўках праслізвала музыка, гаворка…

***P.S.*** Будучы на караблі асвоіў ваенную спецыяльнасць артэлектрыка. А ў дальнейшым самастойна выконваў электрамантажныя і рамонтныя работы ў дамашняй гаспадарцы.

Фізкультурнае жыццё ў школе значна ажывілася з пераводам у Ганчарскую сярэднюю школу Дзікевіча Мікалая Мікалаевіча - 1924 г.н.

За дарогай, на выгане быў арганізаваны школьны стадыён, вакол - бегавая дарожка. Мелася футбольнае поле, дзе пасвілася і мясцовая жывёла, баскетбольная пляцоўка, турнікі, сектары для скачкоў у даўжыню, вышыню, для кідання гранаты.

Валейбольная пляцоўка была і за "бункерам".



На перапынках там ішлі баталіі паміж камандамі. Адну ўзначальваў дырэктар - Іосіф Людвікавіч, другую - Мікалай Мікалаевіч. Калі партыю перарываў школьны званок, прадаўжэнне гульні - пасля ўрокаў. Гарачыя баталіі, удалыя ўдары падтрымлівалі балельшчыкі: усе школьнікі і настаўнікі. Валейбол палюбілі ўсе. У вёсцы на выгане ўкапалі слупкі, нацягвалі кольвек якую сетку, і тут штодзённа гульня доўжылася да цямна.

Ужо недзе з 7-га класа я праявіў сябе як нядрэнны стралок з малакалібернай вінтоўкі. Трэніраваліся мы на збудаваным каля ляску пясчаным насыпе - стралковым ціры ў любы час, іншы раз у зімовую завіруху, так што мішэні не было відаць.

Быў у складзе каманды Ганчарскай сярэдняй школы на раённых спаборніцтвах. Вінтоўку прыносіў дахаты, вакол падворка падстрэльваў варон і галак. Перажываў, каб удала выступіць, ноччу практычна не засынаў. Раніцай дабіраўся на паўстанак Ганчары, там з Сяльца цягніком ехаў Мікалай Мікалаевіч. З вакзала пехатою з вінтоўкамі шпацыравалі па вуліцах. Спаборніцтвы праводзіліся ў ціры на стадыёне, што насупраць педвучылішча, кожны год - на кастрычніцкія святы, дзень Савецкай Арміі, дзень Перамогі… Тады першынствавалі вучні старэйшых класаў Красноўскай школы. Мы ж, малышня, пачалі абстаўляць іх раз за разам, і яны сышлі..



***Каманда стралкоў-пераможцы раённага спаборніцтва пад кіраўніцтвам Дзікевіча Мікалая Мікалаевіча, злева-направа: Гук Рысік, Кудла Віця, Пазняк Дзёма, Раік Толя, Лукашэвіч Ваня***


ГРАМОТА

***Адна з грамат райкама ДАСААФ за перамогу ў раённым спаборніцтве з нагоды 40-годдзя БССР і дня Савецкай Арміі***

Ганчарская школа штогод добра выступала на раённай школьнай спартакіядзе. За першае месца ў асноўным змагаліся з Беліцкай школай. Нашы былі мацнейшымі ў валейболе, бегу на розныя дыстанцыі, скачках.

Па выніках збіралася зборная раёна на абласную спартакіяду. Гэта было свята для ўдзельнікаў. Да Гародні ехалі на грузавой аўтамашыне: школьнікі-спартсмены Лідчыны прыязджалі ў Ганчары - мы садзіліся, у Беліцы дасаджваліся іхнія ўдзельнікі. У Гародні кожнаму давалі талоны на 3-х разавае харчаванне, начавалі ў кватэрах гараджан, спалі на падлозе на нейкіх сяннічках. Спаборніцтвы праходзілі на гарадскім стадыёне. Я ўдзельнічаў у спаборніцтвах па стральбе з малакалібернай вінтоўкі, меў III спартыўны разрад.

Мікалай Мікалаевіч Дзікевіч улажыў у нас, хлапчукоў, не толькі спартыўныя навыкі, азарт пераможцы, але і чыста чалавечыя паводзіны ў жыцці: акуратнасць, працалюбнасць, абавязковасць, любоў да роднага краю, яго гісторыі. Запомніся роварныя маршруты ў Навагрудак - даўнейшую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, дзе наведалі Курган Бессмяроцця, музей Адама Міцкевіча.

Роварная гравійная дарога вельмі стамляла, але назаўтра былі рады і з задавальненнем дзяліліся ўбачаным. Некалькі экскурсій было ў Бярозаўку, дзе наведвалі ў Гуце вытворчасць шклянога посуду.

***P.S.*** Як працяг краязнаўчай працы Мікалай Мікалаевіч напісаў і выдаў дзве кнігі: "Дзітрыкі", "Сялец", цяпер збірае матэрыял аб вёсках Ганчарскага сельсавета.

Дзесьці ў 70-тых гадах я наведаўся ў Сялец да Мікалая Мікалаевіча. У сяброўскай абстаноўцы, тэт-а-тэт мы правялі сустрэчу, паўспаміналі аб былых школьных гадах, расказалі аб прайшоўшых жыццёвых гадах… Мяне здзівіла тое, што праз столькі гадоў у яго захаваліся тыя ж знешнія рысы, прыемны голас і ласкавасць бліскучых вачэй. Разам з ім мы прысутнічалі на 100-годдзі нашай роднай школы. У гэтым годзе - 20 верасня - нашаму Мікалаю Мікалаевічу споўніцца 97 год. Усё ж, нягледзячы на асабісты стан, дамаўляюся аб цёплай сустрэчы.

Я таксама ўцягнуўся ў краязнаўскую справу - па архіўных дакументах апублікаваны ў "Лідскім летапісцы" гістарычны нарыс "Дворышча" і "Экскурс у гісторыю бежанства ў Першую сусветную вайну". Вось ужо ў сямі нумарах "Лідскага летапісца" ідзе аповед "Звесткі пра сялянскае жыццё, навучанне вучняў і іхні лёс у Ганчарскай акрузе".

Запісаў успаміны старажылаў і сабраў гістарычныя фатакарткі і дакументы аб Дварышчанскім краі. На свяце 500-годзе Дворышча зрабіў выставу старадаўняй сельскагаспадарчай тэхнікі і сялянскага быту.

"Аквапарк": плаваць вучыліся ў раўчуку, што перад чыгуначным пераездам. Першы хлапец, ускочыўшы ў канаву, плаваў у больш-менш чыстай вадзе, астатнія вылазілі, што негры - усё цела ў торфе. А на Дзітве ў часы сенажаці бацька майго суседа завязваў лейцы за нагу сыну і … штурхаў з берага: боўтайся! Так і навучыўся плаваць.

Каля млына Лупеніцы многа і цікавага было заўсёды. Па зіме - крыгаход, а потым разводдзе - рэчка выходзіла з берагоў. Яшчэ ранняю вясною хлапчукі стараліся першымі адкрыць купальны сезон. Найбольш цікава на рэчцы было летам. Там, у асноўным у нядзелю, для ўсёй дзятвары з навакольных вёсак быў рай: купаліся, загаралі на жоўтым пясочку. Там, дзе вады ў рэчцы было з берагамі, давалі нырца ў глыбіню з моста, а адчаяныя нават з даху млына. Прагаладаўшыся, сярод хмызняку і ў крапіве знаходзілі дзікія парэчкі, а пад вярбою, дзе струменіла крынічка з халоднай вадзіцай утаймоўвалі смагу. У нашай памяці засталіся дзіцячыя ўспаміны пра млын Лупеніцу, дзе любілі бавіць час…

Пасля вайны загадчыкам млына ўзбуйненнага калгаса імя Булганіна быў Кучынскі Мікалай Аляксандравіч. У добрым стане захоўваў механізмы вадзянога млына: мяшкі з зернем пасля вагаў грузіліся на платформу і віндай (грузавы ліфт) падаваліся на трэці паверх. Потым засыпалася зерне ў бункеры і праз заслонку сыпалася ў жорны. Дзве чыгунныя турбіны з дубовымі клёпкамі вярцелі вал з колам і праз доўгі пас круцілі каменныя жорны, дзе малолася зерне. На вальцах выраблялася з пшаніцы пытляваная мука, а на крупарушцы- грэцкія крупы. Магутная сіла вады круціла і пілы тартака, дзе распілоўвалі бярвенні на дошкі, бэлькі. Каб размалоць збажыну сялянам даводзілася па некалькі дзён сядзець на мяшках і чакаць чаргі…

Добра памятаю, як вясной 1958 года (я быў у 9-ым класе) была вялікая паводка і нават адкрытыя шлюзы не ўмяшчалі ўвесь напор вады і яна хлынула праз дамбу, размыла вялікую яміну.Турбіны асушыліся - млын стаў. На засыпку дамбы кінулі ўсіх калгаснікаў з падводамі і адзіны на той час грузавік. Нам адмянілі заняткі ў школе і нас старшакласнікаў з рыдлёўкамі паставілі насыпаць пясок у мяшкі, якія адвозілі ў прорву. Аўрал доўжыўся днём і ноччу некалькі сутак, пакуль не насыпалі дамбу і не ўтайманавалі плынь.

Дзесці ў 60-ці дзесятых гадах, калі ў калгасы прыйшла электрычнасць і зерне пачалі драбіць на так званых ДКУ-шках, а калгаснікі на працадні мала атрымлівалі збожжа, млынарства пачало затухаць. Малады старшыня калгаса П.А., які стаў пасля Галямполя Д.Я., загадаў спаліць будынак, і атрымалі страхоўку 300 рублёў. Шкада, што такое гістарычннае архітэктурнае і прамысловае збудаване не захавалася…



***На маёй фатакартцы разбураная дзітвянская дамба каля млына***

(Мажліва, у некага ёсць здымак млына Лупеніцы …)

***P.S.*** Цяпер абапал рэчкі разрасліся дачы, і гарадскія дачнікі не ўяўляюць сабе, што некалі ўсё тут было інакш …

*Гадоў таму, мо больш за сотню,*
*Бо, можа, быў той час такі,*
*Заўсёды на рачушках*
*Гудзелі чынныя млыны.*

*Без электрычнасці, матораў*
*Вада круціла камяні,*
*Што ні млынар, то меў свой гонар!*
*У пашане млынары былі.*

*Зрання абоз туды цягнуўся*
*Было тады чагось змалоць,*
*Згружай мяшкі - ды не лянуйся!*
*Дапамагай другім згрузіць.*

*Табе тут змелюць, як захочаш:*
*Каму на крупы, на пытлю,*
*Свінням муку змалоць тут можаш,*
*Наробяць груцы на куццю...*

*Ды вось часы тыя мінулі.*
*Не стала болей тых млыноў.*
*Іх паламалі і спалілі...*
*Бо час другі да нас прыйшоў?*

*Купілі за мяжой драбілкі.*
*Вось гэтак вынайшлі млыны!*
*Ды мелюць толькі для скацінкі,*
*І больш не мелюць на бліны.*

На мейсцы млына Лупеніцы энтузіясты-краязнаўцы рыхтуюць устанавіць памятны гранітны знак.

У сакавіку 1957 года я ўступіў у камсамол. З вялікім гонарам насіў значкі ВЛКСМ і 3-ці спартыўны







***Пахвальны ліст Лідскага гаркама камсамолу***

разрад. Сакратаром райкама камсамолу быў Сяргей Цярэнцьевіч Кабяк, потым знакаміты абласны кіраўнік ў Гародні і Віцебску.

***P.S.*** У часы службы на крэйсеры "Камсамолец" прымаў актыўны ўдел у многіх камсамольскіх мерапыемствах : выпуску светагукавой сатырычнай газеты "Камсамольскі фіціль",



Я быў старшыной (на фота справа) Усесаюзнага турыстычнага паходу па месцах баёў абаронцаў Маандзунскага архіпелага.

У складзе паходу быў Герой Савецкага Саюза Каняеў (злева) - камандзір падводнай лодкі, якая



ўпершыню прайшла пад ільдамі Фінскага заліва, а таксама палкоўнік Арцюхоў (другі злева) - намеснік па палітычнай частцы стралковага палка, які штурмаваў Рэйхстаг. Наведвалі выспы Муху, Саарэма. Там знаходзілі ўмацаваныя раёны з дзотамі, дзе савецкія байцы мужна абараняді краіну.

Мы ўскладалі кветкі ля помнікаў. Выпушчаны вахтавы часопіс і фотаальбом, здадзены ў музей Балтыйскага флоту.

Асабліва памятная сустрэча з лётчыкам-касманаўтам № 2 Цітовым Г.С.

У ліпені 1965 года святкавалася вызваленне Эстоніі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Гасцям было прапанавана здзейсніць марскую прагулку на ваенным караблі. Выбар выпаў на наш крэйсер "Камсамолец", на якім служылі каля тысячы ваенных маракоў розных нацыянальнасцей Савецкага Саюза і, натуральна, кожнаму было цікава сустрэцца з дэлегатамі сваёй рэспублікі. Сустрэчы праходзілі па кубрыках.

Мы, маракі-беларусы, сабраліся ў карабельным клубе. Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Сурганаў і іншыя члены дэлегацыі распавялі пра родную Беларусь.

Крэйсер выйшаў у мора, узяў курс на востраў Саарэма. Добрае надвор'е, ціхае мора. Канцэрт на верхняй палубе, флоцкая вячэра прыняла ў захапленне гасцей ... Але калі іх правялі па кубрыку і яны памацалі матрацы і падушкі з корку (аварыйны плаўсродак), спусціліся па трапах ў кацельнае і машыннае аддзяленне, дзе тэмпература больш за 40 градусаў, ціск на вушы і шум ад працуючых механізмаў, наведавальнікі былі ў шоку: "Хто на моры не бываў - той і гора не відаў!"



Раніцаю крэйсер падышоў на рэйд вострава Саарэма. Стаяла выдатнае ліпеньскае надвор'е: ціха, бязветрана, на моры поўны штыль, скрозь ранішні туман прабівалася сонца.

Па штатным раскладзе я быў старшыной камандзірскага кацера, г.зн. - рулявым. На досвітку кацер спусцілі на ваду. Па трапе Герман Сцяпанавіч сышоў з крэйсера і спусціўся да нас у кацер.

Я запрасіў касманаўта № 2 у рубку за штурвал і спытаў: "На касмічным караблі штурвал ці патрэбен?" Гэты момант я зафатаграфаваў.

На памяць Герман Сцяпанавіч даў аўтограф на кнізе "На космадроме". Гэтая дарагая для мяне рэліквія была выстаўлена ў музеі "Зямля і людзі", які размяшчаўся ў былой панскай вежы в. Дворышча. На жаль, кніга знікла разам з усімі экспанатамі разрабаванага і разламанага музея.




***Апошні кадр светавой газеты "Камсамольскі фіціль"***




Чацвёрты, апошні год быў сакратаром камітэта камсамолу крэйсера на правах райкама, дэлегатам камсамольскай канферэнцыі ДКБФ. Узнагароджаны Ганаровай граматай ЦК ВЛКСМ, граматай ЦК ЛКСМ Эстоніі.

**Клябанаў Аркадзь Міхайлавіч**, 1904 г.н. завуч, а потым дырэктар школы з верасня 1957 па жнівень 1960 года. Аднойчы ён запрасіў некалькі вучняў параставіць нейкую мэблю … І тут мы ўбачылі фанерную пасылку з Ізраіля, дзе было напісана: “Арыён Мендзялеевіч”.Так даведаліся пра яго сапраўднае імя.

Выкладаў гісторыю. Вывучалі пра старажытны Егіпет, Індыю, Грэцыю, Рымскую імперыю, Аўстра-



***Індыя .Агра. З жонкай Янінай пасля наведвання Маўзалея Тадж Махал***

Венгрыю.

А вось з гісторыі дарэвалюцыйнай Расіі ўспаміналі толькі пра прыгонное права, памешчыкаў і капіталістаў. Гісторыю Беларусі - зусім коратка, пра савецкі перыяд.

Дарэчы, рамантыка гістарычных вандраванняў і падарожжаў зацягнула і працягвалася і па-цывільнаму:

У 1978 годзе наведаў Індыю, Шры-Ланку.

У1981 годзе на цеплаходзе "Леанід Собінаў " два Кудлы Віктар і Ігар здзейснілі падарожжа па краінах



Сярэднеземнаморскага бассейна: Турцыя, Грэцыя, Італія, Ватыкан, Мальта, Марока, Алжыр, Іспанія.

Асабліва цікавым было наведванне гістарычных мясцін у Афінах, Стамбуле. Знаёмства з Рымам, у Ватыкане - сабор Святога Пятра,Секстынская капэла.



***Італія. Рым. Каля Калізея. Рындаў Н., Грыцэнка Б., Кудла В.***

***P.S.*** Мне давялося пабываць у Аўстрыі, Венгрыі, Югаславіі пазнаёміцца з гісторыяй і сучасным жыццём.



***Аўстрыя, Вена, Віктар і Яніна каля помніка Штраўсу***

Новы - 1991 год - сустракаў на Кубе, будучы кіраўніком апошняй савецкай групы турыстаў. Аб'ехалі ўвесь востраў, наведалі многа гістарычных мясцін і музеяў. Вада ў моры больш за 20 градусаў, добра і вальготна адпачывалі…



***Наша група ўскладвае вянок на магілы савецкіх вайскоўцаў, загінуўшых на Кубе пры выкананні інтэрнацыянальных абавязкаў***

Пра наведванні ўсіх краін аформіў цікавыя і змястоўныя фотаальбомы.

**Гаўрош Таццяна Мікалаеўна** выкладала хімію, біялогію. Цікавыя доследы. Кідалі натрый у ваду - выбух.

Каля школы на значнай тэрыторыі быў школьны прысядзібны ўчастак. Гэта была вотчына настаўніцы па біялогіі і дзяўчынак. Там вырошчваліся кветкі і розная гародніна. На градках ставіліся фанерныя таблічкі з назвай раслін на той час нам, вясковым, гэта было дзіковінай. Летам па графіку замацоўвалі вучняў на практыку. Мне з некалькімі хлапчукамі даверылі шкліць пабітыя вокны і замазваць "кітам" шыбы.

1955-1960 гг. На падворку школы была сабрана амаль прыгодная на той час сельскагаспадарчая тэхніка: плугі, бульбакапалка, сеялка і іншае. Наглядны матэрыял для вывучэння школьнага курса земляробства згодна з хрушчоўскім заклікам: "Увесь клас - у калгас". Закончылася тым, што праз некаторы час увесь "матэрыял" здалі на металалом.

На апошнім годзе, у 10-м класе, я быў старшынём вучнёўскай вытворчай брыгады. Восенню школьнікаў пасылалі дапамагаць калгасу імя Булганіна выбіраць бульбу. Я са сваім класам працаваў у Баравічах, дзе брыгадзірам быў Раік Уладзімір. Бульбу вывочвалі парай коней, дзеці падбіралі бульбу ў кошыкі, а трызубцамі перакопвалі баразну. Кошыкамі напаўнялі скрыню на возе, і конь адвозіў у бурт. Было спаборніцтва паміж класамі. Па выніках наш клас атрымаў прэмію з рук старшыні калгаса Давіда Яфімавіча Галямполя -

даволі аўтарытэтнага сярод калгаснікаў кіраўніка. Ён, едучы па дарозе, заўсёды прыпыняўся і падбіраў вучняў у "козлік". Мне некалькі разоў давяралі па-мастацку аформіць альбом калгаса "Эстафета працоўнай славы".



***1955 год. Каля клуба ў в. Жучкі ў дзень выбараў. Кіраўніцтва калгаса імя Булганіна, злева-направа: Савонь Яўген - механік, Раік Уладзімір - брыгадзір Баравіч, Галямполь Давід Яфімавіч - старшыня, мажліва з жонкай і сынам, Курылаў Генадзь - брыгадзір Дроздава.***

***P.S.*** Гэта навука і практыка стала для мяне асноўнай працоўнай справай на ўсё жыццё: працаваў заатэхнікам, намеснікам старшыні калгаса, каля 15-ці гадоў - дырэктарам саўгаса-экс/базы "Ніва".



***Першы сакратар Лідскага райкама партыі Бурлыка І.Р. уручае Пераходны Чырвоны сцяг за перамогу ў сацспаборніцтве***

**Пазакласныя навыкі**



**Папковіч Васіль Канстанцінавіч** вёў гурток фатаграфіі, меў фотаапарат - "гармошка", куды ўстаўлялася шкляная негатыўная фотапласціна.

Вось той самы фатаапарат Васіля Канстанцінавіча зберагла і захоўвае як дарагую сямейную рэліквію дачка Ірына.



Потым у школу дасталі "Любіцель": кадр 6х6, плёнка - шпуля на 12 кадраў. Трэба было добра асвоіць як настройваць вытрымку і дыяфрагму ў залежнасці ад надвор'я, наводзіць рэзкасць. Праявіцель-замацавальнік рыхтавалі па рэцэптах. Праяўка плёнкі ў фотабачку. Туды навобмацак у цёмным месцы на шпулю наматвалася фотаплёнка Найбольш складаным было пячатанне фотаздымкаў. Электрычнасці не было ў школе і вёсках. А трэба было "засвяціць" праз негатыў фотапаперу - некалькі секунд.

Шчыльна завешваў вокны і дзверы ў каморы, газавы ліхтарык чыгуначніка даваў чырвонае святло. Мой метад: на баку ў валізцы ставіў газавую лямпу - зачыняў. Экспазіцыя: адчыняў вечка на 2-3 секунды- засвечвалася фотапапера… Потым у ванначку з праявіцелям апускаеш лісток фотапаперы і пры чырвоным святле вырысоўваліся здымкі… Колькі радасці было, калі пасля некалькіх счарнелых картак атрымоўваліся больш-менш здатныя фотакарткі.

*Невозможно вернуться нам в юность*
*Только память о том всё жива*
*Фотографии - вот это средства,*
*Что вернёт нас на миг хоть туда!*



***Мае першыя фотаздымкі. Драздаўцы-аднавяскоўцы: Пазняк Дзёма, Дзякевіч Валодзя, Чэх Міша. А гэта -я.***

Фотаспраўу і фотаапарат палюбіў на ўсё жыццё: На той час за немалыя грошы купляў усё больш дасканалыя: "Юность", "ФЭД", "Смена","Эликон", "Zenit"…

Да гэтай фотасправы яшчэ меў цэлы набор фотапрыстасаванняў: фотапавелічальнік, фотаглянцавацель,



***Лета, 1962 год. Малодшыя брацікі Жора і Жэня на шашы праводзяць мяне на працу заатэхнікам у Дзітрыкі***



***"Марак-рабочы-камісар": Жора Кудла, Лёня Данэйка, Славік Пазняк***

бачкі, ванначкі, ліхтар, пінцэты, валікі… Заўсёды ў запасе меў фотаплёнкі, хімрэактывы. Пазней, недзе ў васьмідзясятыя гады з цяжкасцю, але асвоіў і даволі дарагое ды капрызнае каляровае фота…

Ні ў якое параўнанне не ідуць тагачасная і цяперашняя фотатэхніка і працэс атрымання здымкаў і іх якасць.

Па храналогіі жыццёвых падзей і пра краіны, дзе пабываў аформіў больш за 20 фотаальбомаў.

**Сегень Ганна Адольфаўна** - добры, таленавіты педагог, справядлівы чалавек, уважлівы класны кіраўнік, выкладала нямецкую мову. Нямецкая была адзіным прадметам, па якім мне паставілі ў атэстаце "добра" з нацяжкай - не любіў нямеччыну

А колькі цікавага апавядала яна нам аб германскім краі, яго людзях, звычаях, норавах! Усе мы захапляліся яе манерай гаварыць, старанна рыхтаваліся да ўрокаў, ва ўсім стараліся апраўдаць яе аўтарытэт.

***P.S.*** Як дадатак, падцягнуць нямецкую мову ў жыцці дапамог лёс: напаткаў жонку - Яніну, выкладчыцу нямецкай мовы.

А будучы ў складзе групы аграрнікаў у 1985 годзе ў ФРГ, раз цераз раз размаўляў з нямецкімі фермерамі: "Was ist das?" А калегі: збянтэжана: "Што ты сказаў?"

Прайшло больш за шасцідзесят гадоў як мы ў 1959 годе пакінулі сцены роднай школы але і цяпер з удзячнасцю ўспамінаем сваю "маму"- класнага кіраўніка Ганну Адольфаўну. Для кожнага з нас яна знаходзіла добрае слова, аддавала часціцу сваёй душы. З цікавасцю праводзіла класныя мерапрыемствы: канцэрты, экскурсіі, рыхтавала нас да далейшай вучобы і жыццёвых дарог… Хлопцы прызываліся ў армію, вучыліся далей, дзяўчаты паступалі і набывалі прафесію і не забывалі мілую Ганну Адольфаўну. Шкада, што ўжо каля 30-ці год, як яе не стала. Але мы помнім і любім.

**Аповед пра Сегеня Адольфа Сцяпанавіча, запісаны Сарокам Н. В. 9.07.1965 г.**

*"Ведаў, што Адольф Сегень пасля рэвалюцыі быў камісарам у Лідзе і дзейнічаў па выгнанні немцаў. У 20 - я гады жыў некаторы час у Вільні і сябраваў з беларускім паэтам Янкам Купалам. За Польшчай быў асуджаны. Потым ён ажаніўся і жыў у вёсцы Колышкі што каля Ліды, і пайшоў на гаспадарку жонкі, таму што быў беззямельным. Ведаю, што ў яго была дачка Ганна. Калі ў 1939 г. пачалася вайна, яго забралі палякі, а калі прыйшлі "першыя Саветы", ён вярнуўся. Сегень шмат цікавіўся гісторыяй Беларусі, новай савецкай літаратурай. У 1941 годзе з прыходам немцаў супрацоўнічаў з партызанамі. Яго выдалі ў 1943 г. і расстралялі падчас налёту ў вёсцы Пяцюлеўцы".*

У чэрвені 1959 года - выпускныя экзамены. Першы і галоўны - сачыненне па рускай мове і літаратуры. Тэмы былі засакрэчаны Міністэрствам адукацыі, і канверт адкрываўся камісіяй у 9 гадзін . Запомніліся тэмы па творах Максіма Горкага "Маці", Мікалая Астроўскага "Як гартавалася сталь", Міхаіла Шолахава "Паднятая цаліна". На напісанне адводзіліся чатыры гадіны. Трэба было ў поўнай меры раскрыць выбраную тэму і напісаць не менш, чым на 8-10 старонках. А галоўнае - не дапусціць памылак.

Потым былі яшчэ сем вусных іспытаў: па беларускай літаратуры, алгебры, геаметрыі, гісторыі, фізіцы, хіміі і нямецкай мове.

Вечар выпускнікоў быў з удзелам бацькоў. На сталах - няхітрая вясковая закуска, духмяныя кветкі



***1959 год. Пасля экзамену. Класны кіраўнік 10-ага класа - Сегень Ганна Адольфаўна і некалькі выпускнікоў: Драгун Крысціна, Гук Зоя, Бобрык Сабіна, Курыловіч Тамара, Харкевіч Валянцін, Кудла Віктар, Драгун Раман.***



БССР
МІНІСТЭРСТВА АСВЕТЫ

АТЭСТАТ СТАЛАСЦІ

вяргіні і паміж імі ў карафках самагонка.

Падсеўшы да дырэктара школы Клябанава А.М. добра яго падпаілі, так што заўчасна адвялі дахаты. А мы, выпускнікі, да самага світанку гаманілі, весяліліся… Марылі аб будычыні, планавалі сустракацца кожны год… Але не спраўдзілася ні разу…

Пасля школы мы раз'ехаліся па розных кутках краіны. Адны з нас працягвалі вучобу, іншыя пайшлі працаваць. Сувязі нашы часова перарваліся.

*Куды б ні закіуў нас лёс апантанны,*
*Ніяк не закрэсіць тых школьных гадоў,*
*Дзе погляды нашы ў жыццё сфармаваны,*
*Дзе лепшы наш час так імкліва прайшоў…*

Атрымаў атэстат сталасці, што дало магчымасць у далейшым атрымаць вышэйшую адукацыю.





***Старшы лейтэнант ВМФ Кудла Віктар у 75-годдзе***

*Хачу сказаць на развітанне*
*Для тых, хто твор мой дачытаў*
*І задае сабе пытанне,*
*Ці праўда ўсё, што напісаў?*
*Магу, спадарства, вас заверыць:*
*Я тут хлусні не дапусціў,*
*Паверыць можна ці праверыць,*
*Бо ўсё праз сэрца прапусціў.*

Вось ужо больш за 60 гадоў, як мы выйшлі са школьных сцен, а пачуцці нашы захаваліся. За гэты час некаторыя настаўнікі ўжо адышлі ў вечнасць, але яны жывуць у нашых сэрцах, і мы заўсёды ўспамінаем іх.

Вялікае шчасце мець сапраўдных сяброў! Хочацца прапанаваць, каб усе, незалежна ад узросту, ушаноўвалі тых, хто бескарысна дзяліўся сваімі ведамі, недасыпаў начамі, не шкадаваў свайго здароўя, каб выхаваць нас сапраўднымі грамадзянамі нашай вольнай, незалежнай, любімай Беларусі, дзе можна спакойна жыць, вучыцца, працаваць



Пра далейшы жыццёвы лёс і працу коратка ў аўтабіяграфічным экскурсе "Увесь час у жыццёвым паходзе."

**Мае ўзнагароды:**

Ордэн "Знак Пашаны"- уручаў першы сакратар ЦК КПБ Сакалоў Е.

Медаль "20 год Перамогі"- уручаў старшыня СМ СССР Касыгін А.Н.

Бронзавы медаль ВДНГ - уручаў міністр МСГ БССР Сянько Ф.П.

Медаль "Ганаровая грамата ВС БССР" - першы сакратар Лідскага РК КПБ Бурлыка І.Г.

Жэтон "За дальні паход" - камандзір крэйсера Гатчынскі Г.

Выдатнік ВМФ - контр-адмірал Катушаў.

Значкі "Пераможца сац. спаборніцтваў" 1975 г., 1976 г., 1979 г.

Жэтон "Ударнік 11-ай пяцігодкі" - першы сакратар Лідскага РК КПБ Грывачэўскі С.А.

Значок "Чампіён раёна" па стральбе - старшыня Лідскага РА ДААСАФ Іваноўскі М.

Значок-ромб "Вышэйшая адукацыя" - Рэктар ГДСГІ Ягораў

Юбілейная медаль "100 год УС" - Лідскі ваенкам Херман А.В.

Медаль "75 год вызвалення Беларусі" - Лідскі ваенкам Дакучаеў В.А

Юбілейная медаль "75 год Перамогі"- п/п Кірычэнка Н.В.

Юбілейныя медалі ВМФ - старшыня БАВМ Лідчыны Каспяровіч В.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Альжбета Табенская***

# З долі і няволі

## *Успаміны выгнанкі**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**IV**

Даручыла сябе Божай апецы, прамаўляла"Пад Тваёй абаронай" ды "Хто пад апекай" і ехала, першы раз у жыцці сама кіруючы возам. Стралец, прысланы Астрогам, ішоў наводдаль, баючыся, каб яго разам са мной не схапілі казакі. Добры конь ішоў як найспакойней па знаёмай яму дарозе, бо мая бедная сястра ўжо не раз па ёй ездзіла. Я пра сябе прадумвала, як тлумачыцца пры спатканні з казакам, як выцярпець іхняе біццё, каб не выдаць ніякай таямніцы... Вырашыла гаварыць, што патрэбны грошы на аплату работніка (было гэта ў пачатку жніўня), таму вязу вяндліны, хлеб і ўсё, што маю ў сваім свірне, на продаж войску, бо ведаю, што добра плацяць за такія рэчы. Праваднік, набліжаючыся сяды-тады да мяне папярэджваў пра месцы больш цяжкія для праезду - даехалі нарэшце да двух дарог, тады падбег праваднік, каб мне паказаць, якой мушу пільнавацца пры вяртанні, бо ён не зможа мяне правесці, таму шко начальнік А. загадаў яму быць на світанні ў іншым месцы. Сказаў мне, што адна дарога вядзе на Кракшлі, а другая - на Ганулькі. Ехала яшчэ нейкія паўгадзіны; праваднік загадаў мне затрымацца, а сам пабег у аддзел. Праз чвэрць гадзіны, не больш, пачуліся крокі некалькіх чалавек па вадзе, бо была гэта, як у многіх месцах пушчы, даліна пакрытая балотнай травой, урочышча. З'явіліся перада мной тры паўстанцы, узброеныя фузіямі і пісталетамі, прывіталі мяне выказваннем пашаны павайсковаму; здавалася мне, што бачу ў іх пасланцоў з неба для вызвалення Бацькаўшчыны, герояў гатовых ахвяраваць сваё жыццё за брацціяў. Начальнік, а гэта быў ён з двума ад'ютантамі, наблізіўся да мяне, ішоўшай яму насустрач, падзякаваў за маю адданасць і распавёў пра сваё найсмутнейшае становішча: ён меў загад Нацыянальнага ўрада заставацца на месцы, а ніхто не хоча дапамагаць яму ўтрымліваць аддзел, што, відаць, хочуць замарыць паўстанцаў голадам, што няшчасныя абарванцы, без абутку, з палкамі заміж зброі чакаюць наступлення непрыяцельскага войска, сказаў, што на яго загады, некалькі разоў паўтораныя, пра дастаўку патрэбнага харчавання парафіяльны ўрад ніякага адказу не дае, (парафіяльны ўрад, цывільны ўрад, які атрымоўваў загады начальніка і павінен быў дастаўляць харчаванне), даў мне даручэнне да двух парафіяльных урадаў, далей распавёў па-французску пра ўпадак духу няшчасных паўстанцаў, якіх ён толькі суровасцю і пагрозай смяротнай кары ўтрымовае ў лесе. Са слязамі, развітаўшыся з няшчаснымі, паехала. Праваднік яшчэ раз паўтарыў перасцярогі, каб трымалася, зробленых ім адносна дарогі, указанняў і падаўся ў іншы бок выконваць загад начальніка. На самай справе той апошні казаў яму яшчэ далей мяне правесці, але я не настойвала на тым, баючыся, каб ён на азначаны час не спазніўся. Пагружаная ў найсмутнейшыя думкі, адпусціла цуглі, даверыўшыся вернаму каню, які вёз мяне ўважліва па вядомай яму дарозе, але ў адным месцы мне падалося, што ён мыляецца, і я павярнула яго ў іншы бок. Пасля гэтага я ехала доўга, вельмі доўга, аж пакуль не зразумела да вялікага майго ўражання, што блуджу! Конь ішоў з апушчанай галавой, як бы журботны, як бы выгаворваў мне, што звярнула яго з добрай дарогі. Ехала без малейшай надзеі выбрацца з пушчы, у досыць цёмнай начы, уяўляючы самыя жудасныя малюнкі ў сябе перад вачыма.

Нарэшце пачало світаць. Выехала на нейкі лужок у лесе, дарога вяла на мост - новы, незакончаны, без ніякага падмашчэння; бедны конь ускарабкаўся на вышыню, адкуль мусіў скакаць уніз. Я за шчаслівае пераадоленне гэтай небяспекі дзякавала Богу і была ўдзячная вернаму каню. Густы туман пакрываў луг, я не магла нічога бачыць за пару крокаў; раптам убачыла перад сабой другі мост, а далей нейкі бляск сталі, зброі! Ведаючы, што паўстанцы зброі не мелі, была ўпэўнена, што гэта непрыяцельскае войска. Ад'язджаць назад ці ехаць далей, было не да разумення. Спыніла разумную жывёліну і пачала горача маліцца да Бога аб паратунку і міласэрнасцю над маёй душой, не мела ўжо надзеі пазбегнуць лютай смерці. Начная імгла пачала распаўзацца, світанне станавілася ўсё больш выразным, пачалі адрозніваца прадметы, і я ўбачыла, што тую зброю ўдавалі косы добрых гаспадароў з вёскі Кракшлі. О, што за шчасце гэта для мяне было! Яны таксама мяне згледзелі і са здзіўленнем наблізіўшыся і на майго каня паглядзеўшы, сказалі, што яго яны ведаюць. Я не разумела іхняй мовы, бо размаўлялі паміж сабой па-літоўску, але была далёкая ад усялякага страху, бо спачуванне і дабрата выяўляліся на іхніх тварах. Знайшліся паміж імі і такія. якія ўмелі па-польску; гэтыя мне распавялі. што сюды на гэтым кані прыязджала маладая паненка, якую маскалі, што стаялі ў вёсцы, забралі; абяцалі завесці мяне ў хату, дзе яна бедная два дні была, пакуль яе не адвезлі ў Вільню. Потым, выпрагшы каня, каламажку перанеслі на другі бок, мне для пераходу зрабілі кладку і вельмі дзівіліся, як я магла пераехаць цераз незакончаны мост. Патлумачылі мне, што гэта новая дарога для руху расейскага войска да чыгункі, якая будавалася паблізу.

Калі мы прыбылі ў вёску, сабраліся натоўпам кабеты і з вялікім спачуваннем і плачам пачалі апавядаць

* Пераклад з польскай мовы Станіслава Судніка. Паводле "З долі і няволі. Успаміны выгнанкі". Кракаў, 1897.

пра прыгоды маёй сястры, паказваючы месца, дзе яе ўзялі, дзе сядзела, як на яе крычалі, як фурмана білі нагайкамі, а яна ад гэтага плакала, як нарэшце з войскам, якое ішло праз два дні ў Вільню, яе вывезлі. Так горка плакалі тыя кабеты, як бы гэта здарылася з іхняй найбліжэйшай крэўнай. Мужчыны каня майго накармілі, напаілі, мяне кабеты паклікалі паесці, далі гарачага малака, яечні, а потым на чыстай пасцелі спаць мяне паклалі. Ціха было ў хаце, бо ўсе пайшлі на працу, засталася толькі адна, якая гатавала есці. Я доўга не магла заснуць, але ў канцы такі моцны сон мяне ўзяў, што не чула, як сабраліся на абед, прачнулася толькі, калі мужчыны выходзілі. Папрасіла, каб каня адразу запрэглі і нягледзячы на моцныя іхні наляганні, каб даўжэй адпачыла, рушыла ў дарогу пры шчырых развітаннях і абсыпаная дабраславенствамі. Прыехаўшы шчасліва да занепакоеных пп. Маргевічаў і, папасвіўшы там каня, позним ужо вечарам вярнулася да чакаўшага з нецярпеннем бацькі. Плакаў мой добры бацька, слухаючы маё апавяданне пра прыгоды Антосі, а потым пра мае ўласныя. Праз некалькі дзён, у нядзелю, паехаў бацька ў Васілішкі на набажэнства, вярнуўся чамусьці ў кепскім гуморы, маўклівы, паабедаў, сказаў мне, што мусіць ехаць у Васілішкі да асэсара, што вернецца пад вечар. Праз пару гадзін вярнуліся коні, але бацькі не было. Я паехала ў Васілішкі даведацца, што з ім стала, там яго ўжо не знайшла, вывезлі яго ў Ліду. Адразу назаўтра падалася ў Ліду, бачыла любімага бацьку ў вязніцы. 75-гадовы стары быў вясёлы, ні чым не трывожыўся, нават рады быў з таго, што нягледзячы на старасць трапіў пад агульны пераслед. Сардэчна мяне абдымаў, радаваўся мне, пра ніякія справы не гаварыў, бо ўсё даручаў Богу, на яго ўсклаў усю надзею. Я мела надзею, што бацька неўзабаве будзе вызвалены, і не засталася пры ім. Сёння для мяне гэта вялікі боль, і мучаць мяне згрызоты сумлення.

Паколькі зняволенне маёй сястры ўразіла ўсіх кабет так, што страцілі адвагу, я вырашыла паказаць, што нельга нам спыняцца на дарозе пасвячэння, што надышла для полек хваля, калі ў працы, адданасці і адвазе мы павінны зраўняцца з мужчынамі, што ўласна такім спосабам павінна пачацца нашая эмансіпацыя. Таму я найчынней занялася выкананнем даручэнняў і загадаў начальніка - была пару разоў у Вільні, а бацька мой бедны дарэмна ў натоўпе людзей, якія атачалі вязніцу пры вывазе яго ў Вільню, смутным позіркам дачку сваю вышукваў, якая ў такую хвілю ля ног яго быць павінна была. Распавядалі мне потым, як на звароты да яго не адказваў, не чуў, мяне адну толькі бачыць прагнуў, а мяне там не было. Трымаў пад пахай падушку, якую дала яму на час побыту ў Лідзе мая даўняя служанка, і думаў, што яна ад мяне, аддаць яе не хацеў, на просьбы служанкі не зважаючы.

Па суседстве ды і па ўсім павеце ішлі арышты, шмат абываацелеў, шмат паўстанцаў зняволілі; ведаючы пра тое, што і я магу быць неўзабаве арыштавана, па парадзе некалькіх чалавек надумала прадаць інвентар, збожжа, рухомасць бацькі і пакінуць сабраныя грошы ў пэўных руках у Вільні для ўручэння бацьку, калі яго выпусцяць з вязніцы. Аднак знайсці добрых купцоў не магла; таму, баючыся, каб усё гэта не было змарнавана, раскрадзена, прадала за бясцэнак. Коні - па 15 руб., каровы - па 3 руб., бочка жыта (18-20 пудоў) - па 3 руб. Палажыла тыя грошы ў панны Э.О., маёй прыяцелькі ў Вільні, і яны былі пазней найсумленней бацьку майму аддадзены. З тых сабраных грошай пакінула для сябе 50 руб. і для зняволенай сястры на руках згаданай асобы - 30 руб. Пакідаючы гэтыя квоты для сябе, цешылася надзеяй, што яшчэ праз нейкі час буду жыць у Вільні, што забяспечу бацьку патрэбнай вопраткай, не думала, што мяне так хутка схопяць.

Каб атрымаць якія-небудзь весткі пра майго бацьку і сястру, ужо некалькі месяцаў зняволеных, паехала ў Вільню, маючы пры тым даручэнне ад начальніка партыі паўстанцаў да нашай вышэйшай улады. Узяла ў ключвойта ў Васілішках нейкае там пасведчанне, паперку, якая нічога не значыла і якую паказвала па дарозе, у вёсках і на гасцінцы, затрымліваўшым мяне вартавым, дабралася да Вільні і адтуль вярнулася шчаслівa. Прыбыўшы на месца, першую ноч перабыла ў высакародных, добрых маіх знаёмых, сям'і палкоўніка Бжазінскага. Назаўтра, памаліўшыся ў Вострай браме, цэлы дзень хадзіла, каб залатвіць справы і выканаць даручэнні; ні з бацькам, ані з сястрой пабачыцца не магла, хадзіла толькі пад вокнамі вязніцы св. Пятра, дзе дарагі мой бацька знайходзіўся, думкамі прабіваючы тыя муры, якія мяне ад яго аддзялілі, ля ног яго пачувалася, каб іх абліць слязамі і дабраславення папрасіць. Такое ж развітанне было з Антосяй, зняволенай некалькі месяцаў назад у цытадэлі, бо і з ёй пабачыцца не магла. Такую толькі мела пацеху, што даведалася, што жывыя, здаровыя і ніякіх здзекаў і цяжкіх пакаранняў не пераносяць, пра якія фальшывa кружылі жудасныя весткі. Радзілі мне, каб як найкарацей была ў Вільні, бо ўжо вядома было, што мяне шукаюць, таму ў пп. Бжазінскіх на другую ноч ужо застацца не магла, не хочучы іх падвесці пад якія-небудзь непрыемнасці, а пераначавала ў пані Марыі Путкамер, той незабыўнай Марылі песняра Адама. Пані Марыя, ведаючы, што хаваюся, што за прыём мяне ў сваім доме можа адказваць, нягледзячы ні на што, так прыветліва, так па-прыяцельску мяне прыняла, так да мацярынскага сэрца прытуліла, усякімі выгодамі атачыла, а прыпыніўшыся над тым, што мяне чакае, пры развітанні такой парадай падтрымала:

- Вер Богу, Ён цябе не пакіне; падтрыманая яго ласкай, усё вынесці патрафіш, і шчасліва выйдзеш з грозных няшчасцяў, сама церпячы, іншых не выдасі, у сабе самой ніякай не шукай веры, бо толькі чалавек, ласкай Божай падтрыманы, можа не ўпасці.

Я была ўражаная тымі словамі, бо моцна пастанавіла: лепш памерці ў засценках, чым іншых падвесці пад пераслед - не дапускала нават, каб магло быць інакш; пазней пераканалася, што словы любай Марылі і побыт у яе перад тым, што мяне чакала быў адным з праяваў найбольшай міласэрнасці Божай. Я палюбіла яе, яшчэ яе не ведаючы і пра знаёмства не марачы, цяпер найнеспадзяванай аказалася ў яе доме і з вуснаў яе пачула тыя выратавальныя словы! Пранікнулі яны мне глыбока ў памяць і назаўсёды засталіся ратункам ад роспачы, святлом з неба, якое сярод цемры, атачаўшай мяне, раз'яснялася над пропасцю.

З паняй Путкамер мы былі ў лідскага маршалка пана Сэфана Буткевіча, які пасля адбыўшагася нападу на Дамейку быў у вялікай трывозе. Выехала пад вечар у маёнтак пані Путкамер Болценікі, дзе, забяспечаная яе лістом да служанкі, найспакойней і найвыгодней пераначавала. У Рудаў вярнулася без ніякіх дрэнных прыгод, аднак у найсмутнейшым настроі, ведаючы, што гэтае дарагое, святое для мяне месца, дзе я так спа-

койна, шчаслівa, хоць і бедна жыла, шчасця мне не верне. Сустрэлі мяне з тым, што шаноўны дзяржавец Рудава шляхціц Шумковіч атрымаў ад васілішскага асэсара загад, каб пра мой прыезд яму паведаміў, таму я вымушана была адразу выехаць. Укленчыла ў месцы, дзе два гады назад паміраўшая маці нас усіх чацвярых сясцёр, укленчыўшых ля яе ног, дабраславіла, запавядаючы, каб мы адна другую любілі і адна другую ў патрэбе падтрымлівалі, прамовіла за яе душу "Анёл анскі" і "Пад тваю абарону", пацалавала тую дарагую для мяне зямлю, заглянула ва ўсе куткі дома, укленчыла перад апусцеўшым ложкам майго бацькі, зычліва развіталася са слугамі, паспешна села ў брычку і, заліваючыся гарučымі слязамі, паехала да жыўшай за 10 вёрст ад Рудава с.п. маёй малодшай сястры Эміліі Урублеўскай. Малы той фальварачак у Ішчалнскай парафіі, які швагер трымаў у арэндзе ад п. Люцыяна Кастравіцкага, называўся Устронь. Прыехаўшы ва Устронь, не заязджаючы на дзядзінец, я адправіла чалавека з коньмі, сама пайшла каля плоту, аж тут сустрэла швагра, с.п. Зыгмунта, які мяне папярэдзіў, каб не заходзіла да іх у дом, бо шукаюць мяне і маю служанку Аляксандру Ёч, і трэба, каб пра мой побыт у іх ніхто не ведаў. Правёў мяне праз агарод у малы свіран, там знаходзілася два тыдні, мяне адведвалі і кармілі найлепшая сястра і швагер, ніхто з дзяцей або слуг пра маю прысутнасць не ведаў. У адным месцы падлогі падымалася дошка і там я мела схавацца ў выпадку небяспекі. У адну з начэй, як мне здаецца, з суботы на нядзелю я запаліла свечку, трохі чытала, і тое святло мяне выдала. У нядзелю сястра Эмілія паехала да касцёла ў Ішчалну, швагер па справах - у Васілішкі, я малілася ў сваёй схованцы, вялікі смутак агарнуў мяне, запрагнула пабачыць дзяцей і маю старэйшую сястру Вінцэнту. Таму выйшла са свірна і пайшла да іх. Сустрэлі мяне ўсе дзеці з радасцю, крычаць пачалі: "Цёця, цёця! Адкуль цёця, а дзе коні?" Пасля найчулівейшага прывітання сястра і старэйшыя дзеці: дванаццацігадовая Марыня і дзесяцігадовы Казя пачалі круціцца, чым бы мяне прыняць. Нічога мне не хацелася, цешылася іхнім выглядам: падалі самавар, выпіла толькі шклянку гарбаты, аж убачыла, што свіран акружаны казакамі і ўвесь падворак напоўнены жаўнерамі. Гляджу, аж тут усоўваецца ў пакой асэсар з афіцэрам і пачынаюць шукаць нешта па ўсіх кутках. Падышоў нарэшце асэсар да мяне са страху як бы прыкутай да канапы і запытаў:

- Ці пані ведае, дзе знаходзіцца Ёчаўна (Ёч)?

- Не ведаю нічога пра яе, - адказала.

- Дзе сястра пані?

- Паехала ў Ішчалну.

- А муж пані?

- Швагер мой паехаў у Васілішкі.

Асэсар выйшаў з пакоя, а спаткаўшы ў сенях пяцігадовага Уладзю, майго хрышчонага сына і пляменніка, спытаў у яго:

- Ці гэта твая мама?

- Не, гэта цёця Альжбета.

Вяртаецца асэсар у пакой і пытаецца мяне:

- Ці пані ёсць Альжбета Табенская?

- Так.

- Чаму ж мне пані гэтага адразу не сказала, я так даўно пані шукаю.

- Не ведала, што мяне пан шукае.

- Няхай пані будзе ласкава збірацца, бо пані паедзе са мной.

- Добра.

Пайшлі ў свіран, напонены жаўнерамі, якія адрывалі ад сцен паліцы з салам і вяндлінамі, папрасіла іх, каб выйшлі, змяніла хутчэй бялізну, апранулася, надзела капялюш і прыйшла развітацца з дзецьмі. Што за плач быў, што за крыкі роспачы:

- Цёця, цёця! Што з цёцяй будзе?

Не была ў стане сягнуць думкай у будучыню, не прадчувала, як далёка прастора часу і месца ад любімых істот і мясцін мяне аддзеліць, колькі нядолі трэба будзе перажыць нам усім, перажывала, але тых перажыванняў апісаць не патрафлю. Мусіла нарэшце развітацца з сястрой і тымі мілымі дзеткамі, з якіх наймалодшая Таклюня ледзве пачынала хадзіць, і сесці ў брычку з асэсарам і афіцэрам. Ад'ехаўшы з той ганаровай, як бы пахавальнай вартай, так, можа, з вярсту дарогі, убачыла вяртаўшуюся з касцёла сястру Эмілію. Прайшло гадоў 30 ад той хвілі, а я вобраз болю маёй найчуллівай сястры бачу і цяпер так выразна перад вачыма, як бы на яе гляджу, хоць яна ўжо шмат гадоў спачывае на Бернардынскіх могілках. Калі мы абедзве з брычак выйшлі, Эмілія да ног маіх упала, балесным крыкам роспачы ўсіх працінаючы, трымала мяне ў сваіх абдымках, адыходзіць не хацела. Мне загадалі ехаць; села, і павезлі мяне ў Васілішкі, з шэсць вёрст ад Устроня; ледзьве туды даехалі, а ўжо сястра са шваграм прыбылі. Мы ўсе трохі супакоіліся, заблішчала смутным святлом надзея майго вызвалення. Трэба, аднак, было ехаць далей, люд натоўпам сабраўся каля дома асэсара, шмат было зычлівых паміж імі, агульны галосны плач разлягаўся:

- За што? За што?

Гэта была першая ў тых краях вывазка. Асэсар загадаў гнаць коней галопам, пакуль не зікнуць мне з вачэй любімая сястра, швагер і Васілішкі.

Была, можа, гадзіна сёмая, як мяне вывезлі з Васілішак. Ехаў са мной малады афіцэр фінляндскага палка і два жаўнеры. Мы ехалі цэлую ноч і на світанні прыехалі ў Ліду; прывялі мяне да начальніка павета палкоўніка Алхазава; досыць доўга чакала ў сенях, дзе была сялянка з-пад Дубіч, якая плакала і праклінала паўстанцаў за тое, што яе мужа павесілі за здраду. Была гэта жонка стральца Базыля, які паказаў маскалям месца знаходжання Нарбута. Калі пасля смерці таго Астрога прыняў камандаванне паўстанцамі, Нацыянальны ўрад загадаў яму рушыць у Дубічы і здрадніка Базыля павесіць. Калі паўстанцы прыйшлі ў яго хату з апавяшчэннем выраку смерці, без здзіўлення прыняў тую весту, просячы толькі, каб яго на тонкім паску павесілі, і вось жонка Базыля плакала і заклікала да помсты за смерць мужа. Алхазаў суцяшаў яе, гаворачы, што муж яе памёр за цара, за Айчыну, але яна крычаць не пераставала і паказваючы на двух ці трох прыведзеных вязняў, лемантавала:

- Вот он моего мужа повесил! Он! Этот самый!

Палкоўнік загадаў выправадзіць вязняў. а потым павярнуўся да мяне з іскрыстымі ад гневу, вялізнымі чорнымі вачамі, лаяў на розныя лады і закончыў так:

- Повесят вас, повесят, вы первая мятежница!

І загадаў адвесці мяне на гаўптвахту. Дайшла туды ў суправаджэнні жаўнераў, радая, што яшчэ рана, што апрача некалькіх яўрэяў ніхто мяне не бачыў, толькі пры ўваходзе ў гаўптвахту здарыўся прыкры эпізод, калі стары Ёч па загадзе жаўнера ўстаў са сваёй пасцелі на саломе, каб мне месца вызваліць, а сам некуды іначай пайшоў. Быў гэта бацька Аляксандры, прысланай да

мяне на нейкі час для выканання даручэнняў нашага ўрада, а хутчэй паўстанцкай партыі. Бацька, які не падзяляў яе перакананяў, гневаўся на яе, сварыўся. Жудаснае ўражанне зрабіла на мяне тая роспач няшчаснага старога, які ўсё жыццё правёў спакойна, шаноўна, а сёння яго як злачынца жаўнеры пераводзілі з вязніцы ў вязніцу. Аляксандра Ёч, маладая, здаровая, адважная, растаропная, перапранутая ў жабрачку, шматкратна прыбягала з папярэджаннямі, каб данесці да партыі Астрогі пра набліжэнне непрыяцельскіх войскаў, або давезці якія-небудзь прадукты. Колькі разоў, схопленая жаўнерамі. лоўка ад іх выслізвала, пачынаючы якую-небудзь вылазку, бясстрашная Аляксандра, прыбраная ў старую сярмягу жабрачкі, з галавой, абвязанай хусткамі, з торбамі за плячыма, падала на калені перад абразом Маці Божай Вастрабрамскай, прамовіўшы "Пад Тваю абарону", са слязамі ў вачах, але з верай і адвагай у сэрцы, бегла туды, куды яе задума вяла. Бацька яе, прызнаны за невінаватага, быў неўзабаве вызвалены.

Журботныя падзеі ўчарашняга дня, бяссонная ноч і тое, што ў Лідзе даведалася, найжудасней мяне прыгнялі. Пераследаваная прыкрымі думкамі хадзіла ўздоўж па пакоі, аж раптам дзверы адчыніліся і ўляцеў са злосцю ваенны начальнік Лідскага павета Чартоў, пачаў мяне выпытваць пра знаёмых мне людзей, дзе яны ёсць? Але нічога не даведаўшыся, стукнуў дзвярыма, крыкнуў:

- Повесят вас, повесят! - і пайшоў, адкуль прыйшоў. Добрыя, ласкавыя знаёмыя прыслалі мне гарбаты, пячэння, падушку і коўдру; якім вялікім дабрадзействам для мяне была іхняя памяць, распавесці цяжка. Шаноўны лідскі тракціршчык п. Андрушкевіч прыслаў мне абед, пад вечар пані прэзідэнтша - фруктаў, соку, канфецюр. О, Божа, узнагародзь іх усіх за тую дабрыню да мяне! Я ўвесь час хадзіла па пакоі, адчуваючы то гарачку. то дрыжыкі, нарэшце прыйшла ноч. Спала я неспакойна, перарывістым сном, пад раніцу прачынаюся, а тут жаўнер, які пільнаваў мяне, падышоў ціхенька да канапы, на якой я спала і падсунуў руку пад падушку.

- Што гэта значыць? - крыкнула

- Нічога, нічога, я шукаў у вас папяросы.

Назаўтра мне зноў прыслалі гарбату і пячэнне. А 10-й прыйшоў Алхазаў і без злосці пачаў мяне пераконваць, каб ва ўсім прызналася, каб сказала, дзе быў і дзе цяпер знаходзіцца Вітольд Гажыц; што яму ўсё пра мяне вядома; але што ўласным прызнаннем магу атрымаць палёгку. Адказала яму на гэта:

- Пан палкоўнік сказаў мне, што маю быць павешанай; верачы словам яго, я занятая толькі падрыхтоўкай да смерці, ні пра што іншае не думаю, нічога не скажу; аднаго прагну - памерці шчаслівa. Прашу мяне ні пра што не пытаць.

Разгневаны, ляснуў дзвярыма і выйшаў. Бачыла праз акно ішоўшага пад вартай п. Рыхлевіча, суседа з прылеглага пакоя, якога напэўна вялі на допыт. Прыехала ў Ліду бедная сястра Эмілія; хадзіла каля гаўптвахты, хацела са мной пабачыцца - мы глядзелі адна на адну, але прыблізіцца жаўнеры нікому не дазволілі. Я гаварыла да яе праз акно, але натуральна, голасу майго не чула. Апошні раз тады бачыла тую сваю любімую сястру, найдарожшую таварышку маіх дзіцячых гадоў! Бачыла праз акно нямала праходзіўшых знаёмых і прыязных людзей; паглядалі на мяне зычліва, але ўкрадкам, ніхто не падышоў паразмаўляць са мной, каб не выклікаць да сябе падазрэння. Пані прэзідэнтша Шукевіч, пані доктарша Горская, старая пані Петрушкевіч і іншыя добрыя пані прысылалі мне яду і розныя прысмакі, але я нічога есці не магла, губы мела спечаныя ад гарачкі, жаўнеры за мяне ўсё з'ядалі і ўзнікла ўражанне, што я хачу замарыць сябе голадам, у выніку чаго паспяшаліся з адпраўкай мяне ў Вільню. Паставілі жаўнера на варце ў маім пакоі, і ад той яго прысутнасці я не магла ні на хвілю вызваліцца ні днём, ні ноччу, вялікія нязручнасці мела; ужо сам смярод дзёгцю, якім свае боты чысцілі, невыносны мне быў і боль галавы выклікаў; а гэтая змена варты кожныя тры гадзіны, што мне ўначы неспакою дадавала. Пры кожнай змене жаўнер падходзіў да мяне, каб пераканацца, ці жывая.

Пан Баляслаў Жукоўскі, які быў пад хатнім арыштам у Лідзе, не зважаючы на ўглядаўшыхся жаўнераў, прайшоў блізенька ад акна маёй вязніцы і, гледзячы ў другі бок, як бы сам да сябе голасна выгукнуў:

- Faites venir le medecin, vous etes malade! Eutendey-vous? Faites venir le medecin, l`officier de service ne vous le refusera pas!

Была гэта дапамога праз яго з неба пасланая! Сказала жаўнеру, што я хворая і прашу дзяжурнага афіцэра прыслаць мне доктара; жаўнер прынёс мне адказ, што доктар заўтра прыдзе. Назаўтра рана, падкупіўшы, напэўна, жаўнераў, увайшоў да мяне капелан лідскай школкі кс. Ян Свірскі, мой зычлівы знаёмы. Мімавольна сагнуліся ў мяне перад ім калені, прасіла яго пра дабраславенства, гаворачы, што слабая, упала духам і баюся, каб каго не выдаць. Ксёндз ані слова да мяне не прамовіў, перажагнаў і паспешна выйшаў. Праз гадзіну можа ўвайшоў вядомы доктар п. Горскі, карыстаючыся з хвілі, пакуль уваходзячы за ім дзяжурны афіцэр затрымаўся ў дзвярах, нешта гаворачы жаўнеру.

- Усё ведаюць, ці маю прызнацца? - запытала.

- Барані Божа, - а бачачы, што афіцэр набліжаецца, - што ў пані баліць, - запытаў і пачаў церпяліва даследаваць. Потым, напісаўшы рэцэпт, аддаў яго афіцэру, і абодва выйшлі. Я, падмацаваная духоўна дабраславенствам каплана і парадай доктара, дзякавала Богу за гэтую дапамогу, бо ўжо не ведала, што рабіць. Не памятаю, колькі дзён была ў Лідзе, ведаю толькі, што не доўга; заходзіў да мяне Чартоў і Алхазаў, нарэшце сказалі мне, каб збіралася ў дарогу. Прынеслі мне з горада абед, памятаю, былі смачныя калдуны, пакаштавала іх, але не ела. Пасля ранняга абеду, які прыслалі шаноўныя пані, паведамленыя пра мой выезд, вывезлі мяне з Ліды; стаяла чацвёрка паштовых коней, запрэжаных у брычку, у якой сядзеў афіцэр і два жаўнеры, адзін на козлах з паштальёнам, другі на пярэднім сядзенні брычкі, а афіцэр са мной ззаду. Сабраўся натоўп людзей, маса яўрэяў - плач, лямант разлягаліся; па загадзе афіцэра паштальён выцяў коней, я кіўком галавы развіталася з сабранымі, перажагналася і паўтараючы толькі словы: "Божа. злітуйся нада мной!", горка плакала. Цэлы дзень надвор'е нам спрыяла; едучы, напружвала зрок, каб наглядзецца на такія прыгожыя мясціны любімай Літвы і насыціць вочы іхнім выглядам. Пры змене коней на пошце хацела трохі пахадзіць, але прыемным гэта не было, бо жаўнер са зброяй у руках ступаў за мной крок у крок, ад яго нагляду і на хвілю вызваліцца не магла.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




У менскім выдавецтве “Навука” выйшаў пяцітомнік “История белорусской государственности”:

т. 1 - 600 ст., 500 ас.,
т. 2 - 240 ст., 500 ас.
т. 3 - 640 ст., 1000 ас.
т. 4 - 568 ст., 1000 ас.,
т. 5 - 760 ст., 1000 ас.




У сеціве з’явіўся 6 нумар электроннага краязнаўчага гістарычна-літаратурнага часопіса “Нясвіжскія каеты”, 84 ст.



У менскім выдавецтве "Медысонт" пабачыла свет кніга Валерыя Тухты "У бляску і цені салдацкіх крыжоў". Наклад навукова-папулярнага выдання - 299 асобнікаў.




У Польшчы свет пабачыла ўнікальная кніга-альбом на польскай мове "Ваўкавыск - горад трох народаў". Аўтары кнігі Мікола Быхаўцаў з Ваўкавыска і Рэната Гаўрылік-Куклінская з Гданьска.



У Варшаве ў выдавецтве AMALKER выйшаў даведнік “Польшча-Беларусь. Супольная гістарычная спадчына. Праваднік па архіўных матэрыялах, 1918-1939”.

Том 1. “Дзяржаўны архіў Берасцейскай вобласці, Дзяржаўны архіў Гарадзенскай вобласці”.

Апрацоўка і навуковая рэдакцыя: Е. Расоўская, А. Смалянчук, А. Вабішэвіч, А. Вялікі. 360 ст.

